„Саюз комуністычнае моладзі павінен быць тэй ударнай групай, якая ва ўсякай рабоце аказвае дапамогу, праяўляе сваю ініцыятыву, свой пачын“.

ЛЕНІН

КІРЫЛ АНТОНАВІЧ—дырэктар заводу
ТАВАРЫШ КЛІМ—сэкратар partколектыву
СТРЭЛЬБІН—сэкратар комсамольскага колектыву
БАЗЫЛЬ—культпроп комсомольскага колектыву
АКУЛІНА КАРПАЎНА—старшыня фабкому
ЗАРЭМБА—бракер заводу
ЮЗЭФА—яго жонка
ЦІМОХ—іх сын
АРКАДЗЬ КАРЛАВІЧ—інжынэр
КРОТ—дзелавод
РАДЗЕЦКІ—тэхнік
ВАСІЛІСА—работніца, комсамолка
ГАЛЬКА ГЛАДЫШ—работніца, комсамолка
ЧЫЖ—рабочы, комсамолец
МІШКА ПАЧЫН—рабочы, комсамолец
СЕНЬКА—рабочы, комсамолец
СУНІЦА—рабочы, комсамолец
МЕР'ЕМА—пэнсіянэрка
ЛІПА—прачка
КАНДРАЛЬ—стараста арцелі сэзоньнікаў
КЛЫЧ—сэзоньнік
МІКОЛКА—сэзоньнік
РАБОЧЫЯ ЗАВОДУ
СЭЗОНЬНІКІ
ВАРТАВЫ ЗАВОДУ
АГІТГРУПА КЛЮБУ

ДЗЕЯ АДБЫВАЕЦЦА Ў РАЁННЫМ ГОРАДЗЕ БССР
1931 г.

# М І Т Ы Н Г  Д Р У Ж Б Ы

## П Р О Л Ё Г

Сыплецца сьняжынкамі змрок. Стромкая сьнежная гара. Моладзь заводу катаецца на санках, каньках. Паступова запальваюцца апаясваюць гару рознакаляровыя праменьні. Дзяўчаты (іх многа) закідваюць сьнежкамі Чыжа,—у баку стаіць Радзецкі, пад час усьміхаецца.

Ч ы ж (да дзяўчат)

Эх, ідры—тваю качалку,
Сып, надбаў, давай закалку!

Д з я ў ч а т ы

Досыць, до'—няхай жыве,
Няхай ратунак просіць.

В а с і л і с а

Дапамогу, хай заве,
Мо' тады і просьцім.

Г а л ь к а

Прызнавайся, чыжык—Чыж,
Што ты хочаш ад жыцьця?

Дзяўчаты

Чыжык, чыжык, што-ж маўчыш?
Ну, заплач, заплач, дзіця...

Васіліса

Раскажы нам, што майструеш,
Мы тады табе даруем.

Дзяўчаты

Раскажы нам, раскажы—
Слаўны майстра, чыжык—Чыж.

Галька

Ты сяброўствам беражы!

Дзяўчаты

Раскажы нам, раскажы.

Чыж

Расказаць? Ну, што-ж, магу,
Я сакрэт не сьцерагу:
Я працую над машынай,
Усё прадумана, як сьлед.
Ашчасьлівіцца краіна,
Што краіна, цэлы сьвет!
Адратую на заўсёды,
Узьніму высока сьцяг.
А было—вякам, народам
Скарачала дні жыцьця...

Дзяўчаты

Малайчына!
Вось яна,

Вось машына,—
Навіна.

Чыж

А прызначан апарат
Справе нашай, роднай—
Каб... зрабіць усіх дзяўчат—
На людзей падобных...

(Вясёлы гоман. Зноў закідваюць Чыжа сьнегам)

Дзяўчаты

Ах, ты, Чыжык, ах, ліхі,
Узяць за крыльлі,—на штыхі!
Сып, дзяўчаткі, сып, сып...

Чыж

Шась—ратуйся, ўліп!

(Уцякае. За ім гоняцца дзяўчаты. Васілісу затрымоўвае Радзецкі)

Радзецкі

Васіліса!

Васіліса

Што?

Радзецкі

Чакай!
Быць з табой хвілінку дай...
Я хачу—каб зразумела,
Зразумела ты мяне.

Я хачу—каб шалясьцела
Сэрца шэлестам вясьне,
Я хачу—каб мы спаткалі,
Ўдвох прадвесьні карагод.
Я хачу—каб шчасьце хваляй
Вышла горда з берагоў.

Васіліса

Ой-ей-ё, ай-яй-я;
Песьня гладкая твая.
А мая—ня так багата,
Нават крышку сукавата:
— Кінь сваю круціць катрынку,
Будзь-жа хлопцам, ня... нудзі.

Радзецкі

Васіліса, стой хвілінку,
Зразумей мяне, ня йдзі.
Я сузор'ем шлях усею,
Зоры век ня гаснуць, не!
Знаю, знаю—зразумееш,
Зразумееш ты мяне.
Будзем разам, дружна будзем
Клікаць будучыні ўсход.
Пачуцьцё каханьня будзіць
Лоскат перыстых пяшчот.

Васіліса

Я дзіўлюся, глянеш—сталы,
Малады, перадавы.

А калі такое стала,
Што ён стаў без галавы?
Адрываецца, як можа,
Ад зямлі—кудысьці ўвысь.
Апынуцца ў бездарожжы,
Значна стаць без галавы!
Гэта-ж цені, а ня людзі
Горда ўздыбленых гадоў.
Хочаш, мы сябрамі будзем—
У грамадзе сваіх сяброў.

Радзецкі

Я табе хілюся нізка,
Лепшых дзён ня хочу знаць.
Васіліса, Васіліса—
Не магу я больш маўчаць:
Залацістым лягу лістам
У сонцатканым дыване.
Васіліса, Васіліса—
Ты—адзіная ў мяне.
Будзь-жа чулай, прытуліся.
Сэрцу я твайму пяю.
Васіліса, Васіліса—
Маладосьць прымі маю.

* * *

Падыходзіць з-за гары Мішка Пачын у чырвонаармейскім шынэлі, шлёме, за плячыма ранец. Узьбіраючыся на гару, ён не заўважае, як у нізе катаюцца на каньках Васіліса і Радзецкі.

Мішка

Цішыня... Нікога ня відно.
Будынку гэтага, як быццам, ня было?
І часу не багата праплыло,
А ўсё зьмянілася... Яно
Здаецца можа мне?..

(Углядаецца)

Збудованы. Раней ня бачыў, не.
Ішлі дзянёчкі, год за годам...
Дзе-ж людзі ўсе?

(Падымаецца вышай. Убачыў Васілісу і Радзецкага)

Аднак,
— Таварышы, вы з гэтага заводу?
Вечар добры.

Васіліса і Радзецкі

Добры вечар.

Радзецкі

Та-ак...
Каго знаёмага шукаеце, ці як?

Мішка

Ды я, сказаць вам, сам тутэйшы.

(Падыходзіць да іх)

Іду... і шлях не прыгадаю.
Багата зьмен наўкола...

Радзецкі

Сьпешна,
Перабудоўваем, будуем, вытвараем.

Мішка

Чаму завод маўчыць,
Работа ваша дзе?

Радзецкі

Сягоньня ў нас выходны дзень...

Васіліса (спазнала Мішку)

Мішка, Мішанечка, ай-яй-я...
Думалі, цябе, як жабу, зьеў кітаец.

Мішка

Васіліса, ліса, лісанька-лісічка,
Вырасла, хоць замуж выдавай.
А можа выйшла?

Васіліса

Мішка, ты?

Мішка

А можа і ня я, ня знаю.

Васіліса

Расказвай, брат,
Расказвай, дзе ты быў,
Як змагаўся, што рабіў?
Знаёмся—наш—Радзецкі Ян,
Тэхнік—значыць, практыкант.
(Вітаюцца)
Выкладвай нам прыгоды ўсе свае.
Кажы, мо' стрэльнуў кітаянку?
Чаго-ж адзін? Прывёз-бы і яе...

Мішка

Стала шустраю... А вочы—як маланка..
Скажу яшчэ, шанго мой. Будзе час.

Васіліса

А ўсё-ж кітайцаў бачыў ты, ці не?

Мішка

А як ня бачыць іх, дзіўная...
Што бачыў я, ня ўбачыш ты і ў сьне.
Мы-ж вёрстаў тысячу зрабілі па Кітаі.
Раскажу яшчэ, ці-ж то апошні вечар?

Васіліса

Мішка, ты?... Ваяка! От, сустрэча...
(Жартліва пяе)
Вас пабіць, пабіць хацелі,
Вас пабіць стараліся...

Мішка (пяе ў адказ)

Мы таксама не сядзелі,
Мы падрыхтаваліся.

(Васіліса хапіла Мішку за рукі і коўзаецца з ім па лёдзе)

Радзецкі (злосна ў бок)

Мне праясьняецца. Эх, людзі...
Ну, што-ж, сьпявай, а... плакаць будзеш.

Васіліса (пяе)

У кітайцаў—генэралаў—
Усе ваякі сьмелыя.

Мішка (пяе ў адказ)

Ад бальшавіцкае навалы
Пруць, як ашалелыя...

* * *

Уваходзіць грамада моладзі: хто на лыжах, хто на каньках Праляцелі з гары санкі. Грамада зьдзіўлена паглядае на Мішку. Пачын не спазнае яго. Радзецкі абураны, глянуўшы на Васілісу, кіўнуў рукой і пашоў).

Васіліса (да грамады)

Чаго-ж вы зьбіліся у клін?
Гэта-ж Мішка, наш, Пачын!

Галасы

— О, далёка-ўсходні госьць!
— Здароў!
— Як жыў?
— Як маешся?
— Здароў!
— А вырас...
— Дужым стаў.

Галька

Пахарашэў...

Базыль

Кажы, як маешся?

Мішка

А от... як бачыце,—
Акрэп і пасталеў.

Чыж

Эх, качай тваю качалку,
Жыў-здароў, маё, Міхалка!

(Працягвае руку. Вітаюцца)

Мішка

Малайчына, брат, гарыш...

(Да ўсіх)

Добры вечар вам, сябры.
Што чутно ў вас? Як завод?
Як жыцьцё ў вас?

Чыж

Поўны ход!

Мішка

Бачу, бачу...

Чыж

І... няйначай.

Мішка

Хлопцам вырас ты харошым.

Чыж

Хлопец—во!—на самы большы!

* * *

Мост. Праходзяць бракер Зарэмба і дзелавод Крот.

Крот

Я-ж за вас стаю, вядома.
Кажуць... спэц вы падазронны,
Хоць работнік крышку здатны.

З а р э м б а

Крышку кажуць?

К р о т

Далікатна...

З а р э м б а

Кажуць, кажуць... Хай гавораць.
Гутарка—што вецер.
А ярчэй пасьля віхору
Сонца н а м засьвеціць.

(Гіранічна)

Сходы, мітынгі, нарады...

К р о т

Кожны дзень!

З а р э м б а

Рэйд, налёт, абход, брыгады—

К р о т

Кожны дзень!

З а р э м б а

Брыгадзір, рабкор—запоем

К р о т

Кожны дзень!

З а р э м б а

Усе—ударнікі, героі.

К р о т

Кожны дзень!

З а р э м б а

Самакрытыка да поту.

К р о т

Кожны дзень!

З а р э м б а

Вось і ўся яна работа—

К р о т

Кожны дзень!..

* * *

М і ш к а

Мне здаецца, дзень ці два
З вамі я ня быў, братва.
А два гады...

С е н ь к а

Яно кароткім
Час здаецца нам заўжды.

Г а л ь к а

Дзіву даўся, пяцігодка
Прабягае ў тры гады.

М і ш к а

У тры гады... А вы,
Ці здолелі змагацца,
Каб стаць ударнай працай
Пад сьцяг перадавых?
Мінула два гады,
Вялікіх,

Векапомных,
Ня зломных
Два гады.

Базыль

Яшчэ і Маркс казаў калісь,—
На многа ўперад не пашлі.

Галька

А ўсё-ж, мы зрух вялікі маем.

Чыж

Бяз толку, што аполкі,
Жывем і... падгніваем.

Базыль

Слухай, Мішка, нам тымчасам,
Як сказаў і Энгельс Марксу,—
Працы ёсьць!

Сенька

Хоць з носу кроў!

Базыль

Завод наш мусіць даць Донбасу
Стандартных тысячу дамоў.

Галасы (як водгульле)

Стандартных... тысячу... дамоў...

Сенька

Рэспублiцы патрэбен вугаль.
І пад зямлёй, ад зор да зор,
За зьменай зьмена, ударным кругам,

Шахцёра зьменьвае шахцёр.
Пасьля напружнай цяжкай працы—
Кватэра ўдарніка—барак.

Васіліса

І мы,—што сіл, павінны ўзяцца
Будынкі выслаць!

Галасы

Час! Пара!

Галька

Я знаю, знаю—вышлем мы
Ў Донбас патрэбныя дамы!

Базыль

А ў лесапілцы створана
Вытворчая комуна.

Васіліса

Паміж цэхамі спаборніцтва расьце.

Галька

Мы маем зрух!

Сенька

Варушыцца работа!

Чыж

Калі абед з кампотам...

Базыль

Кавалі выклікаюць нас—
Програму ўдарную ў адказ.

Мішка

Перавыканаць?

Чыж

Раз!

Базыль

Зьніж сабекошт, хоць прэч галава.

Чыж

Два!

Базыль

Якасьць уверх, а брак з гары!

Чыж

Тры!

Базыль

І яшчэ, і яшчэ, і яшчэ!

Мішка

Працаваць, працаваць, працаваць!

Чыж

І чатыры і пяць і шэсьць!

Галька

Мы ў намаганьні
Першымі станем!

Васіліса

І прэмію—знаем—

Грамада

Мы—атрымаем!

Базыль

Аднак, пакуль парадкам
Турбот і перашкод.
Дарогаю ня гладкай
Ідзе яшчэ завод.
Плеханаў гаварыў,
Як добра не працуеш,
Падточвае прарыў.

Васіліса

Яно па духу чуеш,
Дзе спад, а дзе прыліў.

Базыль

Сьлясарны цэх ці кузьня
Не дадуць у час
Замкоў, ці шпіц, ці лузіны—
Затрыманы заказ.
Вось так і нечакана
Ўразаешся на мель.

Чыж

Якія капітаны,
Такі і карабель.

* * *

Прыбягае Стрэльбін.

Стрэльбін (убачыўшы вясёлую грамаду, абурана)

Сабраліся, альлё... Час марудзіць?
Ноч, глядзіце, стукаецца ў грудзі.

Растрачваеце сілы?.. Раніцою—
На работу позьнецеся,—гер-ро-і...
(Бачыць, што крыкам ня ўзьдзейнічаеш, просіць)
Разыходзьцеся...

Галька (жартліва)
Максім,
Глядзі, я высахла зусім...

Васіліса
І мне ты сэрца так параніў...

Стрэльбін
Я... я... ні я... Даволі! Я пытаньне
Аб вас пастаўлю на бюро!

Мішка
Стрэльбін, што з табой? Здароў!

Стрэльбін (углядаецца)
Альлё... ў парадку спрэчкі—госьць!

Галька
Максімка, зжалься, сэрца ў ранах...

Стрэльбін
Ну, як пчала на мёд...
(Расказвае Мішку)
Удар-ні-кі, альлё,
А не кратае іх проблема прамфінпляну.
За працай—охкаюць,
А як гуляць—гарой!
Пытаньне я пастаўлю на бюро.

(Ідучы з паляваньня, падыходзіць Клім, чуе скаргу Стрэльбіна).

К л і м

Адразу й на бюро? Няйначай?
А справа важная? Каго?

С т р э л ь б і н

Таварыш Клім, я знаю, я гарачы,
Але я ўсіх, усіх да аднаго.

Г а л а с ы

Го-го-го!..

М і ш к а

Добры вечар, з баявой пашанай!

К л і м

А... маё, вітаю. Госьць жаданы.
Зусім?

М і ш к а

Але.

К л і м

Вітаю, брат, вітаю.
Работы ў нас...

М і ш к а

Расказвалі, я знаю.
І вы баец, са стрэльбаю...

К л і м

Парой—
Люблю ў лясох са стрэльбай патаптацца.
Ўспаміны сьцелюцца мяцеліцай ліхой,
Калі з вінтоўкаю прышлося сябравацца.

І дзень і ноч, прыгадваю, гады—
Вінтоўка з рук ня сходзіла ніколі.
Ішлі праз лес, праз сёлы, гарады,
І сэрца рвалася бывала, як з падпольля.
Мы гналі ворага, нас песьня звала ў бой,
Гучэла водгульлем:—„ў комуне
астаноўка".
Мы гналі ворага навалай штурмавой,
І неразлучная—ў руках твая вінтоўка.
І вось цяпер, каб не адвыкла вока,
Часамі ў свой выходны дзень
Іду ў лясок, знайду сабе мішэнь
І, як калісь,—у лоб на 300 крокаў.

Галасы (зьдзіўлена)

У лоб—на 300!
Вось страляе!..

Клім

Бывае
Часам зайчыка прыдбаю.

Чыж

Ганяў-страляў па зайцу,
А падабраў... кітайца.

(Сьмех).

Стрэльбін

А на бюро!.. Альлё, браточкі,
Даволі, хопіць, заўтра-ж дзень рабочы.
За нас ніхто ня будзе працаваць.

М і ш к а

Працаваць —умова важная, вядома,
Але й на лыжах часам маладому...

Б а з ы л ь

І Роза Люксэмбург казала бязупынна:
Адно другому шкодзіць не павінна.

С т р э л ь б і н

Я... на бюро!

К л і м

Чакай, якраз наадварот,—
Гуляць павінен ты, расьці павінен
дужым,
Байцом гартованым, як сталь,
павінен быць.

В а с і л і с а

Само нек па сабе,
А вышаў мітынг дружбы.

Г а л а с ы

— Мітынг дружбы,
— Росту,
— Барацьбы!

Усе (пяюць)

Здымем адвечную цьвіль,
Здымем вякоў павуціну.
Поступам нашым нястрымным
Новыя тысячы міль
Браць мы штодзённа павінны.

Сілай магутнаю рушымся біцца—
Ў бой—
  Грамадой,
    Штурмавой,
      Бальшавіцкай!

Хто ў нашы дні перамог
Лютымі змовамі шкодзіць,—
Штурмам прыбою разводзьдзя
Зломім на нашых шляхох,
У нашым вялікім паходзе.
Сілай магутнаю рушымся біцца—
Ў бой—
  Грамадой
    Штурмавой,
      Бальшавіцкай!

Гукнем наступнаму дню—
З гонарам на рыштаваньнях:
Наша жыцьцё, што ўсход сьвітаньня,
Яго маладому разьліву—агню
Слава і песьні змаганьня.
Сілай магутнаю рушымся біцца—
Ў бой—
    Грамадой,
      Штурмавой,
        Бальшавіцкай!

# А К Т П Е Р Ш Ы

## ВЯЗЬМО I

**Кватэра бракера Зарэмбы. Зарэмба і Кандраль п'юць гарбат Пыхціць самавар. Ля камоды сядзіць жонка Зарэмбы—Юзэфа— разглядае віды-паштоўкі.**

Зарэмба

Яшчэ, яшчэ, швагруська, налівай...

Кандраль

Ды ўжо-ж, чаго-чаго, а ёсьць вады...
(Налівае)

Зарэмба

Хфруктовы толькі чай.

Кандраль

Такой бяды...
(Шклянка трэскаецца)
Трэснула... Ну й шкло пашло,
Ці-ж гэткае раней у нас было?

Зарэмба

Ды гэта брак, адкід, а не тавар.

Кандраль

Які тавар, такі і гаспадар.
Крута...

З а р э м б а

Воблаю падкармліваюць гуту...
Гэ, Кандраль, з вялікага палёту
Нізка сядуць...

К а н д р а л ь

Бітымі ў балота.

З а р э м б а

Ведама, дзе-ж дзенуцца?

К а н д р а л ь

І скора.

Ю з э ф а (разглядваючы паштоўку)

А во—Бірлін. Вось гэта горад!
Мужчыны, гляньце, тут пажыць
За дзень і год аддаць ня шкода.

З а р э м б а

О-го і год...

К а н д р а л ь

Ну, што там, пакажы?
(Падыходзіць да Юзэфы, разглядвае паштоўку)

Ю з э ф а (да Кандраля)

А колькі тут жыцьцёвай асалоды!..

К а н д р а л ь

Гэт, ці-то-ж Бярлін?
Вось да вайны, тым часам.
Там былі
І выдраштрасы...

Юзэфа

А я... хацела-б там пабыць.

Зарэмба

Пабудзеш, дзе-нібудзь пабудзеш.

Кандраль

Маліся, выпрасі канчыну галыцьбы,
Маліся—зноў
Пад богам будуць людзі.

Зарэмба

Маліцца, ведама...
Але аднэй мальбой
Ня справіцца з бязбожнай галыцьбой.
А сьціхам трэба, мірна і з падходцам,
Узяць к сабе, бліжэй, вось гэтак,
хлопцаў.

Кандраль

То праўда божая...

(Зачэпліваецца за падлогу, падымае бот
і разглядае яго).

Юзэфа

Ад чаю ап'янелі?

Зарэмба

Сукі адны, бракованыя зрубы...

Кандраль (трасучы ботам)

Цьвікі савецкія... Нашу нядзелю,
А вышчырылі зубы.
І хата, як з карчоў. А но-овы
Пасёлак для рабочых пабудован.
Затапіць-бы... Сьледу каб ня стала,

Паводкаю няхай папаласкала-б!
Бывала да вайны і зносу ім няма...

З а р э м б а

Бывала да вайны?..
Бывала, брат, бывала.
Цяпер—няма? Кіраўнікоў ня стала.
Заправілы ў нас, туга бярэ—як
глянеш,—
Аржанікідзе, Янукідзе, швілі, мілі.
ай-ярды.
Ці-ж гэта нашыя, ці-ж гэта хрысьціяне?
Куды ні кінь—
Татары і жыды.

К а н д р а л ь (мацае самавар)

Халодны ўжо...

З а р э м б а

Астыў? Юзэфа, падагрэй.

Ю з э ф а (бяручы самавар)

Гэй, Андрэй, душагрэй,
Маладзіцу абагрэй.

З а р э м б а

Саграваў я маладзіцу,
Задымілася спадніца.

К а н д р а л ь

І праз год, ад граха
Нарадзілі... курыцу.

(Сьмех. Юзэфа выходзіць. Круцяць цыгаркі з махоркі. Кандраль бярэласкуток паперы, глядзіць на агонь, чытае)

Зарэмба

На сэрцы нуда, а наверыш,
Закурыш і ўсё нек дарма.

Кандраль (чытае)

Рыс-сава-я папера...

(Жартам)

Папера засталася, а рысу і няма...

(Сьмяюцца)

Зарэмба

Сягоньня я працантаў сорак
Брак прызнаў...

Кандраль

Сорак?

Зарэмба

Сорак.
І адразу рапарт у кантору,
Што калі такая якасьць—
Ой, дадуць, пішу я...

Кандраль

З гакам.

Зарэмба

І толькі так. Тады—
Дырэктар на дыбы,
Ячэйка за чубы.
Брак. Брак.
Паніка. Брак.
На ногі завод.
На ногі барак.

Крык на двары:
Пр-ра-арыў...
Сход. Мітынг. Штурмавалі,
Гаварылі і крычалі—
А машыны... прастаялі.
Разумееш? От, з паходцам,
Сьціхам, мірна, але моцна.

Кандраль
І ў мяне арцель—што я,
Справа ў нас—адна, свая.

Зарэмба
Хлопцаў ты сваіх настрой—
Хай спэцоўкі патрабуюць.
Не дадуць—хай грамадой
Усе... як быццам забастуюць.

(Кандраль садзіцца на канапу)

Зарэмба
Будзь, швагрусь, на пагатоў,
Донбасу тысячу дамоў
Завод наш вырабіць змушаюць.
Калі-ж хто сьціхам, мірна памяшае...

Кандраль
Хай толькі бог благаслаўляе!

Зарэмба
Ты разумееш—дзе паслуга,
Ціж мы нячулыя з табой?
Саветам, знай, патрэбен вугаль.

Кандраль
Як хлопец дзеўцы маладой...

Зарэмба

Бяруць шахцёра, а кватэру
Яму зрабіць павінны мы.
Мы зробім... з гнілак і фанэры,
Каб не ўстаяў аднэй зімы.
Раз—хата дрэнь, раз вецер шорыць,
Дык менш вугля дадуць шахцёры.
А менш вугля—дык з кожным годам
Усё больш зачыніцца заводаў.
Заводаў зьменшыцца— за тое
Пачнецца болей беспрацоўе.
Ці-ж мы нячулыя з табой?
Пілі сучкі, Кандраль,
Падпільвай прамфінпляны.

Кандраль

А галава ў цябе разумная, што ў пана.
Галовы гэткія бывалі да вайны.
Разумна кажаш... Сукіны сыны,
Ня дзецца ім нідзе, ня дзецца ад труны.

Зарэмба

Ня трэба змовы, не, ня трэба,
Я сам сабе, а ты сабе...

Кандраль

З божай ласкаю як-небудзь
Іх... з зямелькі саскрабем...

Зарэмба

Баяцца, што?—Наадварот!
Цяпер рабочых недахоп.

А сьціхам, мірна і з падходцам
Падлівай ў сэрца воцту.
Змоў ня трэба, не, ня трэба—
Ты сабе, а я сабе.

Кандраль

Сьведкай будзе толькі неба
Ў нашай страшнай барацьбе.

(Юзэфа прыносіць самавар)

* * *

Уваходзіць дзелавод Крот

Крот (страхае сьнег, расьцірае вуха)

У-ух-жа скруха-завіруха...
Мабыць вымаразіў вуха.
Добры дзень.

Кандраль

А ўжо-ж, нішто.

Юзэфа

Распранайце паліто.

Зарэмба (жартліва)

Прашу... Мірон Саўкавіч Крот.

Крот

Ня Мірон-жа я, а Нэррон,
І ня Саўкавіч, а Саулавіч
І ня Крот-т, а Крод-д,—
На заводзе старшы дзелавод,
Нэррон Саулавіч Крод-д.

Юзэфа (углядаецца ў вакно)

А сыпіць сьнег, ой... сыпіць.

Зарэмба

Гарбаты шкляначку выпі.

Юзэфа

Грэйцеся.

(Паказвае на вуліцу)

А круціць заўзятна.

Крот

Дзякую.

(Юзэфа падае цукар)

Далікатна.

Зарэмба

Пасьпееце дзякаваць.

Юзэфа

Проша...

Крот (выскаквае з-за стала)

Забыўся я скінуць галёшы.

(Адыходзіць у кут—скідае)

Кандраль

Ці-ж гэта галёшы?—Чаўны.
Бывала былі да вайны,
Глыбокія, акуратна.

Крот (успомніўшы)

А-га... Далікатна.
Я ўспомніў... Да нас
На завод значыць...
Навіна.

Юзэфа

Сядайце, кубачак...

Зарэмба

Аднак...

Кандраль

Навіна?

Крот

А-га.

Зарэмба

Навіна?

Кандраль

Кажы.

Зарэмба

Расказвай, адразу.

Крот

На завод прыехаў цяпер
З дырэктарам—інжынэр.

Кандраль

З кім?

Крот

З дырэктарам.

Зарэмба

На зусім?

Крот

А-га.

З а р э м б а

Малады?

К а н д р а л ь

Знатны?

К р о т

Ня ведаю.

(Юзэфа частуе цукеркамі)

Далікатна.

З а р э м б а

Адзін?

Ю з э ф а

Сямейны?

К а н д р а л ь

Комуніст?

К р о т.

Беспарцейны.

З а р э м б а

Глянем, як дуне вецер...

К а н д р а л ь

Цяпер інжанэры—сьмецьце
Да вайны бывала, ну!

Ю з э ф а (налівае гарбату ў шклянкі)

Вып'ем за навіну.

З а р э м б а

Чай хруктовы...

(Садзяцца за стол)

К а н д р а л ь

Хфрукта... сус-стр-рэнім!..

К р о т (дуе на сподачак з гарбатай)

Будзем здаровы!

Ю з э ф а

Бярыце варэньне.

К р о т

А-га. Забыўся якраз,
Інжынэр, што прыехаў да нас,
Шкоднік. На дзесяць год
Па трыбуналу...

З а р э м б а

На наш завод?

К р о т

А-га. Справіцца хоча.
Казалі, рабочым—
Прышла папера

З а р э м б а

Якая?

К р о т

Каб інжынэра
абкручвалі атмасфэрай...

Зарэмба

Гым... абкруцім. Асколак.

Кандраль

Сволач.

* * *

Уваходзіць Цімох

Зарэмба

Справіцца хоча?

Кандраль

Хфрукт...

Зарэмба

Асколак,
Цюрму прамяняў на цюрму.

(Да Цімоха)

Чаго швэндаешся?

Цімох

А чаму?

Кандраль (да дзелавода)

Сволач... Прыехаў зусім?

Крот

Ды я, далікатна, пры чым?

Юзэфа (да Цімоха)

Цімачка, выпі гарбаты...

Зарэмба

Яшчэ што, гарбаты яму?

Цімох

А чаму?

Зарэмба

Ты глядзі—у камсамолы—
Я тады цябе прыму,—
Хай ня прымуць!

Цімох

А чаму?

Зарэмба

Што ты чамкаеш? Ч-чаму?
(Юзэфа абымае Цімоха)
Крэслам зараз абніму.

Цімох

А чаму?

Зарэмба

Вон адгэтуль, абармот!

Юзэфа

Сьціхні...

Зарэмба

Твой-жа гэта недарод.
От, удаўся. Змый сьляды...

Цімох (выходзячы)

А куды?

Крот (спачуваючы Юзэфе)

Валаводзяцца па сьвету...

Юзэфа

Не шчасьлівыя яны...

Кандраль

Вось, бывала да вайны,
Як дубы расьлі сыны.

(Цімох адчыняе дзьверы, высунуўшы галаву, зьвяртаецца да бацькі)

Цімох

Інжанэр прыехаў. За табой
Ён мяне паслаў...

Зарэмба

Цяпер?

Кандраль

Інжанэр?

Юзэфа

К яму?

Зарэмба

А чаму?..

## ВЯЗЬМО II

Пакой Чыжа. На сьценах сярод портрэтаў правадыроў Леніна і Карла Маркса портрэт Ньютона, а поруч чарцяжы. Над усім гэтым лёзунг—„Комсамолец, вынаходкі—аддавай для пяцігодкі“. Лёзунг напісаны рукой—вакол тэксту малюнкі знарад-ракеты. Па пакоі раскіданы кавалкі жалеза, дрэва, інструмант. Чыж за работай.

Чыж (пяе)

Сяду, сяду ля граніцы—ей-жа-ей.
Закуру сваёй махрыцы—ей-жа-ей.
І на Захад, як разьведка—ей-жа-ей.
Дым плыве цераз палеткі—ей-жа-ей.
Пераплыў істужкай шэрай—ей-жа-ей.
У палацы Бэльвэдэра—ей-жа-ей.
Там—гармідар, гвалт, адразу—ей-жа-ей.
Адзяюць працівагазы—ей-жа-ей.
Крык падняўся між панамі—ей-жа-ей.
— Зноў рука Масквы над намі—ей-жа-ей.
Я-ж смалю каля граніцы—ей-жа-ей.
Нашу ўкраінку-махрыцу—ей-жа ей...

(Стругае трубкі. Захоплены працай крапатлівай і цікавай).

Чыж

Мне жыцьцё ня мілым будзе,
Як свайго не дасягну.
Э... эх, Чыж,
Не прагарыш!
Целеграф забудуць людзі,
Ўсю навуку ўскалыхну.
Ліха, гора, сьмех і сорам,
Будуць сыпацца, як град.
Э... эх, Чыж,
Не прагарыш!
Цераз пушчы, горы, мора—
Будзе лётаць мой знарад.
Каб пабіць рэкорд сусьветны—
Трэ' цярплівасьць і напор.
Э...-эх, Чыж,
Не прагарыш!
Выйдзе, выйдзе—гэтым летам,
Я сусьветны б'ю рэкорд!

(Вымярае цыркулем даўжыню трубкі)

Раз... два...

(Далей лічыць неразборліва)

Дваццаць два!

(Бяжыць, вымярае на чарцяжы)

І тут латва,—
Дваццаць два!..
Эх, ідры-тваю ў Эўропу,
Каб удаўся толькі вопыт,
Што матэрыя людзкая

Мой знарад не затрымае...
Э... эх, Чыж,
Не прагарыш!
Пусьціць, выпусьціць—чаго там,
Не дарма мая работа.

(Зноў бярэцца за працу)

Каб сусьветны ўзяць рэкорд,
Трэ' цярплівасьць і напор!

* * *

Уваходзіць Цімох з заявай у руках. Дзьверы за ім мэханічна зачыняюцца. Цімох аглядаецца, яго дзівіць: што гэта такое?

Ч ы ж (да Цімоха)

Малайчуга-валацуга,
Рад табе я аднаму:
Стань вось гэтак, будзь-жа другам,
Ты ня бойся...

Ц і м о х

А чаму?

Ч ы ж

А чаму?—Хадзі, вось гэта—
Будзе лётаць па сусьвету.

(Паказвае чарцёж)

Ц і м о х

А чаму?

Ч ы ж

Таму, што гэта
Мой знарад, мая ракета.

(Скарагаворкай)

Цераз горы, цераз мора,
У любы на сьвеце горад,
Праз муры і цераз люкі
Проста кожнаму у рукі,
Ці ў Бэрлін, ці ў Будапэшу
Перадам адсюль дэпэшу.
І па сувязі таму
Міравы рэкорд вазьму.
Разумееш?

Цімох

А чаму?

Чыж

Зробім вопыт. Досыць чмекаць,
Стань вось тут, гудзі, як хват.
Трэба, каб праз чалавека
Праляцеў стралой знарад.

Цімох

А чаму?

Чыж

Гудзі, дубіна,
Варушыся, рві прастор!

(Падыходзіць да ракеты)

Чалавек, як і машына,
Мае ўласны свой матор.

(Глядзяць на Цімоха, які верціцца)

Гэтак, гэтак... Больш рухава...
Зараз зловіш...

(Займаецца сваёй ракетай. Цімох кінуў вярцецца, падыходзіць да Чыжа з заявай, а ў гэты момант Чыж уключае ракету)

Цімох

Слухай, Чыж,
Рыкміндуй маю заяву,
У камсамольцы падпішы.

Чыж (узяўшыся за галаву)

Праляцела дзікай галкай,
Во, ламай тваю, качалку,
Падпішу табе... прышвацькай!

Цімох

А чаму сказаў мне бацька?

Чыж

Стань назад. Гудзі маторам.
Варушыся! Скорасьць... Скорасьць.
Ну, яшчэ!

(Цімох зноў пачаў гудзець і вярцецца
Чыж сябе супакойвае)

Узяць рэкорд,
Трэ' цярплівасьць і напор.

(Чыж зноў рыхтуе к стрэлу ракету)

Я цябе, цюхцяй, дайму.
Раз, лаві!

(Трэск ракеты. Цімох круціцца, падлятае Чыж.
Цімох яму выпроствае рукі)

Няма?

Цімох

Чаму?

(Чыж шукае ў Цімоха па кішэнях, лазіць
за пазуху, глядзіць у валёнках так нэрвова
і злосна)

Цімох (стаіць, разьняўшы рукі як для вобыску)

Наказваў бацька падпісаць
Рыкміндацыю ў ячэйку...

Чыж (злосна)

Адыйдзі, дуб'ём прайму.

Цімох

А чаму? (выходзіць)

(Чыж апусьціўшы галаву садзіцца і ціха, ціха пяе сабе пад нос)

Сяду, сяду ля граніцы
Закуру свае махрыцы
—ей-жа-ей...

## ВЯЗЬМО III

Мост. Праходзе Клім,—насустрач яму Стрэльбін, Чыж, Базыль і Акуліна. Сустрэліся. Комсамольцы ўзбуджаныя.

Стрэльбін

Альлё, якраз і Клім... Кажы,
Ці бачыш ты, як лоўка ўсё праходзе?
Мы ўсе.

Чыж

Мы ўсе!

Стрэльбін

Ўсе пойдзем на нажы,
Ня пусьцім шкоднікам
Туліцца на заводзе.

Базыль

Мы выступім.

Акуліна

Цярпець ня будзем!

Чыж

Годзе!

К л і м

Шкодніцтва... нажы...
Толкам раскажы.

С т р э л ь б і н

Ці-ж на заводзе ўсё ў парадку?
Ці-ж працы ў нас патрэбны спор?
А тут-ка вось—нагрузачка прыдаткам,—
За шкоднікам стаўляй яшчэ дазор.

А к у л і н а

Работы з галавой, мобілізуеш сілы,—
Інжынэрчык, калі ласка, белакрылы.

Ч ы ж

Ён, скруці яго качалку,
Наш завод зьнясе на звалку.

С т р э л ь б і н

Мы не дапусьцім ні на крок.

Б а з ы л ь

Казаў Дзяржынскі— з году ў год,
На замок—
Ад шкоднікаў завод!

К л і м (спакойна)

Не зарывацца, ша!

С т р э л ь б і н

Маўчаць?

К л і м

Не зарывайся, чуеш?.. Даць
Усе мажлівасьці, няхай
Працуе, глянем, як пачне.

Стрэльбін

Эт... Цягне ў лес ваўка заўсёды.

Чыж

Мы на завод ня пусьцім.

Галасы

Не!

Клім

Вы сьціхамірцеся. Заводу
Спэцыяліст патрэбен. Даць усё.
Зірнем, як будзе нрацаваць сягоньня.
А мець павінны—востры зрок, чуцьцё...
Ён на заводзе ў нас—
Як быццам на далоні.
Мерапрыемства кожнае, проект
Мы на вытворчае нарадзе абгаворым.

Стрэльбін

Таварыш Клім, ты мяккі чалавек.
Апортуністы, вось хто...

Базыль

Скора
Да чорнай дошкі скоціцца завод.

Клім

Наадворат,
А загібаць вы не павінны.

Акуліна

Загіб—
Благое парушэньне дысцыпліны.

К л і м

Дысцыпліна партыі—закон.
Усьціхаміруцеся...
Хадзем, хадзем на працу.

С т р э л ь б і н

Комсамол застрэльшчык,
Яму—па праву—тон.
Ня будзем мы са шкоднікамі знацца!

К л і м

Комсамолія—у баёх перадавік,
Але не забывайцеся ніколі,
Што партыя ў краіне кіраўнік,
Яе галоўная кіруючая роля.
Калі, каб справіцца,
Прыслалі інжынэра,—
Знае партыя, што робіць.

А к у л і н а

Гэта верна!

К л і м (да Акуліны)

На гэтых днёх зьбяры заводзкі сход.
Мой даклад. Я мушу растлумачыць.
(Да Стрэльбіна)
А ты—харошы хлопец, але бяда гарачы.

А к у л і н а

Унечарговы сход?

Ч ы ж

Пераварот!

Стрэльбін

Шкодніка ня пусьцім на завод!..

* * *

Лёд. Сэзоньнікі-зімшчыкі за працай. Падаюць на крукох бярвеньні. Гудзіць пад'ёмны крант.

Кандраль

Што, прысядзем падкапціцца?

Міколка

А чаму не закурыць.

1-шы сэзоньнік

Калі ё махра-махрыца.

Кандраль

Ну, давай, брацья, махры.

Галасы

— Ты ня дуры...
— Вымай свой кіцель.

Клыч

Магу ўдружыць вам агеньком...
(Шаркае сярнічкай)

Кандраль

Дый, ці-ж я вам распрадзяліцель?
Няхай махоркі дасьць заўком.
Вы, што, працуеце? Агулам
Сацыялізм прышлі рабіць?
Няхай-бы ўласьць пра вас начула,
І вам прыслала-б закурыць.

2-гі сэзоньнік

Якая ўласьць—такі закон.

Клыч

„На-пяць у тры“ бяры разгон.

Кандраль

Хэ-хэ-хэ-хэ... Яно з разгону
Соцыялізма ўся--тарчма.

Клыч

Махры няма,
Дык на... талёны.

Кандраль

Чакай, чакай, яшчэ дарма!
Пакуль там тая пяцілетка—
У галаштаньніцу абернецца народ.

1-шы сэзоньнік

Не загаварвай, на газэтку.

Клыч (бярэ газэтку)

Дымок падпусьцім пад... завод!

2-гі сэзоньнік

Давай-давайце, ліквідуем.

Міколка

Глядзі, арцельна разьдзяры.

К л ы ч

Калгасы, так сказаць, касуем,
На гаспадаркі—хутары.

(Рвуць газэту на роўныя кавалкі. Кандраль дае тытунь. Закурваюць)

К а н д р а л ь (задуменна)

Жыцьцё падмочана...

М і к о л к а

Тым часам,
А ў нас там плодзяцца калгасы...

К а н д р а л ь

Дый-не! Ня з гэткіх я! Ой, не!
Мяне калгасам не кране.
Глядзі, густы ўсплывае дым
Увысь, увысь, глядзі—ўсплывае—
Але... як і туман
Над поплавам заўжды—
Узьнімецца, затым і асядае.
Вось гэтак і жыцьцё,
І край,
І наша ўласьць,—
Ішла ў гару,
Цяпер садзіцца ў гразь.

М і к о л к а (выпусьціўшы дым цыгаркі)

Клубком пашоў, а ніцам
Рассыпаўшыся—во—
Садзіцца,—во, садзіцца...

2-гі сэзоньнік

Якая ўласьць—такі закон.

Клыч

„На-пяць у тры“ бяры разгон.

Кандраль

Хэ-хэ-хэ-хэ... Яно з разгону
Соцыялізма ўся--тарчма.

Клыч

Махры няма,
Дык на... талёны.

Кандраль

Чакай, чакай, яшчэ дарма!
Пакуль там тая пяцілетка—
У галаштаньніцу абернецца народ.

1-шы сэзоньнік

Не загаварвай, на газэтку.

Клыч (бярэ газэтку)

Дымок падпусьцім пад... завод!

2-гі сэзоньнік

Давай-давайце, ліквідуем.

Міколка

Глядзі, арцельна разьдзяры.

К л ы ч

Калгасы, так сказаць, касуем,
На гаспадаркі—хутары.

(Рвуць газэту на роўныя кавалкі. Кандраль дае тытунь. Закурваюць)

К а н д р а л ь (задуменна)

Жыцьцё падмочана...

М і к о л к а

Тым часам,
А ў нас там плодзяцца калгасы...

К а н д р а л ь

Дый-не! Ня з гэткіх я! Ой, не!
Мяне калгасам не кране.
Глядзі, густы ўсплывае дым
Увысь, увысь, глядзі—ўсплывае—
Але... як і туман
Над поплавам заўжды—
Узьнімецца, затым і асядае.
Вось гэтак і жыцьцё,
І край,
І наша ўласьць,—
Ішла ў гару,
Цяпер садзіцца ў гразь.

М і к о л к а (выпусьціўшы дым цыгаркі)

Клубком пашоў, а ніцам
Рассыпаўшыся—во—
Садзіцца,—во, садзіцца...

К а н д р а л ь

Куды-б жыцьцё ні йшло,
Яно к магіле прыдзе...

* * *

Прыходзіць Мішка Пачын.

М і ш к а

Добры дзень, таварышы.

Г а л а с ы

Дабрыдзень.

М і ш к а

Як бачу, курыце?

М і к о л к а

Ў заціяжку...

1-шы с э з о н ь н і к

Перадышка ў працы цяжкай.

К л ы ч

А-а... дзень добры, шматтыражка...

М і ш к а

Закурыць—ня ёсьць памылка,
Але ў свой час.

2-гі с э з о н ь н і к

З вусамі самі...

К а н д р а л ь

Былі бывала чышчаныя жылкі,
Тады й закурвалі часамі.
А цяпер...

Міколка

Рады ў гады...

1-шы сэзоньнік

Зацягнем самасею.

Клыч

Што-ж, пацерпім...

Кандраль

Ад бяды
Курыць навучылася Расея.

Клыч

Дзе-ж набрацца ўсім?

2-гі сэзоньнік

Ня дзіва.

Кандраль

А народ мы церпялівы.

Мішка (да Кандраля)

Барада, ты хітра гнеш,
Другое ў розуме трымаеш.

Кандраль

Ня гну і не ганю... А мне
Не закурыць—радзіны праклінаю.

Мішка

Не за-ку-рыць?.. Куры!
Ці-ж не стае махры?

Міколка

Зусім няма ў нас.

Мішка

Як?

Галасы

— Няма.
— Уг-га...
— Даўно не выдавалі.
— Дзярмо жыцьцё!

Клыч

Чарней дзярма!

Мішка

Як бабы, от, засакаталі.
Мне ясна ўсё... Братва,
Ці-ж на плячох у вас не галава?
Ці-ж кожны з вас малы?..
Вы гляньце—там—
Працуюць, як валы!
А вы?... Страхнецеся,
Гуртом—людзкой асадай,
Усім агульную, для ўсіх народзім
радасьць!
Рабо-отнічкі... Рабо-очыя!.. Ссычом—
Сакочаце—махры ня-ма, што куры.

Кандраль

Брацья, зьвярні яму
Махры, няхай закурыць.

Клыч

Магу ўдружыць вам... аганьком!

(Падыходзяць да Мішкі, саваюць яму акуркі, нарачыта задзірліва)

1-шы сэзоньнік

На, пацягай.

Мішка

Ты ня дуры.

Галасы

— Не зазнавай!
— Маёй махры...
— Курні...
— Яй-яй!

Мішка

Не забывайцеся!.. за працу!

Кандраль

Ня пужай!

Клыч (замахнуў рукой)

Таварышу радактару—з рабкораўскім прыветам!

Мішка

За працу, хлопцы! Што-ж, давай, давай.
З прарываў ганьба нам ня вылезьці дагэтуль.

Голас здалёку

Лес... Давайце лес...

Клыч (увіваючыся ля Мішкі)

— Ест!
Хата,
Дзьве сасонкі,
Сам куртаты,
Голас тонкі...

(Паступова бяруцца за працу)

Кандраль

Бывала, помню, да вайны,
Нас не ганялі так паны.
А цяпер—
І шкоднік інжанэр
Будзе камісарам.

Мішка

Барада, ня дарам—
Ты, як зьвер,
Чакаеш нашай згубы.
Ой, глядзі, паломіш зубы...

(Выходзіць)

* * *

Мост. Праходзяць дырэктар заводу, сэкратар партколектыву і інжынэр. Працуюць сэзоньнікі. Неўзабаве Кандраль іх заўважае, прыслухоўваецца да гутаркі, затым падбухторвае хлопцаў—„націскай, далікатна, але моцна"...

Дырэктар

Расьцём, Аркадзі Карлавіч, расьцём.

(Паказвае на груды лесу)

Ад гэтуль мы харчуемся сырцом.
Па берагу—запасы нашы, склад.

Клім

І тут прарывы.

Дырэктар

Спосаб працы просты.

Інжынэр

Я раю вам паставіць самакат,
Мэханізацыя—найлепшы сродак росту.

Клім

Покуль самакат—прарывы заядуць.

Інжынэр

Я пацікаўлюся. Я вывучу. Знайду.

Дырэктар

Ітак, прышлі к канцу.
Ад гатоўкі да сырцу.
Які, Аркадзі Карлавіч, настрой?

Інжынэр

Заве, Кірыл Антонавіч, завод
Рэконструіраваць процэс усіх работ.

Клім

Рэсурсы ёсьць.

Дырэктар

З прывозам крута.

Інжынэр

Не спатрэбіцца валюта.
Праз дэкаду канчаткова
Дам праект перабудовы.
Зьверым разам і... затым
Дазволіце?—Аддам—
і вопыт свой і ўздым.

Дырэктар

Для працы вам—прастор і ўмовы,
Але сумленна, шчыра!

Інжынэр

Шчыра! (паціскаюць рукі)

Клім

І абавязкова—
Прыслухоўвацца к рабочым
прапановам.

(Сыходзяць уніз)

Кандраль

Чалом, дырэктару, чалом.

Галасы

— Мы скардзіцца, дарэктару, ідом.
— Адданасьць мы, дарэктару нясом.
— Чалом, дарэктару...

Кандраль

Пакораю гнем плечы.

Дырэктар

Што за спэктакль сярэднявечча?

Клім

Што-вы? Што-вы? Людзі ці скаты,
Манэра шкодная. З падрывам,
што краты.

Кандраль

Кірыл Антонавіч, і вы, таварыш Клім,
Адданасьць выказаць прышлі.

Клыч

Вітаць арцельлю нашы рады
Насіцеляў савецкае ўлады.

Клім (злосна)

Пашто спэктаклю разьвялі?

Кандраль

Зьвярнуць увагу хочам.
Далі валёнкі нам? Далі.
Забыліся падшыць. А мы іх топчам.
Мы-ж не па небу ходзім, па зямлі.
І працы больш таварышам рабочым.
Былі-б падшытымі, трымаліся-б
даўжэй.

Дырэктар

Вы што надумалі?

К а н д р а л ь

Таварышы, вядома,
Мы ў бараку жывем...

К л ы ч

Ей-ей,

Бакі мазоліць сьцёртая салома...

Г а л а с ы.

— Курыць няма чаго!
— Разьлезьліся калені!
— За працай, як валы!

К а н д р а л ь

А мы народ сумленны...

Д ы р э к т а р

Не разумею...

К л і м

Што гэта?

Д ы р э к т а р

Падход з цікавым скрогатам.

(Пад'ёмны крапт з гулам абрываецца)

І н ж ы н э р

Абрыў!

Д ы р э к т а р

Аварыя?

Галасы

— Няшчасьце!
— Што такое?
— Хутчэй!
— Назад!
— Аварыя?
— Бяда!

(Інжынэр падыходзіць разам з дырэктарам і Клімам да месца аварыі, за імі сьцяной сэзоньнікі. Відаць прачка Ліпа, што палошча бялізну. Яе крык парушае цішыню).

Ліпа

А ліханька... Я трусікі згубіла...

Інжынэр

Ясна. Неахайнасьць:
Бервяном заблытаны ланцуг—
Загарадзіў дарогу валіку й зубцу.

Дырэктар

Нядбайнасьць толькі?

Клім

Жартуеце з агнём!

Кандраль

З агнём? А дзе ён, у каго?
У грудзёх у нашых,
Зморaных рабочых.

(Паказвае на сэзоньнікаў)

Вось—агонь,—жывы, людзкі агонь.
А вы? Мы знаем вас...

Відаць, на што ахвочы.
Завод апушчаны. Усё ідзе на спад.
Пад'ёмнік кокнуў.
Грызе прарыў іржавы.
Так вучыць партыя? Наўрад.
Мы ў ЦЫК даб'емся,
Сталіну заявім.
На шыю сесьці не дадом.

Дырэктар

О-го, вучоная лісіца,
Нашпігованы ня нашынскім душком.

Клыч

Ня пушчу на карак мне садзіцца!

Дырэктар

А карак твой—нішто, адкормлены,
ўтрымае

Кандраль

На сходзе пагаворыма.

Дырэктар

Пужаеш?

Інжынэр

Заблёкаваўшы трос—
І стане крант прыгодным,
Зубцы ў ланцуг узяць.

Кандраль

Шкоднік!
Во каму прастор і шыр.

Клім

Кандраль, Кандраль, не дзебашы.

Кандраль

Прыгон?

Клім і дырэктар

Што-о?

Клім (да сэзоньнікаў)

Вы чуеце? Кандраль прыгон
угледзеў
Чаму-ж вы маўчыцё?.. Прыгон?
Мы на каго працуем, на каго?
Хто гвалтам змушаны? Кажы!
Хто на памешчыка жыцьцё сваё
кладзе?
Кажы, расказвай, дзе ён? Пакажы.
Прыгон угледзеў? Дзе, паказвай, дзе?
Крывёй уласнаю, жыцьцём уласным
творым
Вялікі, новы сьвет, упарта,
з песьняй гучнай...

А хто прыгон шукае, ён—закляты
вораг,
Альбо клясавага ворага падручны.

(Дырэктар падняў бервяно, усклаў на плячо, панёс. Бярэ бервяно Клім)

Клім

А ў непарадку што, нядбайнасьць,
ці злачынак,
У газэтку дай, вынось на сход.
Пільнуй, глядзі і ведай
што хвіліну—
Ты—гаспадар, бо гэта наш завод.

(Падыходзіць Міколка, бярэ Клімава бервяно з другога боку; падышоў дапамагчы)

Міколка

А вось, скажэце вы, таварыш Клім,
Калі збудуем мы жыцьцё,
якое хочам,
Тады скажэце вы, ці можна будзе
ўсім
Жыць сабе, ці толькі для рабочых?

(2-гі сэзоньнік бярэ бервяно ад Кліма і весела адказвае Міколку)

2-гі сэзоньнік

Усім, гурбой,
І нам з табой...

(Выносяць бервяно)

Клім

Правільна, няясна што, спытай.

(Увайшоў дырэктар, бяручы другое бервяно)

Дырэктар

Давай, давай, давай!

(Уцягваюцца ў работу паступова іншыя сэзоньнікі. Бяруцца за работу нават Кандраль і Клыч).

Клім

Галоўнае, каб ня зрываць работ,
А што няясна—вынесем на сход!

(Уключаецца ў работу)

Прыбягае Ліпа

Ліпа

Людцы добрыя, праз вас,
Я бялізну паласкала—
Раптам... трусікаў ня стала.

Клыч

А спадніцы ня згубіла?

(Сьмех)

Уваходзіць Клыч, за ім Кандраль

Клыч

Рукі ў брукі, ногі ўклетку—
Выпаўняе пяцілетку.

(Рогат)

Клім (да Кандраля)

Эх, падкулачная лісіца,
Сьмейся, што-ж,—
Дзе здарыцца садзіцца?

Ліпа

Хлопцы, мілыя,
А трусікі згубіла я.

## ВЯЗЬМО IV

Вечарэе. На сьнежным сумёце Васіліса і Радзецкі.

Радзецкі

Мы народжаны вальсіцца,
Як арлы ўвысь узьвіцца.
Мы з табой заўжды ўдваіх,
Мы вышэй, вышэй за ўсіх!

Васіліса

А пакуль з тваіх высот—
Пабягу, пайду на сход.
І ня ўдвох, а колектывам...

Радзецкі

Ліквідацыя прар-рываў?
Васіліса!

Васіліса

Ян!

Радзецкі

Кахаю!
Ты—мая! А я?

Васіліса (жартам)

Ня знаю.

Радзецкі

Васіліса,
Мой герой!

Васіліса

Хай зайздросьцяць нам з табой.

(Цалуюцца)

З-за гары ідзе Мішка і Галька.

Мішка

Зіма. Зіма прышла.
Гэткая, здаецца, й ня была...

Галька

А сьнегам колькі замяла...

Мішка

Такой бяды!
Пашто нам халады,
Калі гарачая ваўчыцай
Кроў у нас з табой бруіцца.

(Радзецкі і Васіліса, трымаючыся за рукі)

Радзецкі

Васіліса!

Васіліса

Ян!

(Цалуюцца)

Мішка

Як замерзьнеш, дарагая,
Я ў шынэль цябе скатаю,
Прытулю, вось так, вось гэтак...

(Ахутвае Гальку ў шынэль)

* * *

Ускаквае Стрэльбін, запыхаўшыся: сьпяшаецца на сход. Насустрач яму Ліпа. Стыкаюцца.

Ліпа (трасучы падштаньнікамі)

Знайшла я трусікі, знайшла,
Саколік, глянь...

Стрэльбін

Сыйдзі, смала.
Сьпяшаюся на сход!...

Радзецкі

Васіліса!

Васіліса

Ян!

Мішка (тулячы Гальку)

Вось гэтак!..

Ліпа

Мой саколік, лёс- шчасьлівы!

(Вылазіць з-пад гурбы сьнегу Чыж. Бачыць—
пара-адна, другая, трэцяя—схапіўшыся
за галаву)

Чыж

Во, ідрытваю, качалку,
Ліквідацыя прарываў!

(*Заслона*)

# АКТ ДРУГІ

## ВЯЗЬМО V

Заводзкі двор. Ідуць Клім і Інжынэр.

Інжынэр

І вось, пачуць мне хочацца адказ...

Клім

Прычын, каб хныкаць, тугой сябе
марыць,
Ня бачу я, наадварот якраз.
Цяпер, Аркадзі Карлавіч, тварыць
Простор шырокі, ўдзячная пара.
І вам мая найлепшая парада
Працаваць з адкрытаю душой.

Інжынэр

Ўсё так...
Аднак і комсамол аградай
Аддзяліўся ў падазронасьці глухой.
Люблю-ж я маладосьць, таварыш
Клім,
І хочу я гарэць...
А на шляху прапоны.

Клім

Ад вас залежыць. І, думаю, адным—
Работай шчырай зьнішчыць
падазронасьць.
Аркадзі Карлавіч, а ваш мінулы шлях?

Інжынэр

Ну, чым давесьці вам,
Што тут я не за страх
І ня прыгонам?

Клім

Але мінулае—нязьменна зусім.
Дзівіць вас не павінна падазронасьць.
І шлях у вас ня шчырасьці прасіць—
Яе заваяваць павінны працай плённай.
Настарожлівасьць здаровая зусім,
Вы разумееце...

Інжынэр (задумлена)

Я разумею вас, таварыш Клім...

(Некалькі крокаў праходзіць моўчкі)

Інжынэр (схамянуўшыся)

Я... задаволены. Таварыш Клім,—
Сьмерць сваю спаткаў не бяз мучэньняў.
Але—
Я пахаваў сябе, усё згінула маё.
І я сьвяткую ўласнае, сваё—
Сваё, уласнае

Другое нараджэньне

(Зноў ціха і задумлена)

А маці новая
Ці прыме з ласкай сына?..

Клім

Настарожлівасьць
Дзівіць вас не павінна.

Чуецца рабочая песьня „Гэй-жа, разам". Клім і інжынэр павольнымі крокамі ідуць у той бок, адкуль усё гучней і гучней даносіцца песьня

* * *

Штурм прарыву. Працуюць комсамольцы, сэзоньнікі: дружна, уздымна, весела. На грудзе лесу сядзіць бракер Зарэмба. На вышцы правяць крант-конвэер Мішка і Чыж.

Грамада (за працай)

Гэй-жа, разам,
Гэй-жа, разам,
Гэй, адразу,
Возьмем разам!
Гуртам, дружна,
Хлопцы, здужым!
Гэй —
Яшчэ,
Яшчэ,
Яшчэ!
Будзе сонца зьзяць ярчэй!
Што ні стане

Ў час рабочы,—
У нас і камень
Зарагоча.
Гэй, адважна!
Ўсё—для нас!
Дай, наляжам,
Дружна!
...Раз!

Базыль

Клара Цэткін гаварыла:
Перамога там, дзе сіла.

Стрэльбін

Братцы, хлопцы, хлопчыкі...

Мішка

Натужся, грамада!

Чыж

Суп'чыкі, соп'чыкі,
Суччы адкідай...

Сенька

Рабацішка комсамольцам—
Агурочак з перасольцам,
Пад Варшавай—гэта буду я.

Чыж

Заганю сваім знарадам
Завярынгу клёпку ззаду.
Пад Бэрлінам—гэта буду я.

Міколка (да Галькі)

Сонца села нізка-нізка,
Дзеўка к хлопцу а ня блізка.
Над калыскай—гэта будзеш ты

(Сьмех)

Стрэльбін

Альлё... Вы зрыўшчыкі работ!

(І раптам ласкава)

Братцы, хлопцы, хлоп...

(Клыч яго перабівае, перадразьнівае)

Клыч

— Чыкі,
Лапці з лыка,
Невялікі
Ты музыка.

Кандраль

Аднолькавае дабро.

2-гі сэзоньнік

Евы мятае рабро.

Мішка ( а Клыча)

Сьцеражыся, хфрукт нясьпелы!

1-шы сэзонік

Ня пужай!

Клыч

Замні фасон!

Чыж (да Клыча)

Рыла-мыла-чумандрыла,
З кракадзіла сальцісон!

2-гі с э з о н ь н і к

Но-но-но...

С т р э л ь б і н (упрашвае не адрываецца ад працы)

Браточкі, хлопцы!

К л ы ч (да Чыжа)

Конскай плеўкі вынаходца!

М і ш к а

Сыціхамірцеся!

Б р а к е р (супакойвае адных і другіх)

Чаго-там,
За аднэй-жа ўсе работай.

Б а з ы л ь

Сам Будзённы гаварыў:
Дзе ругня—там і прарыў!

С т р э л ь б і н

На бюро! Вымову ўсім!
Хлопцы, братцы, што вы,—
Прынялі-ж мы пастанову,
Што бяром іх на буксір.
Дык выконваць...

С е н ь к а

За работу!

Г а л а с ы

— Дружна!
— Гуртам!
— Штурмам!
— Ротай!

К а н д р а л ь

Так загоняць і ў чуму...

(Дастае папяросы, частуе сэзоньнікаў)

Адпачні. Курні хвіліну,
Пасядзіце.

Ц і м о х

А чаму?

К а н д р а л ь

Чалавек-жа не машына...

(Невялікая група сэзоньнікаў на чале з Кандралём садзяцца, кураць.

М і к о л к а (ён працуе ля конвэера):

Эх, сасоньніца-сасна,
Дні суровыя.
Бервяно да бервяна—
Хата новая.

(Уваходзіць Клім і інжынэр)

К л і м

Тысячу, братцы, тысячу—
Выпіліць, выстругаць, высячы!

(Сэзоньнікі, што курылі, убачыўшы Кліма, бяруцца за работу)

М і ш к а

Шырэй плячо, гайдайся, гэбаль.
Калі трэба—значыць трэба!

М і к о л к а

Гаратлівасьці былой
Час пазбыцца нам.

Забудуем шыр балот
Камяніцамі...

К л і м (пытаецца ў Чыжа)

Што добрага чуваць?
Ці хутка пойдзе кран?

М і ш к а

Чыжова галава,
Не галава...

С е н ь к а

Дзяржплян.

К л і м

Бяз жартаў, хлопцы, як работа?

Ч ы ж (тлумачыць)

На тры нарэзы быў зубец,
Абхват—чатыры абароты.
Я даў чацьвёрты і... канец.
На 30 процантаў скарочана работа.
І ёй-ёй, ідры яго качалку—
Запрацуе зараз—ух!

К л і м

Вось яна рабочая сьмякалка!

Уключаецца ў работу, інжынэр падымаецца на вышку да Чыжа

Б а з ы л ь (трымаючы сукатае бервяно)

Таварыш, бракер, снасьцьь
Такое дрэва ў дрызг разможджыць.

Б р а к е р (добра і не разгледзеўшы)

Гэткі сук валюту дасьць,
Падавайце, можна!

(Прыходзіць Радзецкі)

Ч ы ж

Хлопцы, глянь, маладажон!

М і ш к а

Сьціхамірся, Эдысон!

Ч ы ж

Бубні—звон,
Зманіў-жа ён
Васілісу ў свой палон.

С т р э л ь б і н

Ёсьць у нас на гэта конт...

К л ы ч (да Радзецкага)

Стаў на кон, маладажон!

С т р э л ь б і н

Прынялі мы пастанову!

(Радзецкі выходзіць)

Б а з ы л ь

Трэба так:—работа стане,
Дык гуляй тады ў каханьне.
Роза Люксэмбург пісала:
— Я змагалася й кахала.

(Інжынэр сыходзіць з вышкі і ідзе ў бок. Прыходзіць дырэктар).

Д ы р э к т а р

Штурмуеце? Ударнікам вітаньне.

Чыж

Штурмуем,—хто прарыў,
А хто каханьне.

Галька

Лес, Кірыл Антонавіч, струной.
Бервяно
Адно ў адно!

Дырэктар

І праца нашая—у адно!

Мішка

І мы працуем за адно!

Клім

І вернае трымаем мы старно!

* * *

Інжынэр у баку, адзін. Чуецца рытмічны гул штурму

Інжынэр

Маці новая,
Ці прыме з ласкай сына?
Ці зможа ён расьці, гарэць, тварыць?

(Падыходзіць Зарэмба)

Зарэмба

Не вясёл—сакол, задуманы.
Прычына?
Хе-хе, прычына ясная.
Нялёгка зараз жыць.
Харчоў нястача. Рыбка-саланіна...
Аркадзі Карлавіч, зайшлі-б чайку
папіць,

Ці з-пад кароўкі кубак малака.
Сябрамі будзем, захаджвайце, прашу.

Інжынэр

Я не галодны, і я не ў жабраках.

Зарэмба

Не ў жабраках?.. Навошта гэткі шум?

(Уздыхнуўшы)

Адзінок-сынок, а ўсе сакучуць—вораг,
Шкоднік,—во ён, экстраны паказ.
Ой, шмат, Аркадзі Карлавіч, гавораць.

(Паўза)

Ці-ж вы супроць мяне,
а я супроціў вас?

(Зьніжае тон)

Часамі парася засмажым на абед.
Сямейны-ж я, ня дрэнна будзе з намі.
А ўжо вядома,—
вы сабе, а я сабе,
Адны мазгамі, іншыя рукамі.
Закурым?

(Частуе махоркай)

Калі ласка...

Інжынэр

Я сваю.

(Закурыў папіросу. Курадь).

З а р э м б а

Э... вочы ў вас запалі штось
глыбока.
Заходзь, баяцца што?
Ці-ж людзі чай ня п'юць?
А ў хаце цішыня... і ня чужога вока.

І н ж ы н э р

Вы памыліліся, шаноўны грамадзянін,
Вы па старому адрасу,
а там мяне няма.

(У разуменьні сам сабе)

Сьцежка роўная, хаця яшчэ
ў тумане...
Ці рыме сына новага?

З а р э м б а (заклапочана)

Дарма,
Аркадзі Карлавіч, няясна штось
гаворыш,
Зайшлі-б чайку з малінаю, вы хворы...

(Паяўляецца Акуліна, убачыўшы іх, яна рэзва сьвіснула)

А к у л і н а

Там...—ударная брыгада,
Тут—ударная... нарада.

(Акінула іх вокам, сьвіснула, пашла)

Зарэмба

Вось бачыце?

Інжынэр

Я... разумею!

(Шпарка пашоў усьлед за Акулінаї)

Зарэмба

А я—ніяк не разумею,
У жыцьці заўсёды гэтак мусіць:
Інтылегенцыю так лёгка не раскусіш.

* * *

Дырэктар

На заводзе—пералом.
Калі прарыў пакрыем—
Значыць мы—усе, гуртом—
Напорам, мужасьцю бяром
Шляхі перадавыя!

Чыж

Каб сусьветны ўзяць рэкорд—
Трэ' цярплівасьць і напор!

Дырэктар

Напор—аснова ў пераломе.

Чыж

Пераломім!

Галька

І дагонім!

Мішка

А дагнаўшы, перагонім!

Базыль

Перагнаўшы, і загонім!

Чыж

А загнаўшы—шыю зломім—
Чарчылю, Амаль-Пашы,
За Пілсудзкім, Чанкайшы,
Макданальду, П'ер-Дзюрэ,
Чэ́мбэрлену, Пункарэ...

(Сьмех)

Стрэльбін (просіць не адрывацца ад працы)

Хлопцы, братцы...

Бракер (да Галькі злосна)

Паглядай,
Што-ж ты брак пускаеш?
Адкідай назад, кідай!

Галька

Гэта брак? Тады... з адчаю
Ўвесь адкінуць трэба сплаў.

Сенька

Відаць са сна...

Базыль

Не разабраў...

Дырэктар

Што такое?

Галька

Брак прызнаў!

(Усе глянулі на Інжынэра. Акуліна штось расказвае Стрэльбіну, паказваючы то на Інжынэра, то на Зарэмбу).

Стрэльбін

Адыйдзі, ты горш за бабу.

Акуліна

Падзея профсаюзнага маштабу!

(Сьвіснула)

Інжынэр

Для работы—годны краж.

(Бракер, развёўшы рукі, адыходзіць. Работа пачынаецца поўным ходам. Бракер шустра праходзіць ля грамады. Нарачыта глядзіць за кожным бервяном)

Дырэктар

Весялей на сэрцы стане,
Як цалком здадзім заданьне!

Акуліна

І шахцёраў мы запросім
На ўрачыстасьць к нам у госьці!

Стрэльбін

Альлё, браточкі!..

Бракер (да Базыля)

Што-ты,
Брак ня бачыш? Асадзі!

Базыль

Слухай, бракер, што ты хочаш?

Сенька

Зьмёрз?—Пагрэйся!

Чыж

Дурня корчыць!

Бракер

Адкідай, абавязкова.

(Дае знак адкінуць бервяно)

Інжынэр

Гэта брак?
Памылка, што вы...

(Зарэмбу на сьмех)

Акуліна

Парушаць мы не павінны
Профсаюзнай дысцыпліны.

Грамада

Го-о-го!..

Дырэктар

Братва, даволі!

(Выйшаў, за ім інжынэр)

Цімох

Чаму?

Стрэльбін

Братцы, хлопцы,—скончым меру,
Скончым, хлопчыкі—за тым—
Адпачыць пасьпеем...

Галька

Верна!

Акуліна Карпаўна

Пяць гадзін!..

Галька

Асадзі!..

Акуліна Карпаўна

Больш цяпер я не магу,
Вашу-ж моц я сьцерагу.

Базыль.

Ёсьць ад партыі заданьне,
І штурмуй на выкананьне.

Мішка

Шчэ' ня больш аднэй хвіліны
Заракоча і машына.

Галька (просіць дапамагчы)

Акулінка, падтрымай!

Акуліна Карпаўна (разьвёўшы рукі, ідзе дапамагчы)

Пяць гадзін...

Галасы

Давай, давай!

Базыль

Трэ' па-ленінску—на славу
Да канца давесьці справу.

С т р э л ь б і н (за ім астатнія)

Гэй-жа, разам,
Гэй-жа, разам,
Гэй—адразу—
Возьмем разам!
Руш, адважна!
Ўсё для нас!
Давай, наляжам!
Дружна!
...Раз!

(Пасьля слоў „возьмем разам“ Чыж уключае рубільнік—пашоў працаваць крапт-конвэер. Канцоўка; праца машыны. Праца ўручную. Штурм)

## ВЯЗЬМО VI

**Пакой Радзецкага. Утульнасьць—па смаку недавучанага правінцыяльнага мешчаніна. Васіліса адна. Лежыць на канапе, аблажыўшыся падушкамі, чытае кнігу.**

Васіліса

Дванаццаць, дванаццаць дзён...
Дванаццаць, дванаццаць начэй...
Здаецца парой, гэта сон,
Зазыўны, узбуджаны сон,
Яркага сонца ярчэй.
Пакорна жыцьцю прынясу
Свае маладосьці агонь.
Бывае абудзіцца сум,
Імглісты, ўстрывожаны сум,
І крыўдай кладзецца на скронь.

(Схамянуўшыся)

Ня трэба нудзіцца і каяцца,
Іграй на вясёлай струне...
...У гультайстве і думкі гультаяцца,
А добра, так хораша мне!
...Дванаццаць сумесных дзён...
Сёньня—трынаццаты дзень.
Звычайна ня позьніцца ён.

Відаць затрымаўся...

(Чуе за дзьвярыма крокі)

Ідзе.

(Становіцца ля дзьвярэй—рыхтуецца напужаць мужа. Адчыняюцца дзьверы. Васіліса—закудахтала, раптам бачыць, што ўваходзіць не Радзецкі, а з бялізнай у руках Ліпа. Страхаецца, а затым абедзьве сьмяюцца)

Ліпа

Гэта-ж пеўня спатыкала,
І вось дай не ўшанцавала.
А глядзіш—са скрыпам, рыпам—

Васіліса (весела)

Пявунок?

Ліпа

Ды, што вы, Ліпа.
Пеўнем век свой ня была я.

Васіліса (жартам)

Ня была... А хто-ж такая?

Ліпа

Ліпа—я, а хто-ж я?—Ліпа!..
Шчасьцем хай цябе засыпіць
Улюблёны твой вучоны,
Маладым, здаровым плёнам,
Каб дурэлі на двары,
Карагоды дзетвары—
І ўсе—прахвэсары...

(Сьмех)

Васіліса

Ну, чаго-ж ты, Ліпка, хочаш?
Зараз муж падыйдзе, ён—
Стрэне тут чужыя вочы

Ліпа

Загудзіць, як авадзён?
Эт-жа (дае бялізну)
Зьверце, як адна—
Не бялізна,—белізна.

(Васіліса лічыць бялізну.. Уздыхнула)

Ліпа

Уздыхаеш? Ня сумуй,
Будзь ласкавая к свайму.
Будзе хлеб табе й яму.
А што гэну пяцігодку
Адштурмуюць, ня ўнывай.
Век дзяўчыны—век кароткі;
Перасьпееш—што ўдава.

Васіліса (дастае к камоды грошы)

Добра. Дзякую... Рубля
Дам цяпер, яшчэ... пасьля.

Ліпа

Пацярплю
І на рублю.

(Успомніўшы)

Што ў мазгу мне замуціла?
Гэта-ж я сказаць хачу,—

Бялізну тваю мачыла,
Бачу... трусікі згубіла.
Страх праняў, як закрычу!..

Васіліса (трывожна)

Не знайшла?

Ліпа

Знайшла, чын-чынам,
Як-жа так, ціж я мушчына?

(Падыходзіць да камоды, паказвае ёй падштаньнікі. Затым, склаўшы іх акуратна, кладзе зьверху)

Васіліса

Добра. Дзякую. Заходзь.

Ліпа

Быццам я і не зайду.
Запрашаеш... Мой заход—
Будзе часта. У сераду,
Не бядуй, па доўг зайду.

Васіліса

Ідзі ўжо, йдзі.

Ліпа

Іду ўжо, йду.

(Выходзіць)

Васіліса (сэрвіруе стол)

Надакучала чакаць.
Дзе ён? Доўга так...

(Паглядае ў акно)

Змушае,

Турбавацца, выглядаць...

Завіруха, сьцюжа злая...

(Адыходзячы ад акна)

Час ідзе зіме сканаць
Ў разьліве сонечных праменьняў.
Вясна мая, дваццатая вясна,
Мяне вясьнянкаю сустрэне.
Будзе рэяць песьня-ўзьлёт
Маладосьцю сакалінай.
Кроў румянамі пяшчот
Абудзіць горача дзяўчыну.

(Уваходзіць Радзецкі)

Васіліса

Зваць вясну... Зазыўная вясна!
Ах, Яня, ты? Так доўга...

Радзецкі

На!

(Яна кідаецца к яму, ён яе адштурхоўвае, даючы)
заводзкую газэту-шматтыражку)

Васіліса

Што такое? Што з табой?
Што? Чаму такі настрой?

Радзецкі

Пракляну той дзень, той год,
Калі прышоў сюды ў завод.
Дзіч! Бандыты! Хуліганы!

(Васіліса, разгарнуўшы газэту, убачыла шарж на Радзенкага, весела засьмяялася)

Радзецкі

Сьмешна? Шайка ў вас адна.

Васіліса

Што ты, Яня, ты-ж ня п'яны.
Так ня скажуць і сп'яна.
Страх які—пра-ма-ля-ва-лі...
Гэта—шарж. Махні, змаўчы.

Радзецкі

Праз цябе ўсё... Бачыш, кралю
З колектыву (гвалт!) укралі...

Васіліса

Кінь, ды гэта, мабыць, Чыж.
Ён штукар. Падумаць, гэтак
Хваляваць нутро сваё.

Радзецкі

Кінуць-кіну. Лепш на-сьвету!
Ты—праціўна мне... Адзь-ё.

Васіліса

Сьцішся, мне незразумела,
Хто павінен больш крычаць—
Ты—ці я?

Радзецкі

Ты на-да-е-ла,
Не хачу цябе я знаць.
Прападаць ня хочу, чуеш?

Васіліса

Ня крычы ў канцы канцоў!

Радзецкі

На-да-ела... Не хачу я,
Разьвядуся. Чуеш? Чуеш?

Васіліса

На-да-е-ла? Вось як? Кроў
Атруціў маю дзявочу,
Зганьбаваў, зманіў, цяпер—
Надаела? Больш на хочаш?

Радзецкі

Сьціхні, сьцерва.

Васіліса

Злыдзень, зьвер!
Што, ня праўда? Не скалечыў?
Сорам глянуць мне на сьвет.

Радзецкі

Ціха, сытая авечка.

Васіліса

Як асьлепла... Людаед!

Радзецкі

Знаць магла, што жыць ня будзем.
Ты, як п'яўка, ўлезла ў грудзі...

Васіліса

Злодзей. Гад. Аддай. Назад.
Мне. Жыцьцё. Скаціна. Гад.

(Радзецкі пачынае біць Васілісу. Яна галосіць, стараецца ўдарыць яго. Хутка (падзёрты ўвесь) Радзецкі падымаецца, бярэ грамафон, яна скрозь сьлёзы: „не дарую". Радзецкі сплюнуў: „прастытутка"—выбег за дзьверы. Васілісу раз'ядае горкі плач. Незадоўга ўваходзіць Мер'ема).

Мер'ема

Хто галубіцца, той і чубіцца.
Добры вечар у хату... Заўжды,
Лёгка знойдзецца – лёгка згубіцца,
Каб-жа толькі тае бяды.
Васіліса, трывай, век нязьмераны.
Усё здараецца. Не гаруй.
Вытры сьлёзы свае—сьлёзы шэрыя.
Ты гаруеш па счасьцю-дабру.
Гаравала я горам-горасьці,
Праклінала сябе і дзяцей...
Будзеш ты яшчэ ў прастор расьці,
Гарэць маладосьцю сваей.
Сорак тры гады працавала я—
На заводах, была і ў паноў,
А саветы прышлі—нябывалыя,
Ад іх пэнсію атрымала—
За работу, за сорак гадоў.

Васіліса

Пашкадуй мяне. На зусім,
Дарагая Мер'ема, павер,
На зусім разлучылася з ім.

Што рабіць? Ашукаў, абакраў,
Дарагая Мер'ема, як зьвер,
Зьняславіўў, гразёй закідаў.
Сорам глянуць цяпер на людзей,
Дарагая Мер'ема, сорам.
Мне цёмна ў вачох...

Мер'ема

Разьвей
І сорам, і крыўду, і гора.

Васіліса

Куды мне, куды мне пайсьці?

Мер'ема

Мне ўжо і шэсьцьдзесят скора.
Цярпела ня мала ў жыцьці,
Ня мала цярпела гаворак.
Ставала турботы, клапот,
Аднак-жа, няхай я сівею,
Бывала зайдуся ў завод—
Нейкай палёгкай павее.
Завод наш цяперча за-авод.
Работы—каб толькі сілы!
Людзей не стае... На звод
Стома усіх падкасіла.
Гляну на сына—кіпіць
І ночы і дні на заводзе...
Надумала,—век табе жыць,—
Быць мне на пэнсіі годзе.
Кропля часамі і камень праб'е.

Патроху, патроху і змогуць...
Хай і ня дужыя сілы мае—
Пайшла я ў завод на падмогу.
Была я. ў канторы, заяву дала—
Зьдзівіліся неяк адразу.
Ідзем, Васіліса, вылазь з вузла,
Ідзем, папрацуем разам.

Васіліса

Што я чую? Лепш пятля,
Сорам, гэткі сорам!
Гэткі сорам!.. Лепш зямля—
Чым нядоля, гора.

(Нэрвуецца. Ходзіць па пакоі. Пападаюцца ёй на вочы падштаньнікі. Яна іх, узяўшы за калошы, разрывае).

Мер'ема

Супакойся... Трэба жыць,
Ты сябе паберажы.

Васіліса (у роспачы)

Больш нічога не кажы.
Не магу я... не магу.

(Выбягае з хаты)

Мер'ема

Лёгка знойдзецца—лёгка згубіцца.
Пабягу-ж я, пабягу.
Ад бяды усьцерагу.

(Выходзіць)

## ВЯЗЬМО VII

Вечар. Вуліца рабочага пасёлку. Праз замарожаныя вокны хат ледзьве відаць сьвятло. Холадна. Блукае Васіліса. Ідзе п'яны Клыч, прымае Васілісу за гулячую.

К л ы ч

Дождж ідзе,
Суччы клоняцца.
Разрашыце мне
Пазнакоміцца.

(Васіліса ўцякае, Клыч ей усьлед)

Эх, яблычка,
Сьпей румянае.
Я дзевачка
Нечапаная...

(Зачапліваецца нага за нагу. Клыч валіцца, корчыцца ад халаду засыпае і ўсё ціхэй мурлыча)

Пастух блудзіў,
Штаны згубіў.
Пастушка ішла—
Штаны...

(Бяжыць Чыж у клюб. У руках яго розныя прылады вынаходзтва. Пераскоквае праз Клыча. Усё бліжэй і бліжэй чуваць песьня).

Яго маладому разьліву-агню
Слава і песьні змаганьня.
Сілай магутнаю рушымся біцца,
Ў бой

Грамадой,
Штурмавой,—
Бальшавіцкай!

(Грамада моладзі прыблізілася і ўбачыла Клыча).

Галасы:

— Хлопцы, ёж!
— Замёрз!
— Ня дзіва!

Сенька

Гэта—ёрш,
Гарэлка з півам

Суніца

Ручкі ў скручкі,
Ножкі ў качарэжкі.

Сенька

Ад палучкі
Зблыталіся сьцежкі.

Базыль

Казаў калісь Будзённы так:
Разбудзіце і—у барак.

Сенька

Верна, хлопцы, дай разбудзім.

(Пачынаюць тузаць)

Галасы

— Як забіты!
— Ў бок удар!
— Страхані мацней, за грудзі!

(Падыходзіць Кандраль)

Суніца

От заснуў...

(Адзін з грамады схіляецца над Клычам і пад самым яго вухам крычыць)

— Пажар! Па-жар!..

(Усе рагочуць; Клыч не шалахнецца)

Кандраль

Што за гвалт? Што за зьдзек?
Перад вамі ча-ла-век!
Сорам вас сарамаціць.
Комсамольцы... Біць вас, біць!

Суніца

Сьпіць, як бітая скаціна!

Базыль

Палец—во—ўсадзіў у рот.

Голас

П'е й закусвае венглінай

Кандраль (да комсамольцаў)

Ну й народ пашоў, н-народ.

Сенька (да Кандраля)

Півасек,

Перад табою ча-ла-век...

Базыль

Падымі яго, ня хныкай—
Як сказаў калісьці Рыкаў.

(Сьмяюцца, ідуць ў клюб)

Кандраль (калі моладзь зайшла ў клюб)

Свалата, парцейнай масьці...

(Пачынае тузаць Клыча)

Уставай, дубіна, ну!

Я цябе, як сатану,

Раскрышу, парву на часьці.

(П'яны ня рушыцца. Кандраль цягне яго, як бервяно, у барак. Зноў пуста на вуліцы. Вецер. Сьцюжа. Сіратліва блукае Васіліса. Ідзе Цімох з пачкаю газэт-шматтыражак)

Цімох

Вось касілка „Пілка“ наша,

Завадзкая шматціраша.

(Стукаецца ў вакно)

Адамкні. У дом пушчай...
Свой. Ня бойся. Адчыняй.

(Пашоў у хату)

(З бараку выходзіць сэзоньнік. Глянуў на бакі—нічога няма Пабег у хату бракера. Чыж выбег з клюбу—пабег па вуліцы)

Цімох

Хто газэткі ня чытае,
Тӧі палітыку ўважае...

(Заходзіць у суседнюю хату. Выходзяць з хаты бракер і сэзоньнік. Падышлі к бараку. Бракер стукнуў адрыўчата тры разы. Пачуўся голас Кандраля: „хто“—і адказ бракера: „свае“. Выходзіць з двара Цімох, стукаецца ў барак. Голас Кандраля: „хто там?“)

Цімох

Я!

Кандраль

Назад.

Цімох

Чаму?
Газэткі вам не аднаму.

(Упускаюць Цімоха ў барак і ў момант з гулам, сьмехам выкідаюць яго на вуліцу)

Бракер

Ой-жа дам табе я ўтруску...

Цімох

Комсамольскую нагрузку
Сам прасіў мне даць...

Кандраль

Хамут! (ідзе ў барак)

Бракер

Нос расквашу (ідзе ў барак)

Цімох

А чаму?

(Пацiскае плячыма, ідзе далей)

Цімох

Я палітыку разношу,
Разьбірайце ўсе, бясплатна!

(Сустракаецца Крот з жонкай)

Цімох

Вам газэтку прошу, прошу!

Жонка

Вельмі ўдзячны...

Крот

Далікатна!

(Крот з жонкаю ідуць у клюб, Цімох—далей па вуліцы. Разьлівэм звонкага сьмеху ўбягае Галька, за ёй Мішка; ён ловіць яе і ля клюбу за фасадам зьнікаюць. Зноў заклапочана бяжыць у клюб Чыж. Адчыняючы дзьверы ў клюб, Чыж асьвятліў Мішку і Ганьку, што абымаліся ў кутку. Сьвятло ўстрывожыла іх. Галька бяжыць, робіць круг па вуліцы).

Галька

Больш ня зловіш!

Мішка

Я?

Галька

Спрабуй!

Зловіш—моцна пацалуй!

(Бяжыць у клюб за ёю Мішка. Ідзе невялікая грамада моладзі пяючы—„Ты марак—прыгожы сам-сабою"... Зноў нікога на вуліцы—толькі вецер сьцюдзёны байдосуе. Адчыняюцца дзьверы барака. Чуваць, як на гармоніку хтосьці грае „Разлуку"... Выходзіць Кандраль і бракер).

Зарэмба

Змоў ня трэба, не, ня трэба.

Ты сабе, а я сабе

(Хутка ідзе да хаты)

Кандраль (яму ўсьлед, спакойна)

Я сабе, а ты сабе.

(Калі бракер зайшоў у хату, Кандраль глянуў на неба, перахрысьціўся, пайшоў у барак. Завіхаючыск ідзе ў клюб Акуліна Карпаўна).

Акуліна Карпаўна (амаль ля кожнага вакна)

У клюб, у клюб—жанкі, мужчыны,

У клюб! Дзевятая гадзіна.

Таварышы, культурны адпачынак...

(Сьвіснула)

(Вецер. З гулам-гоманам адчыняюцца дзьверы барака. Выходзяць з сундучкамі, клункамі сэзоньнікі. З гулу-шуму толькі і чуваць выкрыкі завучаных слоў).

С э з о н ь н і к і:

— Мы ня буйвалы!
— Ня коні!
— Норма дзе?
— Мы не валы!
— Уціскаюць-цісnуць!
— Тронем!
— На куцьцю ў свае вуглы!
— Досыць кроў смакталі...
— Гады!
— Чаго сталі?
— На каляды.

К л ы ч (ледзьве стаіць на нагах)

Цёпла хата,
Дзьве сасонкі.
Хто да дзевак,
Хто да жонкі...

А д з і н з с э з о н ь н і к а ў

У хату сьвятам
Я і ты...

К а н д р а л ь (голасна)

На цягнік пара, браты!

З г р а м а д ы с э з о н ь н і к а ў

Сьмела дамоў ідом,
Да баб і дзевак,
З сабою мы нясом...

(Ідзе дорогай ў клюб з грамадой Стрэльбін, загараджвае дарогу)

Стрэльбін

Што? Куды? Таварышы, куды?

Кандраль

Усып, брацьця, на жалуды!

Сезоньнікі

— Разані яму!

З грамады Стрэльбіна

— Задзіра!

Сэзоньнікі

— Ткні!
— Дарогу!

Стрэльбін

Што вы?

Сэзоньнікі

— Сьмірна!
— Лясьні ў зуб.
— Вазьмі за грыву!

Стрэльбін

Вы-ж падумайце, прарывы!

Кандраль

Хто-ж зрабіў іх?

Сэзоньнікі

Крый да хаты!

Стрэльбін

Што?

Сэзоньнікі

— Ня штокай.
— Эх, шчаняты!..

(Пачынаецца бойка. Выбягаюць з клюбу, пачынаюць іх разьнімаць. Увесь час праз дзьверы, высунуўшы галаву, баязьліва наглядае бракер).

Чуваць з гурту:

— Ачумелі?
— Хуліганы.
— Шчэ паддай!
— Пад ножку?
— Гад!

Клыч (правакуючы)

Праваслаўныя, наганам!

Галасы

— Сьціхамірцеся.
— Назад...

(Іх разьнімаюць)

Мішка (запыхаўшыся)

Чаго вы, хлопцы, чорт вас знае,
Чаго, чаго вам не хапае?

(Да Стрэльбіна)

А ты з сваёй гарачкай сядзь!

Сэзоньнікі:

— Мы ня буйвалы!
— Ня коні!
— Мы завод ня хочам знаць!

— Як скаціна...
— Горш скаціны прымушаюць
працаваць!

Мішка

Хто?

Комсамольцы

— Калі?
— Ў якіх краінах?

Акуліна

Не ламайце дысцыпліны!

(Ідзе інжынэр)

Комсамольцы

— Хто?—Калі?

Сэзоньнікі

— Калі?—Цяпер!

Мішка

Вось, таварыш інжынэр,
Без падстаў зусім народ
Пакідае наш завод.

Інжынэр

Я ня ў курсе... я іду...
У чым тут справа, я ня знаю.
Выбачайце...

(Ідзе ў клюб)

Сэзоньнікі

— На цягнік пара!
— Сплываем!..

(Ідзе дырэктар)

Стрэльбін (дырэктару)

Пачыналі расхадзіцца.
Вы чаго? Куды?—спытаў,
А яны... адразу біцца.

Сенька

Пэўна нехта падкаваў...

Дырэктар

Таварышы... Таварышы... Зьдзіўляе
Ганебны ўчынак ваш. Я не пайму,
Чаго? Ну, што вас данімае,
Завод пакінуць што змушае?
Падумайце, таварышы, чаму?

Сэзоньнікі

— Мы не валы!
— Ня буйвалы!
— Ня хочу!

Дырэктар

Чаго ня хочаш? Дай адказ.

(Няпэўны гул)

Таварышы, такі адказны час,
Ганьбуеце імя сваё—рабочых.
Будуем мы...

Сэзоньнікі

— Не залівай!
— На цягнік пара.
— Гайдай!
— Сып, ударнічкі, дамоў!

Мішка

Адумайцеся!

Клыч (цягуча)

Высасалі кроў...

(Клыч зачэпліваецца, з плеч валіцца мех, і пасыпаліся банкі консэрваў, цукар і інш. Рогат. Сэзоньнікі кінуліся хватаць Бракер хітра падыходзіць і пытае ў дырэктара).

Зарэмба (цішком)

Кірыл Антоныч, што такое?
У чым тут справа? От, герої.

Сэзоньнікі (да Клыча)

— Капцінармус, сукін сын!
— Абкрадаў?!
— Паёк наш зводзіў?

Клыч

Я, бра-точ-кі... не... адзін.

(Кандраль падышоў да Клыча, каб забраць яго).

Сэзоньнікі

— Абракадаў?
— Не дадаваў?
— Браў?
— Злодзей!

Кандраль (бароначы Клыча)

Супакойся, сьцішся, годзе!

(Прыходзіць Клім і адразу да яго—бракер. Кандраль адводзіць Клыча ў бок, затым у барак).

З а р э м б а

Таварыш Клім, што тут такое?
У чым тут справа? От герої...

(Клім махнуў рукой, падышоў да Мішкі)

Д ы р э к т а р

Таварышы, ня варта дурня строіць.
Каго за нос надумалі вадзіць?
Падвыпілі? Катайце адпачыць.
Верна, хлопцы?

(Няясныя рухі)

З песьняй баявою,
Заўтра зноў за працу, штурмаваць
Вялікае, як сонца агнявое,
Жыцьцё сваё ствараць.

С э з о н ь н і к (расчаравана)

Эх-ма...

К л і м

Паёк вам выдавалі?
Выдавалі!
На арцель?
На арцель!
А мазгі вам бунтавалі?
А пайкі ў вас абкрадалі?
Досыць! Кіньце карусэль.
Разьбяромся заўтра. Досыць!
Я валынкі не цярплю.

М і ш к а

Хто п'яны—катай на просып!

Сенька

Хто цьвярозы—з намі ў клюб!

(Дырэктар і Клім пайшлі ў клюб)

Мішка

Верна, хлопцы, кінь валынку.

Сэзоньнік

Не пайду (і рупліва пайшоў у барак)

Сенька

Мяхі скідай...

Акуліна

У бараку скідайце скрынкі
І—у клюб—давай,—давай!

Міколка

Эх, заблытаўся зусім...
Маць тваю з жыцьцём такім...

Сэзоньнік 2-гі

Вот... і выпіў бы сітры...

Мішка

Хлопцы, хопіць, не хандры.

Запальваецца электра-ліхтар на фасадзе клюбу.

Акуліна

У клюб! У клюб, абавязкова!

Чыж (высунуўшы галаву з дзьвярэй)

У мяне ўжо ўсё гатова.

Базыль

Луначарскі нават знае,
Клюб—сьвятло, а цьма—піўная.

Сэзоньнікі

— Пілі ў барак,
Зальлем на зуб!..
— Эх, цёрты мак,
Загляну ў клюб!

(Адны, перамяшаўшыся з комсамольцамі, ідуць у клюб, другія бурлыкаючы—у барак. Застаўся толькі Міколка. Узяў свой сундучок і задуменна павольна ідзе ў клюб. Качаецца ад ветру ліхтар на фасадзе клюбу. Холадна. Васіліса падыходзіць—чытае афішу. Падыходзіць Акуліна кладзе руку на плячо Васілісы).

Акуліна

Чаго ты сумная? Ці-ж невясёлы шлюб?
Э-эх, дурніца-маладзіца, акрыляй.
Так добра жыць! А ты...
Хадзем у клюб.

Васіліса (спакойна)

Іду...

Акуліна

Хадзем.

Васіліса

Іду...

Акуліна

Давай, давай!

(Сьвісьнула, пайшла ў клюб)

(Васіліса прайшла некалькі крокаў, затым вярнулася).

Васіліса (у роспачы)

Не дараваць злачынак мой.
Я горш за ўсіх. Ня жыць бядой.
Мне цяжка жыць не з грамадой...

## ВЯЗЬМО VIII

Клюб. Прэзыдыум. Трыбуна. Заля здоблена лёзунгамі „ШЧЫЛЬНЕЙ ПРОЛЕТАРСКІЯ РАДЫ, ЗА ПЯЦІГОДКУ Ў ЧАТЫРЫ ГАДЫ“, „ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ЦК КПБ ЗАГАРТУЕМ СЯБЕ Ў ШТУРМАВОЙ БАРАЦЬБЕ“, „УДАРНІКАМ ШАХТ У ТЭРМІН ДАМО 1000 НАШЫХ СТАНДАРТНЫХ ДАМОЎ“. „УЗБРОІМ ТРАКТАРАМІ КОЛГАСЫ—ЛІКВІДУЕМ КУЛАЦТВА, ЯК КЛЯСУ“, і інш.

Акуліна (адчыняе сход)

Ціха. Ліквідуйце лямант.
Слова Стрэльбіну. Прыняць
Мы прымушаны рэглямант.
Для дакладу 35.

Голас

І ні воднай больш ня даць.

Акуліна

Таварыш Стрэльбін,—35.

Стрэльбін

Палажэньне ўнутраное
Ў нас, як мур, адно дзівіцца!
Узрастае баявое
Пяцігодкі будаўніцтва.

І расьце ўсё вышай, вышай,
Крышыць гніль ударным маршам.
У краіне вольнай нашай
Нават сонца ўпрэглі ў дышла...
Моц энэргіі праменьняў
На ўгнаеньне карыстаем.
Кулакоў—паноў карэньне,
Прэч, як клясу, выкідаем.
СССР—брыгада, крэпасьць
Як маяк сусьветнай славы.
А каго... забрала сьлепасьць,
Той блукае—ўлева,—ўправа.
Праміком, напорам, проста
Ўдарнай працай заўладалі—
Перамогу, росквіт росту!
Хай жыве таварыш Сталін!

(Воплескі)

Ясна вам цяпер якое—
Палажэньне ўнутраное.
А на Захадзе трывога.

А к у л і н а (да Стрэльбіна)

Шэсьць хвілін вам засталося.

С т р э л ь б і н

Там паноў бяруць пад ногаць,
Крызіс голадам галосіць.
Беспрацоўных там мільёны,
Ў іх каленах кроў ня стыне.
А ідуць пад сьцяг чырвоны
Пролетараў батальёны.

Сьмерць фашысту Мусаліні!
А з Гішпаньні тэлеграма,
Што агонь і дым краіну...

Голас

Старшыня, давай рэглямант.

Акуліна Карпаўна (да Стрэльбіна)

Вам яшчэ адна хвіліна.

Стрэльбін

Панна-Польшча ў завірусе,
І ў Заходняй Беларусі—
Жах памешчыкам нагналі,—
Крый Пілсудзкага параліч!
І ў Нямеччыне, тым часам,
Бой ідзе рабочай клясы.
Звар'яцеў Цэргібель шэльма,
Хай жыве таварыш Тэльман!
Рух плыве па ўсіх краінах
Барацьбы рэволюцыйнай.
І ў Кітаі на шышы
Аблажылі Чан-Кай-шы.

Акуліна Карпаўна

Вы рэглямант скарысталі.

Стрэльбін

Мне хоць дзьве...

Голас

Даволі!

Стрэльбін

Мне—
Скончыць думку.

Голас

Мы чыталі!

Акуліна

Поўхвіліны і... канец.

Стрэльбін

Так-што крызіс і трывога,
Толькі трэба нам падмогу
Даць рабочым, што ў вастрогах.
Праца—возьме перамогу!
Дык-жа ўперад, шляхам верным
Нам—
і гонар і ўрачыстасьць!
Ім,
разьюшаным фашыстам,—
Сьмерць
пад знакам Комінтэрну!..

(Воплескі)

Акуліна

Слова мае рабочы-ударнік,
Былы бяспрытульны
Таварыш Чыж.

(Авацыя. Ідзе Чыж, за ім Цімох)

Акуліна

15 хвілін вам і... канчаткова.

Сход

— Дай гаварыць!
— Не абмяжоўвай!

Акуліна

Без рэгляманту?

Сход

— Давай!
— Ты прысядзь, не заціскай!

Чыж

— Я, таварышы, каротка.
Я... ўсім сэрцам моцна веру,
Тэмпы нашай пяцігодкі
Ў тры Амэрыку абмераць.

Сход

Ты давай пра вынаходкі.
Мы ўжо ведаем даклады...

Чыж

Я, таварышы, каротка...
Я... знайшоў-змайстрыў прыладу,
Хуткасьць сувязі. Дагэтуль
Шчэ ня ведала плянэта.
Гаварыць, і як, і што тут,
Вельмі доўгая работа.
Лепш я вам продэманструю,
Як яна ў мяне працуе.

(Воплескі. Чыж падыходзіць да карты)

Гэта вось знарад-ракета,

Будзе лётаць па сусьвету;

(Скорагаворкай)

Цераз горы, цераз мора,
У любы на сьвеце горад,
Праз муры і цераз люкі,
Проста кожнаму у рукі,—
Ці ў Бэрлін, ці Будапэшу—
Перадам адсюль дэпэшу...
Мы, таварышы, для вас
Зробім вопытны паказ.

(Цімох становіцца на сярэдзіну)

Ч ы ж

Умаўляемся хвілінай,
Што цяпер ён за Бэрлінам,—
Шумна будзе браць прастор

(Адышоўшы да ракеты)

Чалавек, як і машына,
Мае ўласны свой матор.
Пачынаем...

Г о л а с

А чаму?

Ц і м о х

А таму—
Чалавек, як і машына,
Мае ўласны свой матор.

(Пачынае вярцецца)

Ч ы ж

Варушыся... Тэмпы... Дзякуй.

Раз! Два! Тры!

(Ракета сваім хвастом, як прыклад вінтоўкі, аддае назад. Ударае Чыжа—Чыж валіцца. У залі ўздымаецца рокат, гул)

С х о д

— Што, Чыж,—
Не ляціш?
Ён цяперка над Чыкага!
— А ляцеў з якой адва-гай...
— Раз-два—
Ў дрызг—галава!

А к у л і н а

Я вам слова не давала,

Ціха!

С х о д

— Во не ўшанцавала.

Уверх нагамі вынаходца.

А к у л і н а

Вам рэглямант...

С т р э л ь б і н

Досыць, хлопцы!

А к у л і н а

Досыць. Ня зрывайце сход!

С х о д

— Хуткасьць сувязі...
— Палёт!
— Чыж, сядай—махні ў дарогу!
— Раз і з печкі на падлогу!

А к у л і н а

Дысцыпліну парушаем.

С т р э л ь б і н (адсоўвае Акуліну)

Сходам ты не аўладаеш.
Кінь...

А к у л і н а

Чаму?

С т р э л ь б і н

Пусьці...

Цішэй!
Дысцыпліну парушаем!

Г о л а с (да Чыжа)

Падкатай мяне, ей-ей!

(Стрэльбін ня можа сунакоіць сход. Сьмех, гоман ня сьціхае і толькі тады, калі на трыбуне зьяўляецца Клім, сход паступова падпарадкваецца цішыні).

К л і м

Няпрыстойна. Не да твару.
Што-ж, магла памылка быць,
Чым сьмекалісты таварыш,
Здольны новае стварыць.

Для вытворчасьці ў парыльні,
Вам вядома, даў ён шмат.
Мы-ж яго прэміравалі!
Хлопец здатны, слоў няма́.
Хай памылка, што-ж дзівіцца?
Церпіць ён і так удар.
Мы пашлем яго вучыцца,
Будзе творца і змагар.

Б а з ы л ь (спачуваючы Чыжу)

Зіноўеў казаў, ідучы на мяцеж—
Сем адмерай—раз адрэж.

С т р э л ь б і н

Слова даецца цяпер
Аркадзь Карлавічу...

(Шопат прабягае па залі: „інжынэр")

І н ж ы н э р

Таварышы! Работа
Наіўная... Адно
Зярно ідэй палёту
Здаровае зярно.

Напорам браць высоты,
Конкрэтны маем сьлед,—
Проблемы пералёту
Газавых ракет.

У дні—крыві і лоску,
Як правіў царскі бот,
Профэсар Ціалкоўскі
Марыў пра палёт.

Цяпер ажыцьцяўляе,
І на зьдзіўленьне ўсім —
У савецкім толькі краі
Росквіт творчых сіл.

(Паказвае на конструкцыю Чыжа)

Наіўна хай. Мы бліжай
Павінны стаць. Адно —
Зярно ідэі Чыжа
Здаровае зярно.

Яно закаласіцца,
На ўчобу ўзяць упор.
І будуць бліскавіцай
Ракеты браць прастор!

(Рэдкія воплескі)

Г а л а с ы

— Ад сьмеху мы паплакалі...
— Концэрт!
— Даёш спэктакль!..

С т р э л ь б і н

Базылю Агнёву слова
Зачытаць праграму.

А к у л і н а

Поўхвіліны ня суровы
Для інформацыі рэглямант.

Б а з ы л ь

Зараз, згодна дырэктывы,
Мы пачнем другую частку.

Шчыра просім, калі ласка,
Сесьці ціха, церпяліва,
Не сьмяяцца і ня пляскаць.

Апускаецца вялікае палотнішча-насьценгазэта—„ЧЫРВОНАЯ ПІЛА“. Сход у голас чытае шапку: „ПРАМФІНПЛЯН ПАД ПАГРОЗАЙ ЗРЫВУ. ЛЕСАПІЛЬНЫ ЦЭХ ВЫКАНАЎ ЗАДАНЬНЕ НА 37 ПРОЦ. КОМСАМОЛЬЦЫ НАЛАДЗІЛІ СУБОТНІК ДЛЯ ЛІКВІДАЦЫІ ПРАРЫВУ. РАБОЧЫЯ І РАБОТНІЦЫ, ПАДХАПІЦЕ ПАЧЫН КОМСАМОЛЬЦАЎ“

Базыль

Перадавую прачытае
Наш рабкор таварыш Гаеў.

Гаеў (чытае)

Партыя і ўрад усклалі ганаровы
абавязак выпускаць стандартныя
дамы шахцёрам-ударнікам Донбасу.
Як выконваецца плян? Лесапілка
не дадала за дэкаду 2-га месяца
37 проц. Лесапілка—тормаз у працы
іншых цэхаў. Ліквідаваць прарыў
можна толькі шляхам разгортваньня
спаборніцтва і ўдарніцтва.
Выканаць плян у тэрмін!

(Пад артыкулам застаўка—шахцёр-забойшчык)

Базыль

Зараз ідзе вершаваны твор,
Яго прачытае таксама рабкор...

Сход

— Аўтара!.. Аўтара даёш!

Базыль

Нейдзе ў залі (углядаецца)
Суніца, сып, чытай сваё!

Суніца (чытае)

„5 у 4“.
Штурмуйце, штурмуйце прарывы—
Па-ўдарнаму і цёрпяліва.

(Скрып дзьвярэй. Уваходзіць Міколка, аглядваецца і садзіцца ля сьцяны на свой сундучок).

Акуліна

Хто там дзьверы ломіць?

(Сход сьцішае і гэтым самым падымае большы гул)

— Ціха!
— Ціха, там!
— Цішэй!

Акуліна

Паталкуем у заўкоме!

Базыль

Ціха вы... (да Суніцы) Чытай далей.

Суніца (чытае)

„Пяць у чатыры“
Штурмуйце, штурмуйце прарывы—
Па-ўдарнаму і цёрпяліва.

Тысячу даць у Донбас
Мы абавязаны ў час.
Хай ворагі нашы скрыгочуць,
Яны не заслоняць нам вочы.
Горача, ўдарна і шчыра
Зробім мы „пяць у чатыры“.
Дык-жа штурмуйце, штурмуйце прарывы
Па-ўдарнаму і церпяліва.

(Воплескі. Суніца садзіцца на месца).

Б а з ы л ь (да бракера)

Можна вас прасіць хвілінай
Стаць вось тут, дапамагчы нам.

З а р э м б а

Калі ласка, з вамі я,

Я і вы—адна семья.

Б а з ы л ь (дае яму шнурок)

Крыкну „раз“—адскочу ў бок—
Вы—пацягнеце шнурок,
Вось і ўсё.

З а р э м б а

І ўсё?

Б а з ы л ь

Канец.

З а р э м б а

Калі ласка...

Б а з ы л ь (чытае)

Крываспэц. Ёсьць у нас крываспэц.
Лічыць сябе вялікім знаўцам. Любіць
без патрэбы бракаваць шмат годнае
продукцыі. Па яго віне 9 гадзін
прастаяла парыльня. Як устаноўлена,
ён забракаваў годны для працы
сырэц. Дзейнасьць крываспэца льле
ваду на млын ворага. Па нашаму,
гэта своеасаблівы мэтод шкодніцтва.
Зьняць з іх маскі. Павінны ведаць
іх. Гляньце, крываспэц перад вамі...
„Р а з“!

(Базыль адыйшоў у бок. Зарэмба пацягнуў шнурок, адскочыў квадрат, і перад сходам паказаўся твар Зарэмбы—вясёлы, самадавольны)

Ю з э ф а

Які кашмар!

Г а л а с ы

— Ну і... твар.
— Так і просіцца на ўдар!

З а р э м б а

Тут пра мяне?

Б а з ы л ь (весела)

Але, пра вас.

З а р э м б а (бяжыць на сваё месца)

Не-не, не-не!

Сход

— Раз у раз,
— Якраз пра вас!
— На Пілсудзкага працуеш?
— З Чэмбэрленам!

Юзэфа

Ён нявінны.
(І лясь па шчацэ бракера)
Як ты дазваляеш
Зьдзеквацца? Мужчы-ына...

Акуліна (да Юзэфы)

Не ігнарыраваць прашу я
Профсаюзнай дысцыпліны.

(Гасьне на сцэне сьвет. Базыль асьветлены праменем проекцыйнага ліхтара).

Базыль

Таварышы, ціха. Нельга гэтак...
Зараз пачнем сьветлавую газэту.

(На палатне любоўная пара: Гадзецкі і Васіліса. Пяюцца прыпеўкі-тлумачэньні).

1-ая

На гародзе рос качан,
А пасьпеў радзісай..

2-ая

Падрываюць нрамфінплян
Радзецкі з Васілісай.

Вазыль

Таварышы! Ў момант рашаючага штурму прарыву на заводзе комсамолка Васіліса выходзе замуж, і толькі з гэтае прычыны, у час найвялікшай патрэбы ў рабочай сіле,—пакідае завод. Ці ёсьць гэта лінія комсамолу?

(На палатне „любоўная“ пара: Стрэльбін і Ліпа).

1-ая

Па конвэеру падрад
Ідуць дубы-сталеткі.

2-ая

Стрэльбін пудзіцца дзяўчат,
Што конь мотоцыклеткі.

Базыль

Таварышы! Стрэльбін—комсамолец, добры грамадзкі працаўнік. Але ён у адносінах да жанчын дапускае вялікія загібы. Ён іх чураецца. Угледзеўшы комсамольца з комсамолкай, абураецца, бачыць у гэтым перашкоду для пабудовы соцыялізму?
Ці ёсьць гэта лінія комсамолу.

(На палатне пара: Мішка і Галька).

1-ая

Гордасьць нашых гарадоў
Тэмпы пабудовы.

2-ая

Ў Гальке з Мішкаю любоў,
А завод—аснова.

Базыль

Таварышы! Мішка-ўдарнік, дае вышэйшыя нормы выпрацоўкі, і комсамолка-ўдарніца Галька, стаяць моцна на перадавых позыцыях вытворчых баёў. Па-бальшавіцку ясна ўяўляюць сабе месца асабістага і грамадзкага ў нашу сучаснасьць. Ці ёсьць гэта лінія комсамолу?

(На палатне пара: Мер'ема і Кандраль).

1-ая

Дзень і ноч, дрыгва і сталь,
Б'юцца дзьве сыстэмы.

2-ая

Любіць дым пусьціць Кандраль,
Працаваць—Мер'ема.

Базыль

Таварышы! Кандраль толькі і прагне затрымаць ход нашае працы, іграе на струнах цяжкасьцяй, якія перажывае краіна. Мер'ема—старая работніца—пэнсыонэрка, прышла на завод, каб дапамагчы нам справіцца з ганаровай задачай.

Ці ня ёсьць лінія старэнькай Мер'емы—
лінія комсамолу?

З а ц е й н і к

Толькі давайце парадкам.
Гульня для ўсіх нас.
Будзем даваць загадкі,
А вы ў рыфму—
адказ.
Пачынаем.

З а г а д к а

Сыпіць у вочы рабочым туман,
Пра „Пан-Эўропу“, пан...

А д к а з

Брыан.

З а г а д к а

Тысячу выслаць ад нас у час
Нашым таварышам у...

А д к а з

Донбас.

З а г а д к а

Усадзіць Пілсудзкаму вострае шыла,
Няхай загадае Нарком...

А д к а з

Варашылаў!

З а г а д к а

Заіржавела прадольная пілка,
Прарыў за прарывам дае...

А д к а з

Лесапілка.

З а г а д к а

Соцыялізму фундамэнт заклалі,
Намі кіруе таварыш...

А д к а з

Сталін.

З а г а д к а

У нас—мы Чырвоную армію маем,
І маем другую ў Далёкім...

Г о л а с

Кітаі.

А к у л і н а

Не парушаць заўжды павінны—
Профсаюзнай...

Ч ы ж

Акуліны!

(Сьмех)

А к у л і н а

Дысцыпліны!

З а г а д к а

Паляваў Радзецкі лісу,
А падстрэліў...

А д к а з

Васілісу!

З а ц е й н і к

А цяпер давайце крышку
Мы гульнём ў ката і...

А д к а з

Мышку.

Г а л а с ы

— Давайце, давайце—усе ў карагод.
— Я буду мышкай. Я буду кот.
— І я... І я. Шырэй карагод!
— Кірыл Антонавіч, з намі
ў прыпрыжку!

Д ы р э к т а р

Ня выйдзе.

Г а л а с ы

— Выйдзе!
— Будзеце кот.
— Галька—вашаю мышкай.
— Пачынаем. Раз! Два!
— Лаві, уцякай!

(Пачынаецца гульня, шумна, весела. Праз карагод з сваім сундучком прабіраецца Міколка)

М і к о л к а

Дазвольце заявіць.

Дазвольце сказаць...

(Усе спыняюцца, зьдзіўлена акружаюць яго)

М і к о л к а

Нас... падбухторваў... бракер.

*(Заслона)*

# Т Р Э Ц І  А К Т

## ВЯЗЬМО ІХ

Прадвясеньні вечар. Адліга... Адчынены сход комсамольскае ячэйкі. Апроч комсамольцаў, прысутнічаюць старэйшыя рабочыя. Сярод іх Мер'ема. Стрэльбін—старшыня сходу.

К л і м

Насьпеў урачысты час,
Пара перамогі настала,
Глянуць, што зроблена ў нас
Нашым ударным кварталам.
Заданьне было—900,
Тысячу—сустрэчнае слова.
На сёньня зрабіў завод—
948.

А к у л і н а

З паловай!

К л і м

Каб зьдзейсьніць сустрэчны плян,
Адна засталася дэкада.

Г а л а с ы

— Апавясьціць гураган.
— Што гураган,—кананаду!

К л і м

Штурмам юнацкіх сіл
Мы ўцягнем старэйшых, верна.
І разам, напорам усіх,
Тысячу вышлем у тэрмін.
Ня лёгка яно, але—вы,
Рабочым запальным прыбоем,
На сёньня з баёў штурмавых
З гонарам вышлі,—герої.
Давалася цяжка. Былі
І будуць яшчэ перашкоды.
Алё ў барацьбе мы расьлі,
У агні бальшавіцкіх паходаў.
І тысячу, як адзін!
Навалаю—ўзяць барыкады!..
Вашае слова—пачын
У штурме апошняй дэкады.

Ч ы ж (уперабіўку з іншымі)

— Слова
— За!
— Абавязкова!
— Прапанова!
— Дай сказаць!

С т р э л ь б і н

Па парадку, ня крычы.
Першы слова мае Чыж.

(Да прэзыдыуму прабіраецца Мер'ема, гэтым самым перашкаджае гаварыць Чыжу і ў выніку яго перабівае)

Ч ы ж

Гураган—найлепшы сродак,
Каб прарыў...

М е р‘е м а

Мае сынкі,
Каб заказ аддаць у час,
Трэба ўсім, адным заходам,
Стаць за працу, за станкі.
Ня дай божа—гураганам,
Ён зьніштожа ўсё, на звод.
І нашто, сынок каханы,
Зваць няшчасьце на завод.
Лепш, па-мойму, па-старому,
Працаваць, як сьвеціць сьвет.
Толькі ўцягнешся, да до-ому
Завадзкі гудок заве.
Хоць-бы так, гадзін дванаццаць,
Восем—што-ж гэта для нас?
А ў дванаццаць
Добрай працай—
Можна выканаць заказ.
Згода, сынку?

Б а з ы л ь

Не, ня згода!
Наркампрац сказаў: заводы
Маюць свой працоўны кодэкс.

С т р э л ь б і н

Ціха, звады, ў нас дэкада,
Прапаную ня крычаць.

Мішка

Верна, хлопцы, ціха... Даць
За дзесяць дзён павінны мы
Пяцьдзесят і два дамы.
Так што...

Акуліна

Дайце слова,
Нам не 50 і 2
51 з паловай.

Мішка

Братва, трывога. Ударыць моцна.
Сто—павінен даць завод.
Абвясьціць па соты процант
Наш вытворчы штурм-паход.
Наш уздым усіх рабочых
Зазаве ў рашучы бой.
І трохзьменна, дні і ночы,
Ні хвіліны на прастой,—
Плян ударны наш, вытворчы,—
Зьдзейсьнім працай штурмавой!

Галька

Верна!

Сенька

Правільна.

Чыж

Аблогай.

Стрэльбін (дыктуе сэкратару)

І запішам так: трывога,
Абвясьціць на ўвесь завод,
А таму наладзіць сход,
Наш вытворчы штурм-паход...
— Згода?

Галасы

Ёсьць!

Суніца

Прарэдакціруй!

Стрэльбін

Значыць, хлопцы, толькі шчыра.
(Глядзіць у блёк-нот)
А ў бягучых—слова мае
Наш заўком, таварыш Заяц.

Акуліна

Хай яшчэ зрабіць павінны
51 з паловай.
Вашым сёньняшнім пачынам,
Лепш сказаўшы, пастановай—
Будзе сто, абавязкова.
На сваім чарговым сходзе
Комітэт наш завадзкі
Ухваліў ўзнагародзіць
Запісаўшы пункт такі:
(Чытае вельмі хутка)
Слухалі: аб прэміраваньні комсамольцаў
за ўзорную працу.

Пастанавілі: лічачы, што ў першым ударным квартале, атрымаўшы заданьне — выпуск дзевяці соцен стандартных дамоў для герояў соцыялістычнага Донбасу—і прымаючы пад увагу, што завод ня быў прыстасаваны, пры недахопе рабочае сілы, комсамольскія вытворчыя брыгады высунулі сустрэчны, абкругліўшы ў тысячу дамоў,—штурмавалі гэты плян, як сапраўдныя змагары за соцыялізм. Зроблена ўжо 945. (Дадае ад сябе)... На сёньня 948 з паловай. (Чытае далей). Гэта дасягнута на аснове правільнага кіраўніцтва партыйнага колектыву і на аснове ўжываньня комуністычных мэтадаў працы, соцспаборніцтва, ударн...

Галасы

— Досыць.

— Во нагарадзілі.

— Усё-ткі, што-ж пастанавілі?

Акуліна

Пастанавілі? Ухвалілі закупіць адзін мотоцыкл і адзін фото-апарат на сродкі фабкому, выклікаць дырэкцыю зрабіць тое самае. Прасіць ЦСПСБ, паколькі мяркуецца паездка рабочых-ударнікаў вакол Эўропы, даць нам адно месца— і... перадаць штабу комсамольскіх удар-

ных брыгад для раздачы лепшым ударнікам ленінскага комсамолу нашага заводу (Агульны ўздым)

Ч ы ж

Во, красуй, мая качалка!

Г а л а с ы

— Прэміроўка!
— Мотоцыкл.
— Прэміроўка—за штурмоўку!
— Гэта лоўка!
— Малайцы!

С т р э л ь б і н

Па парадку. Хто там дурыць?
Падавай кандыдатуры.

Г а л а с ы (на перебой)

— Мішку!
— Мер'ему!
— Кірыл Антонавіча!
— Чыжа!
— Стрэльбіна!
— Васілісу (сьмех)

С т р э л ь б і н

Лепшым трэба, той—хто ўзор,
Хто комсамольскі браў напор.
Хто працаваў з агнём, як сьлед!

(Чытае сьпіс)

Мішку?

Галасы

— Даць!
— Мотоцыклет!

Базыль

Ён рэдактар. Для работы,
Як сказаў пісьменьнік Гётэ,
Мішку выдаць трэба фото.

Стрэльбін

Галасую

(Падняліся рукі)

Хто супроць? Аднагалосна.
Ціха вы... Далей ідзем мы.
На чарзе цяпер Мер'ема.
Даць?

Галасы

Даць, абавязкова.

Мер'ема

Не, ня трэба, што вы, дзеткі...

Стрэльбін

Галасну. Мотоцыклетку
Даць Мер'еме. Хто супроць?

Мішка

Хлопцы, кіньце жартаваць,
Дзе старэнечкай катацца.
Прапаную клапатаць
Ёй імя—Героя працы.

(Гул адабрэньня)

С т р э л ь б і н

Кірыл Антонавіч—наступны.
Галасьнём?..
Супроць? Няма.

(Воплескі)

С т р э л ь б і н

Вось і ўсё.

А к у л і н а

Яшчэ, дарэчы,
Ў Эўропу—
Месца нам бясспрэчна.

С т р э л ь б і н

Калі так, наступны Чыж.

Г а л а с ы

— Выдаць!
— Даць!
— Броніраваць!

С т р э л ь б і н

Хто супроць? Няма. Канчаем.

А к у л і н а

Іншых з сьпісу я вам раю
Ўсіх цяпер замацаваць.
Бо й дырэкцыя, я знаю,
Прэміроўку хоча даць.

С е н ь к а

Прапаную толькі з сьпісу
Ня выкідваць Васілісу...

(Сьмех)

Мішка

Таварышы, трывога!
Прарыў бярэ ў палон:
Яшчэ работы многа—
І толькі дзесяць дзён.
Ня трэба захапляцца,
Ўсю моц на штурм-паход.

Галасы

— Таварышы, за працу.
— Атакай—на завод.

Чыж

Як сэкратар рэдакцыі,—
Давайце матар'ял
Пра жыцьцё, аб працы і
Пра ўдарны наш квартал.
Газэтку мы на сьвята
Во!—зьвярстаем вам.

Акуліна

З Донбасу дэлегаты
На сьвята едуць к нам.

Стрэльбін

За нашу перамогу,
За ўдарны наш квартал,
Таварышы, трывога!—
Даёш інтэрнацыя...

(Адразу спахваціўшыся)

Братцы, хлопцы, хлопчыкі.
Забыліся зусім,—

З лепшых-лепшы ўдарнік
У нас—таварыш Клім.
Яму узнагароду!

Галасы

— Пашана!
— Гонар!
— Чэсьць!
— Бальшавіку старэйшаму,
— Кіраўніку, таварышу,
— Хадайнічаць на славу—
— Ордэн Леніна
— Ордэн Леніна!
— Ордэн Леніна!
— Качаць... Вітаць. Ушанаваць!

(Качаюць Кліма і пяюць „Выхри враждебные воют над нами").

## ВЯЗЬМО X

Ноч. Цемень. Трывога. Сірэна. Бегае прожэктар. Гул. Трывога
На вышцы, што на беразе; дырэктар, інжынэр, вартавы.

Дырэктар (углядаецца на раку)

На вачох прыбывае вада,
Затопіць завод.

Інжынэр

З берагоў
Падымаецца ўверх.

Вартавы

Вада.

Дырэктар

Ход стыхіі. Яго
Нельга асіліць. Удар.
Стане завод.

Вартавы

І на многа

Дырэктар

Усе меры—дарма

Вартавы

Вада.

Дырэктар

Ахвярай лягла перамога

(Выходзіць з вышкі)

Усе меры дарма. Не чакалі
Ўпяршыню гэтак рушацца хвалі.

Інжынэр

Каб захаваць завод,
Выйсьце я бачу, але
Рокат разьюшаных вод
Частку пасёлку зальле.
Падняўшы плаціну, здолім
Стыхію на бок скіраваць.
Будынкі затопіць ня болей
Сантымэтраў 75,
І тыя ўсяго, што ля клюбу.

Вартавы

Ніякай тут страшнае згубы...

Прыбягаюць з крыкам, шумам-лямантам жанчыны. Гудуць гудкі, прыбягаюць комсамольцы. Ракочуць хвалі. Прыбягае Васіліса.

Васіліса

Што такое? Што тут стала?

Ліпа

Гаварыла-ж я, казала...

Галасы:

— Мяхі з пяском на бераг класьці
— Ня даць прапасьці бервяну.

Дзелавод (прыбягае ў ніжняй бялізьне)

Ах, няшчасьце,
Ох, няшчасьце—
Пабягу будзіць жану.

Стрэльбін

Ня крычаць!

Сенька

Прымайце балкі!

Чыж

Во, размый, тваю качалку!

Галасы

— Сьцеражыся.
— Прыбывае...

Кандраль

Бог разгневаны карае...
Гнязду антыхрыста—ня жыць.

Галасы

— Ратавацца.
— Прыбывае.
— Ня крычыце.
— Што рабіць?

Дырэктар (узышоў на вышку)

Таварышы, спакойна. Наш завод
Паводка выведзе ў расход.
А павінны ўсё зрабіць,
Каб наш завод астаўся жыць.

Стрэльбін

Адратаваць завод павінны.

Дырэктар

Для гэтага праз дзьве, праз тры
хвіліны
Падняць павінны мы плаціну.

Кандраль

Што?... Плаціну? Небясьпека?
Завод важней для чалавека?
Тапіць рабочых? Душагубы!

Дырэктар

Вада ня дойдзе і да клюбу.

Галасы сэзоньнікаў

— Ня даць плаціну.
— Адстаяць

Кандраль

Адзін раз гінуць
За Саветы.

Мішка

Ціха, цёткі, ня крычаць.

Стрэльбін

Інжынэру дай сказаць.

Галасы

Ён ня наш.

Кандраль

Ён шкоднік, братцы...

Галасы

— Нас затопяць
— Ратавацца.

Чыж (да Кандраля)

Замаўчы... тваю качалку.

Дырэктар

Ціха, што гэта за свалка!
Нікому сьмерць не пагражае
Ня трэба панікі...

Кандраль

Мы знаем,
Пагражае
Ці... пужае...

Інжынэр

З будынкаў, што ад клюбу справа
Выселіць, і нават
Вада зусім ня болей займе...

Галасы

— Дух твой займе.
— Шкоднік.
— Контра!

Кандраль

Падумаць толькі—што такое
Тапіць рабочых, іх дзяцей
Па-бальшавіцку гэта?

С т р э л ь б і н (да дырэктара)

Гэй—
Пастаім—дык хвалі хлынуць.
Дай загад падняць плаціну!

Л і п а (падбухтораная Кандралем)

А на што я нараджалася,
А на што я гадавалася,
А мая галоўка бедная...

Д р у г а я (яе перабіваючы)

Не карай нас божа ласкавы...
Сьмерць прышлі мне чалавечую,—
Як памерла мая матанька,
Як памёр мой родны татанька.
Мне, рабе тваёй, памерці,
Не тапеліцай нявіннаю...

М і ш к а

Эх, чаго вы, сястрыцы і маткі,
Жывеце вы і будзеце жыць.
Калі-ж і падмочацца хаткі,
Па гэтай бядзе галасіць?
Сьцішацца хвалі, заплачам,
Пацерпім ня—тыдзень, а год.
Плаціну падняць гэта значыць
Адратаваць завод.
Эх, цёткі, ад гэтай паводкі
Завод наш змарнее зусім.
Ня праўда?—скажыце? А ўсё-ткі
Чаго мы бунтуем, крычым?

Мер'ема

Верна, Альжбэтка,
Сама ты і дзеткі
Пяройдзіш да нас. Ідзём..

(Альжбэта, лямантуючы выходзіць)

Кандраль

Не дадом плаціну, не дадом,
Грудзямі ляжам, трупам ляжам,
Мы адстоім галавой.

Чыж

Гэтак важна:
— Трупам зьляжам.
Зьляжаш, сволач, сам-сабой.

Галасы

— Дакуль стаяць?
— Спазьніцца зможам.
— Падняць плаціну!

Кандраль

Асьцярожна!

Рабочы (да Кандраля)

Не гарлань,
Былога... здань
Падняць плаціну—патрэбная справа.
Толькі спакой і рухавасьць.

(Дырэктар за ім інжынэр ідуць на вышку)

Д ы р э к т а р (голас загаду)

Стрэльбін,
Сабраць людзей і жвава
Выселіць правы квартал.
Пакуль—высяляйце ў клюб.

С т р э л ь б і н

Ёсьць. (з грамадой выходзіць, за ім бабы і мужчыны)

К а н д р а л ь

Братцы, з месца не кратацца!

Д ы р э к т а р

Таварыш, Міхась,
З народам бяжы
За складам—адкіньце глыбей кражы.

М і ш к а

Ёсьць! (бяжыць з грамадой)

Д ы р э к т а р (да Сенькі)

Таварыш, Клейне.
Зьбяры брыгаду,—
У час высяленьня
Захоўваць парадак.
Беражыцеся зладзеяў.

С е н ь к а

Ёсьць! (з групай бяжыць)

Д ы р э к т а р

Шпілёўскі, дзе ён?

Базыль

Я.

Дырэктар

Дасі нам знаць,
Як скончаць... высяляць.

Базыль

Ёсьць! (пабег)

(Засталіся дырэктар, інжынэр, вартавы. Ля вышкі стулі́ўшыся— Васіліса. Кандраль з ім 4-5 сэзоньнікаў. Дырэктар, інжынэр, вартавы ідуць з вышкі. Загараджвае дарогу Кандраль і яго сэзоньнікі).

Дырэктар

Што насталі? На падмогу!
К высяленьню!

Кандраль

Што?

Дырэктар

Дарогу!

Кандраль

Што? Дарогу? Сьмерць рабочым?
Жыць рабочыя ня хочуць?
Шыю зломіш, мой паночак... (груба)
Хай змывае, каб і вочы
Завод убачыць не маглі.
Не падымаць плаціну, чуеш?

Дырэктар

Адыйдзі. Ты—горш скаціны.
Розум траціш, сукін сын.

Кандраль

Брацья, бяры і... пад плаціну.

Дырэктар

Што?

Клыч

— Прэч!

Інжынэр (да Клыча)

— Сволач.

Клыч

Гаспадзін...

(Накіроўваюцца на іх. Кандраль выхваціў ружжо ў вартавога, ускочыў на вышку, прыкладам пабіў прожэктар).

Кандраль

Бальшавічкі...
Тапіць людзей?
Брацья, хавай канцы,
Хай самі гінуць.
Кідай, кідай іх пад плаціну!
Та-ак... Душы іх... Хай вада
Дакончыць сволачай... Кідай...

(Гул вялікі зьліваецца з крыкам. Сэзоньнікі выпускаюць дырэктара, інжынэра, вартавога і ўцякаюць. Рушыцца ў момант вышка—Кандраль з крыкам „ратуйце“ валіцца ў ваду. Шугае вада, шуміць. Гэта Васіліса падняла плаціну. Васіліса падбягае да дырэктара. Інжынэр ходзіць—нэрвуецца).

Васіліса

У вас тут кроў...

Дырэктар

Ці выселіць пасьпелі жыхароў?

Вартавы (глядзіць на раку)

Канец яму прышоў...

Інжынэр

Якая сволач, які падлец...

Дырэктар

Дзякуй, Васіліса, маладзец.

(Убягае Базыль)

Базыль

Толькі я нагой асьмеліў—
Хвалі раптам захадзілі...

Дырэктар

А выселіць пасьпелі?

Базыль:

Уплатнілі.
Як сказаў Бухарын—жыва
Выпаўняем дырэктывы.

# С О Н Ц А В Ы Л А З К А

## ЭПІЛЁГ

Сонечны дзень. Спакойна коцяцца хвалі рэчкі. Дзелавод ловіць рыбу. Выцягвае — „ёсьць“. Здаволены. Грапечацца уклейка на кручку. Скача з ёю дзелавод.

Дзелавод

Ах, попалась, птічка, стой,
Не уйдзёш із сеці...

(Ловіць на галінках кустоў муху)

— „М-мая“.

(Садзіць яе на кручок. Закідвае вудачку зноў)

— „Т-твая“.

(Чуваць масавая комсамольская песьня ўсё бліжай і бліжай. Чуецца голас Стрэльбіна „Ціхі ход“. Падплывае лодка адна, другая. Першым выскаквае на бераг Стрэльбін, на рукаве чырвоная істужка).

**Стрэльбін**

Астанавіце флёт!

Галасы

— Міхась—вылазь!
— Вера—на бераг!
— Васіліса—варушыся!
— Алесь—зьлезь!

— Андрэй—скарэй!
— Які прастор...
— Хутчэй, Рыгор!

Сенька

А... а Мірон Саўкавіч Крот!

Дзелавод

Ня Мірон, а Нэр-рон.
Ня Саўкавіч, а Саулавіч
І ня Крот-т, а Крод-д...
На заводзе старшы дзелавод
Нэр-рон Саулавіч Крод-д.

(Уся грамада на шырокай сенажаці, пад гарачым сонцам пераблыталася у неорганізаванай вясёлай і жывой акробатыцы Стрэльбін распранаецца, застаецца ў трусіках. Чырвоную істужку перавязвае на голую руку. Мішка і Галька адлучыліся ад грамады, селі на беразе ля куста).

Стрэльбін

Стойце! Мы павінны...

Акуліна

Не парушайце дысцыпліны.

Стрэльбін

Альлё... Даю загад.

Голас

Загад.

Стрэльбін

Усе падрад.
Стаць у рад
Раз. Два. Тры.

(Адны становяцца ў рад, другія яшчэ акрабацяцца)

Стрэльбін

Сенька, ня дуры!

Акуліна

У рады
Да грамады.

Голас

Акрабат,
Стань у рад.

Стрэльбін (аглядае рады, перад фронтам ходзіць)

Васіліса, ня хістайся...
Сьмірна.
Па камандзе распранайся.
Раз. Два. Тры. Чатыры.

(Усе ў трусіках)

Стрэльбін

Слухай маю прамову:
Згодна нашай пастановы
Мы зрабілі ў поле выхад.

Васіліса

Сонцавылазка!

Сенька

Мне слова.

Акуліна

Даць рэглямант!

Стрэльбін:

Што-вы, ціха.
Згодна нашай настановы.
Паветра, сонца і вада.
Ў здаровым целе дух здаровы.
Гартуйся, наша грамада.
Быць здаровым—трэба, братцы,
Фізкультурай гартавацца.
Перад намі барыкады
Міжнароднай схваткі (шум у радох).
Заклікаю да парадку,
Разьбіваю па брыгадам:
Васіліса.

Васіліса (робіць два крокі ўперад)

Я.

Стрэльбін

На карме з харчамі скрыня.
Будзеш нашай гаспадыняй.

Васіліса

Буду вашай гаспадыняй.

(Робіць кругом, ідзе на месца)

Стрэльбін

Акуліна!

Акуліна

Я.

Стрэльбін

Шмат народу... Небясьпечна.
Будзеш старастай аптэчкі.

Акуліна

Буду старастай аптэчкі.

Стрэльбін

Сенька!

Сенька

Я.

Стрэльбін

Брацъ усіх- паачарод
Вартаваць заводзкі флёт.

Сенька

Вартаваць заводзкі флёт.

Стрэльбін

Мішка! (Аглядаецца)
Мішка!
Дзе ён?

Голас

З Галькай зьбег.

Стрэльбін

Адшукаць. Даставіць. Дзе ён?

(Усе разьбягаюцца)

Галасы

Мішка... Мішка! Гу... ау...
Лятуны, дзе дзеліся... ау...

Акуліна

Вот, скажыце, ліхадзеі.

Базыль (дакладае)

Пад кустамі з Галькай млее.

Стрэльбін (Падыходзіць да куста)

Што ты робіш? Шуры-муры?
Хочаш плян парушыць наш?
Міжнародны сабатаж.
А камандваць фізкультурай
Буду я?

Мішка

Сьціхні, пойдзе ўсё чын-чынам.

Акуліна

Удвох пад кусьцікам варкуюць.
Разлажэньне дысцыпліны.

Васіліса

Стрэльбін, дай легалізуем.
Усё адно.

Базыль

Легалізьнём.

Стрэльбін

Што я чую? Што я чую?

С е н ь к а (да Стрэльбіна)

Ухвалі.

Б а з ы л ь

Легалізьнём.

В а с і л і с а

Тут, пад сонечным агнём!

Б а з ы л ь

Загсанём!

В а с і л і с а

Усе гуртом!

М і ш к а (да Галькі)

Лёгалізьнём?

Г а л ь к а

Легалізьнём. (Скідаюць вопратку, застаюцца ў трусіках)

С т р э л ь б і н

Усё адно ўжо. Ухваляю.
Больш ня трацьце час... хавацца.
Ухваляю... Што-ж параіць?
Пра завод не забывацца,
Фізкультурай гартавацца
І... пра кадры турбавацца.
Век вам жыць.

Б а з ы л ь

Раз турбавацца,
Дык ня менш—на душ дванаццаць.

В а с і л і ç а

Запісаць іх.

Г а л а с ы

— Запісацца

С е н ь к а (да Акуліны)

Ты-ж заўком, давай заручым.

А к у л і н а

Не.

Г а л а с ы

— Чаму?
— Баіцца блуду.

А к у л і н а

Я супроць і... самаручна іх запісваць
ня буду.

С е н ь к а

Дзелавод, ты хлопец здатны.
Запішы і... справе цьма.

Д з е л а в о д

Я канешна, далікатна,
Канцыляры і тут няма...

Б а з ы л ь

Калантай сказала,—братцы,
Можна жыць і ня пісацца.

В а с і л і с а (да Галькі)

Ах, ты дружка-весялушка
Я спляла табе вянок
(З сухога сучча, адзяе ей)

Сенька (да Мішкі)

Ох, ты птушка-завітушка,
Кветку й мы табе ў знарок.

(Сучок да майкі)

Стрэльбін

Ухваляем і... канчаем.

Галасы

— Не канчаем—заручаем.
— Ім спрыяем
— Іх вітаем.
— Хлопцы, дай станцуем, дай!
— Эх, давай,
— Давай.
— Давай!

(Пачынаецца танец-пляска. Усе весела, шумна-карагодам уюцца вакол Галькі і Мішкі. Дзелавод скручвае вудачку, раптам пільна стаў ўглядацца на рэчку, ледзьве ня валіцца ў ваду)

Дзелавод (Крычыць)

Поп, поп, едзе поп,
Стой, глядзі, едзе поп.

Галасы

Дзе поп? Хто поп?

Дзелавод

Там на лодцы...

Сенька (с берагу)

Стой, хлопцы,
Поп—скаціна.

Базыль

Запрасіць сюды яго.

Акуліна Карпаўна

Гэта што?...

Галасы:

У айца і сына
Дух на вылёт...
Го-го-го...
Мішку з Галькаю жанілі
Бацюшкі.
У папа не запрасілі
Матушкі
— Яко будзь мужчына дужы
Бацюшкі.
Тай жана ўбаіцца мужа
Матушкі.

(Падплывае лодка. Мерным крокам з клумкам за плячыма ідзе Чыж. Адзеты ён у зімовую адзежу, валёнкі, башлык. Яго не пазнаюць. Стаў на ўзгорку. Усе ўглядаюцца).

Чыж (узьняў папаху)

Таварышы...

Галасы

— Браточкі, Чыж!
— Што з табой?
— З якім паходцам
Падплываеш, вы-на-ходца...

Чыж

Я, таварышы, прышоў
З вамі разьвітацца.

У край суровых халадоў
Еду я займацца.
І да восені наўрад
Ці змагу даехаць.

Васіліса

А куды ты?

Чыж

У Ленінград.
У інстытут ЛІЕКХА.
Пажадаю вам, браткі,
Каб змаглі вы, братцы,
Як байцы бальшавікі,
З посьпехам змагацца.

(Усе апусьцілі голавы. Апусьціў галаву і Чыж. Дзелавод глянуў на бакі—і выцер сьлёзы).

Чыж

Дык іду я... Ужо іду.

Галасы:

— Чыж, мо' з намі пагуляеш?
— Заўтра пойдзеш, не бядуй.
— А білет ты маеш?

Чыж

Не. Няма...
На пяты год
Вярнуся толькі на завод.

Васіліса

Чыж, пабудзь хвілінку з намі.

Чыж

Не магу...

Дзелавод (выціраючы сьлёзы)

Вы-ж маладны,
Сэрца вашае не камень...
Сьмела так, з такім напорам
Помню... вы былі рабкорам.
Будзьце з намі, мы вас просім,
Вы сучасны Ламаносаў.

Базыль

Ламаносаў бегаў босы.

Мішка (да Чыжа)

Прэч валёнкі, прэч кажух.

Стрэльбін

Распранайцеся ўдвух.

Дзелавод

Я... Я? Я... Рад.
Я для вас аддана палка...

Чыж

Эх, гуляй, мая качалка,
Заўтра руш у Ленінград.

Абодвы распранаюцца. Чыж—у трусіках. Дзелавод у кароткіх споднiках. Сьмех.

Базыль (пра дзелавода)

Хоць ня гладка, а ў парадку.

Васіліса

Сонцавылазка—на радасьць.

Стрэльбін

Перад намі барыкады
Міжнароднай схваткі.

Акуліна

Не ламайце дысцыпліны.

Сенька

Гартавацца мы павінны.

Стрэльбін

Паветра, сонца і вада.

Мішка

Каманду слухай, грамада.

(Пачынаецца купаньне, паказ фізкульт-фігур,—усё гэта як сымболь пролетарскае сілы. Ідуць плыты. Зыбяцца хвалі. На плытох складзены штабэлямі стандартныя дамы. Плыты плывуць на Ўкраіну. А сонца гарачае і зазыўнае, як маладосьць)

1931 г.

---

## I

Жыцьцё зьмяняецца, зьмяняюцца ідэі.
Расьце сасна, а поруч тлее корч.
Радзіўся чалавек,—звычайная падзея:
Пануе дзень, калі змаглася ноч.

Радзіўся чалавек. Расьце-цьвіце ў пяшчотах,
І для яго жыцьця—жыцьцё другіх гарыць.
На ногі стане ён, сваім уласным потам—
Жыцьцю наступнаму гартуе права жыць.

Радзіўся чалавек. Імя яму—Марыля.
Нішто выдатнае ня збылася наўкол.
І, як заўсёды, куры па двары блудзілі,
Падрывалі сьвіньні стлеўшы частакол.

Задумены бацька курыць самакрутку;
Галава павісла ў гомане клапот.
Стомленая маці... Радасьць тут, ці смутак?
Чалавек радзіўся. Ў хаце лішні рот.

А дзень мінуў, сканаў у кратах змроку.
Сузор'ем ноч іскрыцца над зямлёй.
Жыцьцё зьмяняецца, стварае—крок за крокам
Вялікі скарб гісторыі людзкой.

На беразе... шчасьце дзялілі.
Над возер—амзор карагод.
Рыгор з сьветлазорай Марыляй
Гушкаліся ў хвалях пяшчот.

IV

А людзі блізкія дзівіліся-пыталі:
— Калі ўжо сыйдзецца Марылька з маладым?
— Та-а-кі хлапец!—бабулі выхвалялі...
— Дзяўчынка яг-гадка!—выхвальвалі дзяды.

Няхай зара мядзянаю рабінай
На небасхіле выйдзе з берагоў—
Рыгор з Марыляю ў сутонных павуцінах;
Пачуцьці іх ламаюць краты змоў.

— З паўгода, любая, старанна папрацую,
Капейку лішнюю націсну, зараблю.
Тады прыду, вазьму каго люблю я.
А любіш ты?
— „Вось глянь, як ня люблю“—

І вусны злучаны... Адно зайздросьціць месяц,
Ад злосьці рынуўся тарчма ў лясны гушчар.
Пабеглі дні, за імі тыдзень, месяц...
За хмарай хмара, так навалы хмар.

Жыцьцё зьмяняецца, зьмяняюцца ідэі.
Расьце сасна, а поруч тлее корч.
Радзіўся чалавек. Гаспадаром ідзе ён.
Пануе дзень, калі змаглася ноч.

1

СІЛАЙ разьюшанай цемень лягла
На гарадок пакалечаны.
Зьвісла навалай, лягла, як скала.
Расправа злачынцаў адвечных.
Вецер ўзьняўся. Усхліпвае дым
Трывогай, як лезьвія, войстрай.
Тлеюць руіны... Галосяць сьляды—
Крывавыя плямы забойства.

Сьцелецца валам атручаны чад
Злодзеяў, першае сотні.
Рвуць-разьдзяваюць жанок і дзяўчат,
Рвуць у глухіх падваротнях.
І хмелем песьні
Несьлі весьці
Ў даль
Наўзлом—
Свабода
І
Пагром.
... Бо...
... Гром...

Гэй, хлопчыкі,
Дуйце ворага,
Рэволюцыя прышла—
Люба-дарага!
І рантам выбух:
Бумм...
Зьвізз...
Слуп тэлеграфны на краму зьвіс.
Гэй, птушанькі
Лёту дальняга.
Рэволюцыя прышла
Дасканальная!
І чуецца блізка ўжо:
Бах!.. Бах!
Што набліжаецца—
Радасьць, ці жах?

2

Тлеюць руіны...
Як сэрца баліць!
Гнуцца да долу калені.
Плача Марылька... Імкненьні цьвілі,
Юнацкая радасьць—імкненьні!

Вясёлыя думкі віліся даўно
І нікнуць у сэрцы надломах.
Яно ўжо заўсёды, чакаеш адно,
А выйдзе зусім па другому.

Думала так: перакруціцца час,
Жыцьцё закрасуе іначай.

Дый гэтая зорка,
Агонь гэты згас.
Тлеюць рўіны.
Плача.

Галосіць над бацькавым целам яна,
Ад роспачы сьлёзы застыглі.
Тлеюць руіны.
Цемень.
Адна.
Бацькі ня стала...
...Забілі.

Як дзікай травою зямля парасла,—
Бяда заўладала дзяўчынай.
Стромкая сіла імкненьняў расла—
Дачка беларускай краіны.

Месяц, як быццам на варце патруль,
Сеў ля вакна камяніцы.
На вуліцы зноў
Завываньне куль,
Блізіцца зноў навальніца.

Лямант і крык!
Лямант бяз слоў!
Кулі ў віхры вар'яцелі...
Як сьлёзы, лілася дзявочая кроў
Гарачай істужкай па целе.

Скроні закрылі вугальле вачэй,
Рукі халоднымі сталі.

Крывавыя кроплі
З дзявочых грудзей
На бацькавы грудзі сьцякалі.

3

І раптам па бруку
Грукат,
Як град.
Гоніцца
Коньніцы
Дружны атрад.
І незадоўга,
Яшчэ да сьвятла,
Чырвоная армія
Ў горад прышла.

4

Рана-рана сонца ўстала,
Глянула на горад,
Дзе пранеслася навалай,
Чорным віхрам гора.

На калені моўчкі сталі
І праменьні-стромы,
Дзе бяду параскідалі
Ветры-бураломы.

Пачарнелі камяніцы—
Дым зьлізаў іх фарбы.
Спапяліла навальніца
Сьцены нашых фабрык.

Сказ аб гэтым ліхалецьці
Нашым пакаленьням—
У курганах лютай сьмерці,
Ў помніках-каменьнях.

Гвалтаваў, паліў і грабіў
Кат-белгвардзеец:
Вочы—яма, рукі—граблі,
Твар—крывёю рдзее.

Сьмерць, руіны і праклёны
Каменем на грудзях...
Дзень прыходу войск чырвоных
Сьветла ўспомняць людзі!

Рана-рана сонца ўстала,
Глянула на горад,
Дзе пранеслася навалай,
Чорным віхрам гора.

Сонца, сонца, ты скажы нам,
Ты скажы, скарыся,
Дзе падзелася дзяўчына,—
Звяць яе—Марыся?

5

Вецер промені цалошча
Ў хвалях росных, на зарэ.
Белы дом стаіць на плошчы,
Ў ім паходны лазарэт.

Колькі раненых на нарах,
Колькі змораных, слабых!
О, нязьлічаць санітары
Раны лютай барацьбы!

З нар адных—у сутарэньне,
(Будзь ім лёгкая зямля!)
Знойдуць іншыя збавеньне
На дубовых кастылях.

Ля вакна ў руках бясьсільля
(Нары № 23),
Быццам труп, ляжыць Марыля,
Сіні колер твар пакрыў.

Дыхаць цяжка, грудзі ўспухлі,
Точыць смага, цяга піць.
Толькі вочы не патухлі—
Зіхацяць жаданьнем жыць!

Заглядзеліся на неба,
Дзе сузор‘е тчэ вянок...
„Зоркі ясныя, што-небудзь
Раскажэце мне адной“...

Вусны лістам затрасьліся.
Заблішчэла скронь сьлязой.
„Зноўку буду, як калісьці,
Буду дужай, маладой!
А мой мілы, дзе ён, дзе ён?
Падышоў-бы, даў руку“...

Зараніцы-веснавеі
Маладую радасьць ткуць.

— Не!.. Няма! Няма нікога!
Разлучылі? Разам? Не!
Што?.. Скрываўленай дарогай
Здані йдуць забраць мяне?
Во, ўжо блізка...
Шаль на тварах...
Па маю ідуць душу.
Я іду... іду.
— Таварыш,
Супакойцеся, прашу.
Не нэрвуйцесь, калі ласка...
— Дзе я?—
— Сьцішся, добрай стань.
Зараз зробім перавязку.—
Ўжо разьвеялася здань.
І ня болей, толькі тыдзень,
Адганеце сьцень журбы,—
Скінем бінт, а там надыйдзе
Час—здаровай, дужай быць!
Вось пакуль гарбаты кубак.
Пакаштуйце, вось сухар.
— Дзякуй шчырае за любасьць
Вам, таварыш санітар.—

— Адпачнеце. Добрай ночы...

Коўдру начай палажыў.
Погляд стомлены, дзявочы
Сваім смуткам варажыў.

А ў палаце нясупынна
Стогны, енкі, цьмяны сьвет.
Не вясёлы той будынак,
Дзе бальніца, лазарэт.

6

Прабеглі дні на крыльлях сакаліных
І рассыналіся зорамі ў начы.
Марыля ўстала.
Кволая дзяўчына;
Дзе ёй гора горкае змагчы!?
Сьцюдзёны вецер вые дзікім воем,
Слабое сэрца скручвае агонь.
Слоў няма.
Надломана здароўе.
Куды ісьці?
Куды і да каго?

А горад стаў інакшым, непадобным,
У ім нязвычны рух,
І радасьць новых слоў.
О, ты, Марылін, лёс!
Чаму яна галоднай
Ідзе сярод квітнеючых садоў?
Ідзе самотная, ідзе глухім завулкам,—
Можа блізка дзе знаёмыя жывуць?
Можа пашчасьлівіць
Там—
Знайсьці прытулак?
Можа прымуць ласкава,
Згінуць не дадуць?

І, як тыя птушкі, думанькі крыляцца:
„Можа прымуць ласкава,
Згінуць не дадуць.
Я шукаю шчасьця.
Шчасьце—гэта праца,
Адшукаю працу—здужаю бяду!
І знайду, Рыгорка, любы мой, адзіны,
І цябе і долю—я знайду ў жыцьці“...

Хто пачуе шэлест дум дзяўчыны?
Хто паможа шчасьце ёй знайсьці?

Неўспадзеўкі-зьдзіўлена
Марыля задрыжэла,
Яе спыніў, нагнаўшы, санітар.
— Куды вы ідзяцё?
Шкада вас... будзьце сьмелай,
Хадзем са мной, прымеце гэты дар.
Знайшоў прытулак вам,
Знайшоў вам у знаёмых.
Пашто блукаць завулкамі
Бяздомнай?

Схіліла галаву.
Сьлёзы наплылі.
Пашлі.

7

Санітар Аўзор Дарубашвілі
Жыве багата ў гэткі трудны час.
Аб ім шапталіся, казалі, гаварылі...
„Нешта ёсьць“—насілася ня раз.

І цянер вісяць на вуснах чуткі,
Быццам нейдзе нейкі загавор.
Панавалі зграяй гутаркі-пагудкі,
Шыта-крыта-хітра працу вёў Аўзор.

А яшчэ ніхто ня чуў ні разу,
Што пад прозвішчам чужым схваўся ён,
Што былы памешчык ён Каўказу,
Профэсыянальны
Шпіён.

Адны жывуць з пайка, і гэткіх многа,
Сядзяць бяз хлеба—і ні адзін дзянёк.
А ў Дарубашвілі—хлеб, што дня—бэфстрогаі
І для апэтыту—„дубнячок".

Ён даляры з ласкаю прыветнай
Атрымоўвае за „пару цёплых слоў".
А словы простыя—(коратка й конкрэтна)
Колькі ў нас адзетых, колкі без штаноў,—

Дзе ў акрузе войска разьмясьцілі,
Як узброены Чырвоны гарнізон.
Весткі гэтыя зьбіраў Дарубашвілі—
Профэсіянальны
Шпіён.

8

Жыла ня ў роскашы,
З маленства гэтак звыкла,
Штодня за працай час праводзіць свой,

І на дванаццаць вушак
Лапці з лыка
Насіла-ўвязвала
І ўвосень і зімой...
А тут жыцьцё... „з губэрскім громофонам“
І весела, галоўнае і сытна...
— „Эх, д'ябла, яблычка,
Як вырвацца з палону?
К чужому берагу
Жыцьце маё прыбіта...“

О, яе шануюць, даглядаюць, сочаць,
Каб расла, як вішанька ў поўны цьвет.
„Ты бяры, Марылька,
Ты бяры што хочаш,
Што такая сумная?
Што-о? Сакрэт?

У бядзе ліхой яна,
Ў руках Дарубашвілі,
І па ўмовах, змушана
Жонкай стаць яго.
Дый ня будзе, не!
Яшчэ ня згас у жылах
Крыві юнацкае заранкавы агонь.

Навокал руіны,
Проглядзь пануе.
За кавалак хлеба глумныя чаргі
Іх яна ня ведае,
А толькі сэрцам чуе.

Не Аўзор ёй пара—
Ой, другі, другі...
За вакном Марылька томіцца ў палоне,
І зазьзялі скроні,
Як расой трава...
— Эх, жыцьцё праклятае!
І на падаконьнік
Дзявочая
Павісла галава.

9

Красавіковы вечар.
З правага боку ўзышоў маладзік.
Подыхам ветлівым вецер павеяў,
Гушкаўся на дроце,
Як белка гульліва,
Ў зарасьлях рослых дрэў.
Аўзор і Марылька ў прагулку за горад
Завулкамі моўчкі ішлі.
...Яшчэ вярста—яны завярнулі
На могільнік брацкі, заросшы.
...Марыля заплакала, сьлёзы здушылі:
Тут бацька пахованы, брацкі курган;
Тут бацька Марылі, тут дзеці Масквы,
Варшавы, і Менску, і Кіева.

Аўзор зьняў шынэль. Сядзяць у дваіх.
Вочы ад плачу набраклі:
Па бацьку ручыліся сьлёзы яе,
Па жыцьцю па свайму сіратліваму.

Яе суцяшаў, супакойваў Аўзор,
Абняў, прытуліў, усьміхнуўся.
Поле наўкола, ў высі маладзік,
Агнямі віднеецца горад.
Абняў, усьміхнуўся, нясьмела сказаў:
— Чаго-ж ты, згаджайся са мною.
Будзем шчасьлівымі, будзем удвох,
Згаджайся, любоў мая ясная...
Марыля ўздыхнула... Зноў вецер падуў
Прахладаю змрочнай расы.
— Слухайце доўгую казку жыцьця,
Слухайце і зразумейце.
Добра я помню, было як цяпер,
Зьбіралася вёска на жніва.
Колькі той радасьці зьняць ураджай,
Хоць зямлі—на гадзіну работы!

А выла вайна. Наступалі немцы.
І раптам уночы, о, жудасьць!
Рвуцца гранаты! У вёсцы крык.
У агні саламяныя стрэхі!
Лямант! Трывога!
Выбух за выбухам...
Скача агонь па сядзібах.
Так хочацца жыць, а блізіцца сьмерць.
— Уцякаць!—пранеслася вёскай.

Доўга блукалі... Ні хлеба, ні працы.
Голад, як цень, неразлучан.
Бежанцы! Бежанцы! з торбай жабрачай
Колькі ня стала іх, згінула!...

Жыцьцё маёй маці ў дарозе забраў
Вошазубы бязжаласны тыфус.
Бацькі ня стала. Цяпер я адна,
Адна, што гарох пры дарозе...
Жыву толькі ўцехай, надзеяй аднэй,
Што стрэну Рыгора ўлюбёнага.
Яму прысягала... Ён мне прысягаў,
Калі забіралі ў салдаты.
Чула нядаўна, ён служыць цяпер
Лётчыкам недзе ў чырвоных...

— Марылька, цябе-ж я люблю як ніхто!
Мы будзем шчасьлівы, згаджайся!
— Люблю я Рыгора!
Ён верны мне.
Чакаць яго буду да сьмерці...
Агнём засьвяціліся вочы яе
Ў забыцьці на грудзёх Аўзора.
А што яму? Не каханьня кліч
Ён чуў з свайго хітрага сэрца.
І сьціснуў яе, загарэўся, раў,
Як зьвер той разгневаны, страшны.
Імкнуўся дзяўчынай сілком аўладаць,
Ён раў яе кофту, шукаў яе твар,
Гатоў задушыць, няпрытомны.
Дый сілу сабраўшы, рванулася з рук,—
Як выбухам крык астатні.

10

— Быць мне жонкаю Аўзора?
Ой, ніколі, не!

Як прыгожа зьзяюць зоры.
Сьцелюць шлях вясьне...
Згіну я адна-адненька
Харчам груганам.
Альбо палкае імкненьне
Любаму аддам.

11

— Хто мае жаданьні здолеў
Зьнішчыць, загасіць?
Ня было таго ніколі
І таму ня быць!
А калі дукатам звонкім
Скарб мой падміргне —
Будзе мне пакорнай жонкай,
Будзе жонкай мне!

12

Рабочая пара. Праца — поўны ход.
А гарадзкая шляхта
Ў кельлю кляштара
Зьбіраецца на сход.
Як знак на збор,
Заенчыў звон.
Прышоў Аўзор,
За ім і ксёндз.
А за ксяндзом,
На ўмоўны звон,
Грунём —
Шпіён...

Аўзор і
Джон Кейтан
(На выгляд суровы,
Тутэйшы настаўнік ангельскае мовы).

Выйшлі абодва... На вуліцы цёмна.
Ссутуліўся Джон, акуляры працёр.
— Містэр, часамі, здаецца, жыцьцём нас
Абгоніць сучаснасьць? Чаму так, Аўзор?

Багаты я сілаю волі і сродкаў,
Адно вось надоечы ў сэрцы, на дне,
Пачуў, што ўстаяць перад валам наводкі,
Не зразумела, ня ў сілах мне.

Заўсёды я быў, так сказаць, канархістым,
Цяпер выканаўца і нават слабы...
— Ня трэба, мой дружа, хадзіць пэсымістым
Калі набліжаецца час барацьбы.

Упэўненасьць—гэта найлепшы прыяцель.
А смутак—нікчэмна-дакучлівы госьць.
Але, можа кроплі халодныя, браце,
Кроплі праўдзівасьці маюцца, ёсьць...

— Ну вось вам, шаноўны (размахвае стэкам),
Трэба нам пошту даставіць—бяда:
Ня маем надзейнага мы чалавека;
І грошы ідуць, і людзей ня відаць.

Таму і настрой неастоістьі гэткі.
А пошту нам трэба даставіць, ці не?
Уздрогнулі бровы, затрэсліся векі,
Аўзор схамянуўшыся:
— Ёсьць у мяне
Дзяўчына. Яна завязе гэту пошту.
Бліскучая думка: ніхто—як яна!
Будзем спакойны, таму й танным коштам
Камандыроўка абыйдзецца нам.

Кейтан начухаў сваю экспаньёлку,
Спытаў недаверліва, шэптам сухім:
— Знаёмая вам? Мо' яна комсамолка?
(Жанчын ня люблю я. Ня веру я ім.)

Аўзор загарэўся раптоўнай ідэяй...
To be or not to be [1]), як гаварыў Гамлет.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зайшоў Джон у школу (у школе жыве ён)
І вынес Аўзору ружовы пакет.

14

У садку, сярод зарасьляў дрэў,
Сьвітаньне прадвесьні шматкрылай.
Аўзор і Марыля... Ветра павеў
Будзіць пачуцьці і сілы.

— Як хараша тут! Хто жывы, малады,
Ў таго сэрца, як птушка, ў палётах.

---

[1]) Быць ці ня быць.

Марыся,—бягуць за гадамі гады,
Маладосьць засьцілаеш маркотай.

Згаджайся! Пашто прымушаеш прасіць?
Інакшай, шчасьлівай ты станеш...
— Пакіньце мяне.
Я ня дам загасіць
Агні маёй веры каханьню!

— Наіўная вера. Рыгор не для нас.
Паслухай мяне і згадзіся.
Паедзем, як сокалы, жыць на Каўказ,
Там сонца...
Там горы...
Марыся!

Ад працы ад гулу ўцячэм мы далёка.
Сябрамі нам будуць і зоры і сокал.

Аул сабе знойдзем у скалах маўклівых,
Нам весела будзе, мы будзем шчасьлівы.

Час зварухнуцца,
Жыцьцё маладое!
Досыць схіляцца цнатлівай журбе!
Трэба, каб новыя думкі, настроі
Табой аўладалі, прышлі да цябе.

Мяне не чурайся... Глянь шчыра мне ў вочы,
Тугу непатрэбную кінь, адгані.
Табе, надаронай красою дзявочай,
Адно толькі ў радасьць зьвіваць свае дні.

— Чуйце, ня думаю вас я чурацца,
Але... прашу, як быццам сястра,
Дайце, ў знак дружбы, мне добрую працу,
За працай і зоры іначай гараць.

— Знайду, бязумоўна.
Цяпер калі хочаш —
Расьсеяцца крышку, пабачыць людзей,
Зьездзі ты ў горад, для ўцехі дзявочай,
Удружыш і мне і сабе весялей.

З сабою табе дам пакет невялічкі—
І ўсё даручэньне: прыедзеш, здасі.
Сама пагуляеш.
Адкінь гэты звычай
Стаяць,
        Наснагляць,
                Угаварваць,
                        Прасіць.

Яна адмаўлялася, ўсё ёй ня міла,
Дый думка раптоўна запаланіла:
— Пры чым тут пакет? Я выеду ў горад,
Магчыма пра любога ўчую Рыгора.

І думка здалася такою прынаднай,
Пачуць пра Рыгора—якраз цяпер знадна.

І згоду дала.
І Аўзор навучаў,
Як завезьці пакет, каб ніхто і ня знаў...

Б‘е званар,
Галосіць звон.
Бяжыць гандляр
Іларыон.
За ім яшчэ,
З усіх старон,
Што крок шпарчэй,
Шпіён...
Апушчаны шторы.
Змрок.
Вочы Аўзора—
Электра-ток.
Дух сталі.
Сядзяць у рад.
Аўзор Дарубашвілі
Чытае даклад:
— Паны! Зьбірайма болей сіл!
Настаў рашучай схваткі момант!
Нам загад—
Разьбіць чырвоны тыл.
Бальшавіцкі тыл
Быць павінен зломан!
Набліжаецца, панове, першамай,
Яны рыхтуюць дэманстрацыю, бясспрэчна.
А мы ўзарвем завод тарчма,
Раскінем прэч
Цаглянаю карцеччу!
Да насельніцтва лісткі надрукаваць.
Ня даць народу строіцца ў колёны.
Ўзарваць масты.

Павінна і царква
Скарыць народ сваім сьвятым законам.
І так—саветам сьмерць!
Зьбірайма болей сіл!
(Заводаўласьнік:
      — У гэтым наша змова.
Ксёндз дадаў:
      Атруцім тыл...)
— Хто просіць слова?
— Я! дазвольце?
Слова ўзяў гандляр.
Асіплым голасам, нібы пасьля хваробы:
— Заўчора, ўвечары, мясцовы комісар
Зрабіў з чакістамі ў мяне нахальны вобыск.
І вось бяда! Ці-ж лёгка расказаць!?
Пазабіралі золата, даляры.—
      О, вакханалія!
      — Дзе-ж сілы, каб стрываць? –
Аўзор сьцішаў:
— Зьніштожым комісара!
О, браты! Вялікі наш згавор
Мы мусім выканаць!
      — За нас усе сьвятыя!
— Ў суботу ўвечар збор.
      — З намі бог! За Расію!
— З намі бог! Ажыцьцяўляйце мэту!
Аддзячыць нам
            Зьняволены народ.
Выведвайце, што робіцца ў саветах
            Зачыняем сход.

О, колькі радасьці! О, шчасьце, цераз горы,
Аўзор Марыльку шле ў вялікашумны горад.

О, колькі радасьці! Марыля ўбачыць сьвет.
Аўзор праз дзеўчыну сакрэтны шле пакет.

Бяжыць цягнік. Калоціцца вагон.
Марылька і ня ведае,
Што і яна
Шпіён.

1

Ці чысты, як вока, апусьціцца вечар,
Ці дождж закрываў павуцінаю брызг,—
Таварыш у фрэнчы (шырокія плечы...)
Хадзіў за Марылькай, вачмі яе грыз.

Марыля прайсьціся адна ці з Аўзорам
Выйдзе за горад, ці ў парк, дзе народ,
Усьлед, ну, як быццам таемным дазорам,
Таварыш у фрэнчы з паходкай, як шрот.

На вуліцы з голаду вецер заенчыць,
Выйдзе Марыля па шпроты ў ларок,
Сьледам за ёю таварыш у фрэнчы
Заходзе ў ларок, выпівае сітро.

Ці сэрца агнём, ці прахладаю вочы
Яго да Марылі цягнулі што-дня?

. . .  . . . . . . . . . . . . . . .

Таварыш у фрэнчы настойліва сочыць
Адзін раз—з агнём, другі—без агня.

## 2

Поруч з Марылькай
          ...Грукат кол...

Таварыш у фрэнчы.
          ...Душна ў вагоне...
Вецер прыльне на дзявочы прыпол
І голаву ветліва клоніць.

У Марылі пад кофтай.
          ...Народу шмат...
Сакрэтны пакет.
          ...Цяплушка...
Пад гукі гармоніка, ўсеўшыся ў рад,
Пяюць пасажыры частушкі.

Поруч з Марылькай
          ...Сьцелецца змрок...
— Таварыш у фрэнчы.
          ...Ахутвае змора...
— Далёка нам ехаць у горад яшчэ?
— Раніцай заўтра, скора.

— Таварыш, скажэце,
          ...Пранёсься сьвісток...
— Мо чулі дзе?
          ...Жмурацца вочы...
— Мо чулі часамі Рыгора Клумок?
— А хто ён?...—Ён лётчык.

— Не, ня чуваў.
          ...У вагоне храп...

Разгаварыліся.
...Сьвечкі гасілі...
— Весткі аб ім можа выдаць штаб,
Дзе і ў якой эскадрыльлі.

Ночка імкненьняў.
...Марудны цягнік...
Ружовы пакет.
...Серца ня енчыць...
Штаб. Пакет. Рыгор бальшавік.
Поруч таварыш у фрэнчы.

3

І нэрвы аслаблі, і зморааны мускул.
Любіў ён гаранку, цяпер беларуску.

Кідаў ён гаранку, кідаў ён краіну,
Прынесла гаранка кінжал на ўспамінак.

І помніць, як ціха, дарыўшы, шаптала:
Кінжал абароніць і ўспомніць пра скалы.

О, так! Успаміны ніхто не заслоніць!
Адно, ці ў змаганьні кінжал абароніць?...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чупрыну ўскудлачыўшы, у марах крылатых,
Піша ён ліст на радзіму, да брата:
— Мой родны брат, мой брат, Заліс,
Выбач ты мне за гэты ліст.

Ты апалітык быў. А можа стаў другім,
Адчуўшы арабочаны ражым?
А я аддаў сябе
Заўзятай барацьбе
За справу сьмерці
Ўзбунтаванай чэрні.

Я ўпэўнены—жыцьцё
Назад гісторыю паверне.
І праясьніцца неба.
І сонца гляне зноў
На сьвет,
Без бальшавікоў
Ганебных.

Мой родны брат, мой брат, Заліс,
Выбач ты мне за гэты ліст.
Такі настрой. Кіпіць запал,
Як і калісьці сярод скал.
Зьдзіўлю цябе: я стаў кахаць.
Яна дзівосная.
Ня мог сябе ўтрымаць.
І я цяпер,—як той юнак...
Сапраўды—так,—
Як той юнак.
Увязваць барацьбу
З каханьнем зорнакрылым,
Проблема—як раса,
Сівая вечнасьць!
Выбач ты мне. Я чую сам,
Як б'ецца ў жылах

Супярэчнасьць...
А хочацца ў каханьні стаць другім,
Бо гэты гоман, гул абрыдзелі зусім.
Пакіну ўсё!
(Ты зьдзівішся?)
Выбач...
Па шчырасьці: змарыла барацьба.

Зьдзейсьню плян астатні раз
І з ёй прыеду на Каўказ.
Вітай ўсіх. Пішы.
Твой брат Кашыл
*Post scriptum*:
Ня зблытай адрас і фаміліі,
Я тут—
Аўзор Дарубашвілі.

4

Вось і станцыя. Ледзь зорак румяны
Над горадам сонным прыветліва глянуў.
Бязьлюдна... Часамі праедзе падвода,
А на вокзале жыцьцё поўным ходам.
Кожны сьпяшаецца, кожнаму некалі—
Адны выяжджаюць,
Другія прыехалі.

У натоўпе людзкім, з невялічкім вузлом,
З пакетам пад кофтай і думкай-агнём
Марыля прыехала стомлена ў горад
Знайсьці-адшукаць дарагога Рыгора,

Аўзору падзяку паслаць пісулькай
За хлеб і за соль і за цёплы прытулак.

Рана яшчэ, сьпіць гоман людзкі.
На крамах, на складах ржавеюць замкі.
Сонейка глянула скоса з-за стрэхаў,
З праменьнямі шэпчацца: —„Нехта прыехаў“...
І раптам праменьні ёй глянулі ў твар,
Хапілі, цалуюць, вядуць на бульвар.

Ўсадзілі і ліпнуць, як мухі на мёд,
Ну што-ж і праменьні шукаюць пяшчот!

Марыля ўсьміхнулася, лёгка ўздыхнула,
Пад лёскат праменьняў спакойна заснула.
Над ёй распусьціўся ўскудлачаны клён,
З праменьнямі разам
Зьвіў казачны сон:

На ўзвышшы гары векавечнай
Стаіць мураваны палац.
З падзямельля яго кожным вечарам
Вырываецца стогн і плач.

Драпежны жыве ваявода,
Згінае народ да зямлі.
За гонар яго, за свабоду,
Вазёры крыві пралілі.

Ссылалі ў Сібір. Прападалі
Беларускай зямлі мужыкі.

Іх сьлед на прадвесьні змывалі
Вірлівыя хвалі ракі.

За гэтай ракой, за крывавай,
Лясы акрыляюць купцоў.
Ня так што,—ўчыняюць расправу,
Шляхі афарбоўвае кроў...

Здаволены быў ваявода,
І сойм павятовы зьлічаў,
На колькі—за косьці народу
Іх скарб узбагачаны стаў.

Змагаўся за права па свойму
Майстра Бутрым залатар.
За бедных стаяў перад соймам,—
За бедных—упарты змагар.

Любіўся з сялянкай Агатай,
Народ іх каханьню спрыяў.
І што-ж? Не захоча багаты,
І сіла твая—не твая.

Сказаў ваявода аднойчы
Агату прывесьці ў палац.
Жадаў асалоды дзявочай,
Жадаў маладосьцю палаць.

Успыхнуў Бутрым, як дазнаўся:
— О, крыўды такой не сьцярплю!
Агата сьлязьмі разьлілася,
Сьлязьмі арасіла зямлю.

Загад быў:—„Бутрыма стрыножыць,
Загнаць у падземны падвал.
Агата на перыстым ложы
Аддасьць свой дзявочы запал“.

Слугі зьвязалі Бутрыма,
Агатавых сьлёз ня стрымаць.
Вязуць іх... А вецер нястрымны...
Сьвету з-за хмар ня відаць.

Бура найшла. Навальніца.
Вецер. Маланка. Гром.

Слугі, упаўшы ніцам,
Застыглі ў віхры курганом.

Стаяць на кургане дзьве сосны:
То з любай Агатай Бутрым.
Горда стаяць перад сонцам,
Авітыя лёсам адным.

Сасонкі Марылі здаліся,
Што стройна вартуюць прастор,
Адна—дык яна—Марыся,
Другая—ўлюбёны Рыгор.

Плылі успаміны каханьня
З сонечнай радасьцю ў шыр,
На крыльлях гарачых сьвітаньня
Рваліся з кратаў душы.

Сонца шматструньнем праз вецьце
Налётамі выбіла шлях.

І раптам—вецер, вецер...
Колецца глеба...
Страх...

Вочы прасьцерла,
Зірнула на сьвет.
(Пад кофтай ружовы пацее пакет.)
Трэба зьбірацца.
З чаго вось пачаць?
Аднесьці пакет,
Ці Рыгора шукаць?

Таварыш у фрэнчы бульварам праходзе.
(Сядзеў недалёка...) Марылька, як злодзей,
Падходзіць, пытае: —Дзе гэты штаб?
Адрас згубіла. Даўно я пашла-б...

У сэрцы Марыльчыным б'юць малаткі!...
Наўкола віхурыцца гул гарадзкі.
На кожным рагу
У пякарні,
Ларкі
Гараджане
Бягуць
За харчамі
Ў чаргу.
Другія рыхтуюцца,
Хаты ўбіраюць:
Заўтра—

На вуліцу!
Першае Мая!

5

Патруль прапусьціў... Калідор, як тунэль.
На бакох толькі дзьверы й таблічкі.
То радасьць Марылі ўзьняла карусэль,
То страх атуляе аблічча.

Пакой невялічкі. Ля сьцен сталы.
Ля лёзунгаў—Энгельс і Ленін.
У вакне шарахцяць драцяныя вузлы,
У вузлох мітусяцца праменьні.

Чырвонаармейца прасіла Марыля...
(Дзявочая рыска—заплакалі вочы)
— Зваць Рыгорам, Клумок па фаміліі,
Чула, што ён самалётчык.

Словы дрыжэлі. У вачох цямнее.
Перапытаўся чырвонаармеец.
Глянуў дасьціпна
На постаць дзяўчыны
І стэрыотыпна:
— „Сядайце, хвіліну".
Адрас Рыгора чырвонаармеец
Шукае, і лісьці паперы шасьцяць.
Дзявочае сэрца ў трывозе слабее—
Рашаецца права жыцьця.

6

— „Берагла-захоўвала
У цярплівасьці цяжкой,
Яму, Рыгору любаму,
Дзявочы гонар свой.

А што калі няма яго,
Няведама дзе ён?
Як страшна сьцяць жыцьцё сваё
Рукамі лютых дзён.

Аўзор? Ой, не, ніколі!..
Але пакет аддам.
Ён шмат зрабіў мне добрага,
Калі зула бяда"...

І думкі неспакойныя
Зьмяняюцца, плывуць.
Нахмурыліся бровы,
Схіліла галаву.

7

— Знайшоў... Калі ласка, трымайце.
(Адрас далі ёй...)—Знайшла!
Як добра! Паеду... Вітайце!
Знайшла я пілота-арла!

Вось яна зор-зараніца...
Як добра! Мы будзем у двох!
І постаць Рыгора мігціцца
Ў яе сьветлазорых вачох.

Таварыша ў фрэнчы агніста
Гатова абняць, цалаваць.
І ў радасьці зьзяе, як ліст той,
У сонечны дзень харастве...

8

Успомніла, рванулася
Шукаць той дом, той двор,
Аддаць пакет і крыкнуць:
— Бывай здароў, Аўзор...

. . . . . . . . . . . . . . .

— Дзе яна?... Шко-ода...
— Ля брамы.

Паклічце... Вярнулі.
        Яна
        Чуе:
„Забыліся пра тэлеграму,
Клумок сёньня ў горадзе, ў нас.
Рабочых з днём Першага Мая,
Вялікі ўрачысты парад,
Магутнасьцю сіл прывітае
Авіацыйны атрад.
Прышла тэлеграма з атраду,
Чытайце чацьверты радок
У сьпісе каманднага складу—
Па беламу чорным—
                Кл-лу-мок“.

Упіўся ў сваю самакрутку,
Схіліў галаву над сталом,
І даў ёй гасьцінна і хутка
Пропуск на аэродром.

9

Сьпяшаецца Марылька,
Сьпяшаецца грунём,
Хутчэй, хутчэй прыбегчы
На той аэродром,—

Дзе стрэніцца-спаткаецца
З Рыгорам дарагім,
Дзе шчодрымі пяшчотамі
Раскажа аб усім.

Таварыш (той, што ў фрэнчы)
За ёй пакорна ўсьлед.
Яна бяжыць-сьпяшаецца,
Пад кофтаю пакет.

10

Рашучы дзень. Ажыцьцяўленьне пляну.
На сук тугі настрой Аўзора зьвіс.

Гуляюць нэрвы. Губы пакусаны.
Але ў крыві бруіўся скрытны рыск.
— Прайграю—што-ж, згнію у цёмным лесе.
— Перамагу—(Чакай!) Зноў мне мая зямля.
І страх тугі адвагаю закрэсьліў,—
Вера ў сілу звонкага рубля.

Шпіёны-найміты (як чэрві грудзі смокчуць)
З падходцам, разумеецца, пачнуць
Лісічым шопатам брахаць на лад рабочы;
На рэволюцыю агіду плётак льлюць.

Сям'я бяз выродкаў, за звычай, ня бывае;
Знайшліся, што за долярам пашлі.
І, сёньня, напярэдні Першамая,
Як брудна здрадзілі! Эх, танныя рублі!

Аўзор здаволены, што тут няма Марылі.
(Купіў ёй залаты, з нарэзам бранзалет)
Джон Кейтан прыляцеў.
(Апушчаныя крыльлі...)
— Ці можна быць спакойным за пакет?

У выпадку што. Крый божа. Каб ня ўблытаць
Толькі Foreign offise? [1]) O, Handsoff!..[2])
— Шаноўны мой, усе канцы зарыты,
Далонь скрывавіць той, хто схопіць за лязо.
Дзе ваша ўпэўненасьць? Яна вас абароніць
У самы цяжкі час, калі дадзім мы кліч
І выступім!
— О, так, вы правы Time is money [3])
Я ня зьбіраюся гасіць узьняты зьніч.

— Паверце мне, што скарбам капітала
Мы можам сьвет купіць!
— Дзівосны вы, Аўзор.
— Нязрушны мы, як і нязрушны скалы,
Якім гульнёй здаецца шторм...

---

[1]) Кіраўніцтва замежных спраў.

[2]) Рукі прэч.

[3]) Час—гэта грошы.

Разьбіўка сіл прайшла ў іх перад бурай:
Каму завод, каму ўзарваць масты.
Аўзор (знэрвованы) чытае корэктуру—
Контррэволюцыйныя лісты.

11

За горадам аэродром.
На аэродроме строй самалётаў.
Марыля прышла, разглядае кругом,—
Пілоты праходзяць, ня відна яго,
Любага сэрцу пілота.

Яго ня відаць. Мо' спытацца аб ім?
Самой-жа схавацца ў кустох там,
Зьнянацку спужаць (бы ў гушчары лясным),
Стуліцца яму на жыцьцё, на зусім,
Стуліцца на грудзі пілота.

Найшло дзетвары, адганяюць за плот,
А хто іх разгоніць за плотам?
Як і ў Марылькі, жаданьне прышло,
Дый толькі ў дзяцей аглядзець самалёт,
Марылі—сутрэцца з пілотам.

На аэродроме,—як шоўк, трава.
За аэродромам—балота...
— Ці праўда? Няўжо?... І ў трывозе разваг
Убачыла... Ён! Баіцца пазваць
Любага сэрцу пілота...

12

...За гарой курганаю
Вырасла каліна.
Любага-каханага
Ўбачыла дзяўчына...

Высокі і стройны,
Стройны і горды.
Упэўнена-цьвёрда ступае нага.
Красуе на куртцы
Чырвоны ордэн,
З правага боку—
Наган.

...Ля каліны сьцелецца
Сонцам пуцявіна.
Клікнуць не асьмеліцца
Любага дзяўчына...

— Зусім стаў інакшым!
Нашто разлучылі?—
Пазнаць нават цяжка, зьмяніўся зусім...
страх за каханьне прачнуўся ў Марылі
— Змаўчаць? Абыйсьці?...
...Павінна быць з ім!
— Рыгор!.. Ры-гор-ка!
(Абодва застыглі...)
— Ці праўда?...
— Адкуль?
Гэта ты?
— Марыля!

Адзін да другога падбеглі,
І слоў
Ня стала, няма...
А пеніцца кроў.
Успыхнулі вочы,
Так міла і проста
Абняў лётчык
Дзявочую
Постаць.
І быць не магло,
Не магло быць інačaй:
Злучыў пацалунак
Гарачы,
Гарачы...

13

Сонца залівала
Рабочыя кварталы,
Лёзунгі, плякаты
З сьцягамі на хатах.
Народ
Бяжыць, сьпяшаецца,
У турботах завіхаецца.
Слупамі пыл віхурыцца.
Рыхтуецца і вуліца.
У сьвяточны выгляд скора
Убярэцца гулкі горад,
Сустрэне змрок маёвы
Электрай каляровай...

Доўга хадзілі...
Прыемна было.
Шчасьце ў вачох расьцвітала.
     — Усё расказала,
     І ўсё прайшло,
     І лёгка на сэрцы стала.

Здаецца цяпер, што балючы такі
Той час, пякельнай разлукі,
Яго ня было... І чакалі бацькі...
(Не дасказала—ўнука!)

Скромна заплюшчыўшы вочы свае
(Зноў-жа--дзявочая рыска)
У лёскаце мар перад ёй паўстае
І ён, і яна і калыска...

—Рыгорка, мой любы, і ты раскажы,
Раскажы пра сябе што-небудзь...
У Рыгора ў вачох мітульга імжыць:
— Сказаць? А можа ня трэба?

— „Сябе зьберагла.
Зьберагла для цябе“,—
Магла, як іншыя сотні,
За хлеб і за цукар, а то й за рубель
Глуміцца ў руках падваротні.

Сьціснула сэрца трывогай такой,
Быў навальнічны вечар...
І думкі ў Рыгора ўзнялі неспакой
Гэтай раптоўнай сустрэчай.

Ні слова Рыгор не сказаў пра жыцьцё,
Сьціснула горла адразу.
Страшных малюнкаў палотны прасьцёр,—
Пра жудасьць вайны ён расказваў.

Адна старана: адважны герой
За ўладу працоўных у краі.
І болей ні слова...
Ў вачох неспакой...
А дзе-ж старана другая?

Доўга хадзілі... У горадзе гоман,
Сьвяточны настрой, узьнятасьць.
— Дзе ты спынілася?
— Дзе? Вядома,
Поруч з табой мая хата...

— Трэба мне скокнуць на аэродром...
Зайдзі ты ў гасьцініцу „Францыя“,
А я забягу за табой вечарком
І пойдзем
На дэманстрацыю.
— Добра, ідзі... І хвілінаю зноў
Колькі прабегла ілюзій.
І погляд вачэй іх
Злучыўся ў адно,
Ў адзін моцна-зьвязаны вузел...

Марыля рашыла (тут блізка якраз)
Занесьці пакет, разьвязацца...
— Затым назусім,

На жыцьцё, на ўвесь час
З любым Рыгорам застацца...

Дастала пакет.
Вясёлай глядзіць,
Як дробна алоўкам напісана:

*Садовая вуліца, дваццаць адзін,*
*Марку Пятровічу Рысіну.*

14

Дваццаць адзін.
Невялікі будынак.
Перад будынкам—аўто-машына.
Падбегла.
Стукнула.
Скрыпнулі дзьверы.

У пакоях, як пер'я,
Рознай паперы.
Паадчынены
Шуфляды,
Столікі,
Людзі ўзброены.
Што тут такое?
Простая рэч:
Вобыск—і толькі—
Ў белагвардзейскіх пакоях...
— Хто вы?—
Спытаўся чэкіст незнаёмы.

— Тут
Дваццаць першы нумар дома?
Ці можа памылка?
Ў мяне пасылка...

Ружовы пакет
Узяла рука
Прадстаўніка
ЧК.

Пакет абарваў
І толькі глянуў,
Сказаў:
— Вы арыштаваны!

— Як, гэта арышт?
Тут, пэўна, няўлонка?
Што вы, таварыш?
— Маўчаць, шпіёнка!

Марыля заплакала, рукі ламае,
Просіцца, ў роспачы кленчыць.
Чэкісты паперу ў портфэлі складаюць.
Зайшоў і таварыш у фрэнчы—
І праз хвіліну
Ўсадзілі ў машыну
Усіх адразу
І разам—
Марылю.
Час невялікі
Прышлося чакаць:

— Шофэр —
За старно!
Шпіёны—
Ў ЧК!

15

Вільгаць і змрочнасьць. У сэрцы шквал,—
Марыля ў ЧК ў сутарэньні.
За вокнамі весела, там карнавал,—
Снапы каляровых праменьняў.

Марыля бяз сіл... А каго пазаве?
Хто вызваліць? Хто? Чарадою—
Думкі, як церні:—„Ну, што-ж чалавек?
Лёс яго—стаць зямлёю“...

Знаёмства заводзіць прайдоха адна—
Шпіёнка, шыпіць з абурэньнем:
— Сказал і Толстой ведь когда-то нам:
„Жизнь—это сон, смерть—пробуждение“.

Над горадам прозалаць вольных зор.
Марылю туга спавівала.
Ў гасьцініцу бег, сьпяшаўся Рыгор.
На вуліцы гул карнавала.

Была вайна... Ацэнім яе
Цаною крыві чалавека
Была вайна—і зноў паўстае
Страшнейшай вайны небясьпека.
Гэй,
Зьзяй
Бой-
Зьніч!
Сей,
Край,
Свой
Кліч!
Дай
Знак!
Хай
Мкне—
Вай-
На—
Вай-
Не!

І ў прыбоях навальнічных
Сьмерць вайне прынёс Кастрычнік!

2

Была вайна.
Хай больш яе ня стане!
Вайна была, і на яе скрываўленых руінах
Радзіла рэволюцыю паўстаньне,
А рэволюцыя—і нашую краіну.

Праз голад, нязьлічоны лік ахвяраў,
Што нам прыносіла агнём вайна-пагібель,
Здабылі волю мы здратованым абшарам.
На заваёваным
Краіна
Перагібе!

Наш выбух, росквіт наш у радасьць афарбован,
Як здань, сусьветам бродзіць ленінская слава.
Расьці, мой край! Сваім ты беларускім словам
Вітай жыцьцё! Мячом здабыта права.

Хай сёньня стомлены... Наступны дзень ірдзее,
Як золак, вабіць нас вясёлкавым настроем
Краіна, чуеш гул?
Завеяй
Нас заве ён:
— Нага ў нагу!
— На бой адкажам боем!

3

Нязнаны росквіт, рост магутны наш,
Зьнішчыць-затрымаць імкнуўся шпіёнаж.
Але падрэзалі, як трэба і чакаць,
Ня нас яны,
А іх ЧК.

4

Праз фортку ў пакой, як-бы праз рукаў,
Пралазіў аветраны вечар.

Пралез і ў пакой, дзе заданьне ЧК
Выконваў настойліва сьледчы
Вечар клубіўся, як дым папярос,
Над зьмятай чупрынай шпіёна...

Сьледчы праводзіў чарговы дапрос
Настаўніка Кэйтана Джона:
— Вашай рукою напісаны ліст?
— Як вам сказаць, дыктавалі...
— З чыёй дапамогаю, дзе і калі
Гэтыя весткі зьбіралі?
Тут інформацыя трох галін:
Прамысловасьць,
        Насельніцтва,
                Войска.
Сабраць матар'ял не маглі вы адзін,
Якім ні былі-бы вы стойкім.
Хто вам пра войска даваў дыяграмы?
— ?
— Ганецкі? Прыпомнілі?
— Та-ак...
— Мо' і Пятроўскі? а?
— Таксама...
— А яшчэ?
— Жмырак.
— Вы пасылалі з лістом у пакеце

На доляры банкаўскі чэк?
— Але-ж у мяне, бачце, жонка і дзеці,
Зьмілуйцеся, я-ж чалавек...
...І востры страх, мітульгі вастрэй,
Забінтоўвае роспачы раны.
Шчацініцца шчотка чарнявых брывей,
Сьсінелыя вусны скусаны...
Вядуць у падвал...
— Няўжо? Няўжо?
Згнію тут? На нарах сканаю?
А дзеці?... Як страшна...
    І Кэйтан Джон
Сьлязьмі прашаптаў:
— Расстраляюць...

5

А з краю
Вуліцы
Шугае
Гул узьняты.
Газэтчыкі заўзята:
— Экстраны выпуск! Навіна!
Антанта!
    Ультыматум!
        Вайна!..
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
— Таварышы!
Зноў небясьпека...
        ...Была вайна,
Ацэнім яе
Цаною крыві чалавека...

6

Горад.
Пры горадзе—прыгарад.
Вуліца і
З канца—
Будынак, як быццам прыгарак—
Кватэра шаўца.
Дзьверы, як сіта, расчыніш—
У цэнтры, як пень, варштат.
Над ім, як дрот, павучыньне
Паралізуе хрыста.
Двухпавярховы ложак.
Чатыры душы сям'і.
Дратваю стол стрыножан,
Ледзь стаіць.
Крэслаў няма—скрыня,
А ў скрыні--бежанскі скарб.

На рынку з паўдня гаспадыня,
З ёй і гаспадар.

„Клопатаў ні званьня
Ня знае іх дачка,
Жыве на утрыманьні
Стралковага палка“.

... „Толькі каб ахвота,
Каша і капуста—
Хоць на нарах, што-там!
Хоць пад плотам, глупства!

Туз бубновы?—Сьмела
Разані—
На банку...
Э-эх... Шарабан мой,
Амэрыкан'ыка"...

Брат яе—на славу!
Паважаюць як:
— Выйдзе ў людзі Павал,
Ходзіць на рабфак.
Малады, і здатны.
Выйдзе ў людзі, бравы...

Ў хаце... (эт' і хата)!
Задуменны Павал —
Бровы ў гору,
Востры зрок.
Дзяўчына поруч.
Змрок...

7

І праз хвіліну:
Важная справа...
Наблытана...
Як тут быць?
—Дапамажы мне, Павал!
— Ты—дачка барацьбы!
Буры цябе нарадзілі
Ў схватках сваіх агнявых.
Помні, будзь сьмелай Марыля,

Не апушчай галавы.
І целам і думкай змарнела,
Важыла йсьці на бульвар,
Але хто, трэба быць ашалелым,
На гэткі паквапіцца твар.

— Зладзім,—устрымліваў Павал,—
Выйдзе ня гэтак, дык так.
Дай вось напішам заяву
З просьбай прыняць на рабфак.
Толькі ня трэба больш мокнуць,
Сьлёз непатрэбна цяпер...
Змоўклі.
Кот з падаконьніка скокнуў
На ложак (другі паверх).

Марыля пад сэрцам хавала
Пярсьцёнкі распаленых слоў.
Пра крыўду нядаўнай навалы,
Пра крыўду й сьляпую любоў.

Рыгор! Нібы вецер маёвы,
Жартуючы, ветла абвіў
Стан дзявочы
Шасьценьнем шаўковым
Радасьці, мараў і дзіў.
І зьнік, як бяда спавівала,
Як толькі пазнала падвал.
Рыгор!
Ім жыла...
Адшукала...

Ня стала...
А ў сэрцы шквал
Гатоў сваёй буйнаю сілай
Дзявочыя грудзі ўзарваць.
Зямля хай застогне магілай,
Ці расой хай заплача трава...

Прышла гаспадыня:—Дзе ён?
Бацька ня быў?..
— П'е.
Да часу жанчына сівее,
Праклінаючы дні свае.
Ведаць ёй толькі клапоты.
З рынку прышла і зноў —
Змушана стаць на работу
Ля варстату і ля гаршкоў.

Гора матчына Паўла змарыла.
Але як памагчы? Але чым?
Вышаў на двор.
Марыля
Выбегла ўсьлед за ім.
А вецер цёплы
Песень повен.

Ветры—вёслы,
Хмаркі—човен.

Дзіўны вечар,
Вечар жніўны.
Прыселі на лаву
Пад клёнавым вязам

Марыля і Павал
Разам.
Сядзелі.
Маўчалі.
Пяялі-шумелі,
Як струны, бяз слоў,
Вішнёвыя каруселі
Садоў.

8

. . . .   . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось так і кажу: прымай ці бывай.
Ці нашым, ці вашым!
Раз і адказ.

— Ты добры, прыветны і дзіўны бязьмеры,
„Прымай ці бывай“... Нецярплівы.
Няўжо гэтак проста: адчыніш дзьверы
І кінешся ў горад гурчлівы
Адразу за працу, да поту, аддана,
Што сіл толькі ў жылах дзявочых,
І гэтым залечыш балючыя раны
У справе сялян і рабочых?
Ты агітатар нядрэнны, ніколі,
Аднак-жа і дзіўны бяз меры...

— Ты ведаеш добра, што я ў комсамоле,
Таму, здэцца, можаш мне верыць.

— Я верую ў шчырасьць тваіх пажаданьняў.
Твая мне так дорага чуласьць.

Куды мне ісьці і якімі шляхамі,
Каб думкі згубіць аб мінулым?

І ў сэрцы абуджаны корчыцца крык,
Вылазіць з грудзей, як з-за хмар маладзік...

— ...І сёньня і ўчора, і гэтак штодзенна.
Уздымецца сонца і зойдзе.
Здавалася, так аднастайна, нязьменна
Жыцьцё на калдобінах бродзіць.
Здавалася так, і да сьлёз аднастайна,
Якбыццам гадзіньніка стрэлка.
Ня ведала, колькі за дзень скарыстана
Энэргіі, сіл чалавека...
Дзень загарыцца, праходзіць марудна.
Стамзлюцца вочы і рукі.
А пройдзе—ня верыш, нагнаць яго трудна!
Шкадуючы скажаш:—як хутка!

— Сама ты марудзіш,
З такім вось настроем
Назад толькі рушыцца, праўда.
Назад, а ня ўперад. І будзеш слугою
Ня поступу,
А заняпаду.
— Адразу ня вырвеш з грудзей сухазельля,
Які-ж ты юнак яшчэ, Павал...

А ў небе так весела зоры гарэлі,
На дзіва гарэлі яскрава.

— Помніш, пакінулі родныя гоні,
Разам ад немца ўцякалі.

І сёньня здаецца, мяне нехта гоніць,
Як вецер староньнюю хвалю.
Радасьць на момант, як-бы бліскавіца,
На струнах праменных зайграе...
Ці знала, што ў вас тут
Змагу прытуліцца?
Што вас тут, як праўду, спаткаю?
Знаёмых нікога... А вецер гоніць
Бязьлітасна з гораду ў горад.
Помніш мястэчка?
— Як на далоні.
— Можа і помніш Рыгора?
— Якога?
— Клумок, местачковы сьлесар.
— Нешта ня помню, забыўся.

Зноў успаміны сарвалі завесу,
Ў цярновы вянок завіліся.
Марылі хацелася ўсю таямніцу
Вось тут расказаць, пачынала
І змоўкла:
— Ня трэба, бо можа адбіцца
На нашых адносінах з Паўлам.

9

А сэрца ў палоне,
Ў абоймах тугі.
Балючыя сёньня
Ўспаміны кругі.

Яны навучылі:
— І слову ня вер,
Інэкшай Марыляй
Я стала цяпер
Вось толькі турбуе
Пытаньне адно,—
Куды пакіруе
Жыцьця старно?
У сьвет—
Дзьверы насьцеж!
Дарогі-ж вядуць—
Ці ў радасьць і шчасьце,
Ці ў гора й бяду...
. . . . . . . . . . . . . .
Умей зыбіраць; хвалім мы
З веку ў век,
Калі перад сонца-хвалямі
Стаў чалавек.

10

Выроўніваюцца дні.
Грудзі лягчэй уздыхаюць.
Сілай здабытых крыніц
Здабытая слава крыляе.

І рушыцца час весялей
З песьняю творчай работы.
Цяпер і Марылі лягчэй,—
Працу знайшла ў пераплётнай.

Сшываючы аркушы кніг,
Іголкаю пальцы калола,

Як толькі наступныя дні
У думках засьвецяць як золак.

— Папасьці хаця-б на рабфак,
Той дзень я лічыла-бы сьвятам,
Ды ўсё не забыцца ніяк;
Мінулага моцныя краты.

Што-тыдзень наведвай ЧК,
І ў сэрцы з трывогаю мутнай,
Заявіш:—прышла. І рука
Адзначыць у сьпісе прысутнасьць.

Калі-ж гэта пропадам згіне,
Ня будзе дакорам труціць.
У новым, інакшым жыцьці
Падзеяў былых павуціцьне?..

Такіх вось пытаньняў ня мала
Ўзьнімала Марыля ня раз.
І часта шукала адказ
У кнігах, што пераплятала.

11

Яны ў дваіх...
Пакой,
Як скрыня.
Дым вісіць дугою.
Тут гандлюе гаспадыня
Чыстаю ханжою.
А калі яшчэ прыкінеш

Лішака на „нушку“,
Маладая гаспадыня
Дасьць і саматужкі...
Яны ў дваіх...
— Як я сумленны,
Пашукай, ня знойдзеш.
— А па-твойму—я ўжо дрэнны,
Валацуга, злодзей?
Што галоту абдзіраю?
П‘ю не за свае я?
— Братка, Клемусь (налівае),
Мазаны алеем...
Рукі—спрыт і не фальшыва
Справяць тое-сёе.

— Эт, разводзіш...
— Будзем жывы!
— За тваё здароўе!

Клемусь—хлюст.
Пільнуй кішені!
Вокам як прыкіне,
Сплюне раз, штурхне, адсьценіць—
І... бывай гадзіньнік.
А другі...
Вось так жывецца
Ад ханжы, махоркі,
Абадраны, хоць шавец сам,
На нагах апоркі...
І ня раз чураўся Павал
Гэтакага бацькі.

Што-ж чурацца?
То расправа
Над жыцьцём жабрацкім...
Гаспадыня паглядае
То ў вакно, то ў дзьверы—
Страшна неяк, прадчувае
Міліцыянэра.

— Братка, Клемусь, дык кажу я,
Будзе лепей разам.
Дай цябе я пацалую,
Рыжая зараза.
На сябе зірні, бяздомак,
Загрызе дасада...
Небагатая, то праўда.
З бежанцаў, вядома.
— Будзе хата, будзе ў хаце,—
З добрай галавою,
Дык падружыць і багацьце...
— От і я пра тое:
Будзе жонка—будзе лава.
Што ад таго скарба?
А што баба,—то, яй-права,
Залатая баба.

Возьмеж пару саматужкі,
Агурка якога...
Вып'ем! Дам табе падушку
І кладзіся з богам.
— Як-жа, згодзен, Клемусь, братка,
— Едзем заўтра ў сваты!

— О-то- добра...
Не дзяўчына—
Проста мёд пчаліны.
Ну, і ты хлапец руплівы,
З прытнай галавою.
Дык-жа вып'ем...
— Будзем жывы!
За тваё здароўе!

А ханжа атрутнай сілай
Ў дрызг шаўца скруціла—
І гатова,
Больш ні слова,
Здаўся канчаткова.
— Сын твой,
От-дзе ўжо зануда,
Лезе ў комісары.
Каб падмазацца,—
Усюды
Барахоліць, шарыць.
У міліцыю данёс там,
Што Ігнат Залтушкін
Што-ж такое? Дужа проста
Гоніць саматужку.
Так Залтушкіна і спляжыў
Без такой прычыны.
От-дзе зубы ўжо пагладжу
Сукінаму сыну...
Што, заснуў?
А гаспадыня:

— Клемусь, так пакінеш?
Ці-ж ня сорам перад сватам?
Завядзі да хаты!
А то зможа і „засынаць“,
П‘яны-ж нагарэзіць...
. . . . . . . . . . . . . . . . .
— Што ты скажаш? От задрыпа!
Ў комісары лезе!

12

Яшчэ і ня позна, а цёмна зусім.
Холадна. Вецер галосіць.
На небасхіле па ўсходах, як дым,
У сьвет выбіваецца восень...

У хаце нікога...
Марыля адна.
Дагарае астатняя газа.
— Няхай-бы прышоў..
Так хацела яна
Ў гэты вечар быць з Паўлам разам.

Яшчэ і ня позна, а цёмна... Імгла.
Пад сіплыя ўсхліпы газьніцы,
Кнігу ў шуфлядзе Марыля знайшла,—
Любіла чытаць, захапіцца.

Заенчылі дзьверы.
Павал прышоў.
Газьніца.
Змрок.
Марыля.

Адразу патухла сузор'е слоў,
Бы ветрамі іх астудзілі.
— Марыля?
— Паўлік?
— Чытаеш?
— Але!
Зноў маўклівасьць хвіліну.
Газьніца міргае, сіпіць на стале:
На сьценах цені стынуць.

— Марыля, ты ведаеш, бацька казаў,
Зьбіраюцца ў сваты прыехаць;
Відаць, валацугу табе падабраў?..
— І што ж? (адказала для сьмеху).
Ці-ж мне ўжо ня час? О, які-ж ты дзівак.
— Разумная ты ўжо занадта,
А ўсё-ж не зашкодзіць пайсьці на рабфак
І голаву трохі залатаць...
— Ну-вну, ты ня злуйся.
А бацьку скажы,
Што і бяз помачы ўладзім...

Які ты гарачы.
Ня трэба тужыць.
Паўлавы бровы гладзіць.

— Марылька!..
Так моцна стуліў да грудзей.
— Як добра!..
— Вось так... шаптала.
Адзін пацалунак, другі агнявей.
Узьнятая кроў штурмавала.

Распаліся косы...
Садраў ён каўнер.
А сэрца,
Бы зложана з воску,
Што далей, то болей
Абодвых цяпер
Захопліваў перысты лоскат.

— Ідуць!
... Пачакай!
Су-пакой-ся!
Ча-кай..!
Ня трэба!
Павал!..
Ня мож-на!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прынесла старая амаль на руках
Бацьку п'янога і, як мерцьвяка,
Кінула пластам на ложак.

13

Жыцьцё ідзе праз петлі-перашкоды,
Жыцьцё ідзе, зьнішчаючы закон
І формы, створаныя спракон
Вякоў прыродай.

Жыцьцё ідзе нястрымана і проста.
Жыцьцё ідзе, бы ў штормах навальніц.
Як песьняй, перамогай славіць дні—
Сталёвы поступ.

А на шляху—і сьмерць і нараджэньне.
А на шляху—няўстойлівасьць і гарт.
Як ліст пажоўклы, кволага змагар
Адкіне на ўгнаеньне.

А на шляху і росквіт і змаганьне.
А на шляху—ў змаганьні рост.
Праз рубікон пракладываем мост
Пад знакам панаваньня.

А хто адстаў
І сэрца рве ад жалю,
(Раўчак з-пад каменя
Праточыць шлях сабе!)
Але імкнецца жыць, аддацца барацьбе—
Ён хутка песьнямі палоніць будзе далі.

Адкіньце заломы,
Развагі, кругі...
Ідзем бураломам
За новым жыцьцём мы
На новыя берагі!

Хныкаць, і штопаць, і латаць жыцьцё—
Маруднае самазабойства.
Ветрамі дзьмі, распаляй касьцёр
Думак, імкненьняў, геройства!

Так і Марыля, што ночка даўгая,
Працёртыя штопала дні.
З надзеяй і верай акрэпнуць—гадае
Сваю маладосьць бараніць.

— Руку працягнуў мне сяброўскі, зычліва,
Паставіў на шлях змагара.
Была-б прастытуткай, і гэта ня дзіва,
Была-б, як твая сястра.
А шкода дзяўчыны, дзяўчыну саслалі.
А мо' гэтак лепш будзе ёй?
Мо' ў сэрцы зьмяніўшыся, кроў, як хваля,
Ў творчы зьліецца прыбой?

Гарэлі-б няхай і пачуцьці і сіла
Ў народжаных іскрах падзей.
Жыцьцё па нязьлічаных сьцежках-жылах
Бязьлітасна сьлед свой кладзе.

— А ён дзе? Мо' блізка шугае на крылах
Ў нябачана-зорнай глыбі?
Няўжо гэтак будзе? Дзе-ж дзеліся сілы,
Як думаеш, так і рабіць?
Скончана ўсё. Спаткаліся, разам.
Жартуючы шчасьце кране...
Чаму вось Рыгор пра вайну расказваў,
Пра сьмеласьць сваю на вайне?
Чаму не сказаў—(мо' ён любіць другую?)
Ці любіць мяне, як раней?
Шукала, знайшла. А болей—знайду я?
Ці варта шукаць далей?
Навошта ўспаміны ўчыняюць расправу,
Так востра шчымяць, як імгла.
Зноў у вачох жыцьцёрадасны Павал.
Ня сьпіцца...
А ноч прайшла.

14

Рэжам, клеім і сшываем
І пад прэсам выпрамляем.
Так з старой падранай—мігам
Зробім новенькую кнігу...

— Прападае ўся журботнасьць,
І ня чую болі.
Добра тут у пераплётнай,
Добра як ніколі.

Жарты, песьня, так працую.
Ў гутарках, парою,
Многа повага пачуеш
Пра жыцьцё людзкое.

Заўтра будзе ў нас нарада
Пра сваю вытворчасьць...
Як крыніца, б'ецца радасьць
У вачох дзявочых.

Сёньня,—ўспомніла,— павінна
У ЧК зайсьці я.
... Мне ня больш, як поўгадзіны,
Справы ўсё былыя.

Поўгадзіны аж за-надта,
Там цяпер, бяз слова—
Толькі ўбачыць рэгістратар—
І дамоў, гатова...

Каля клюбу, на вітрыне
Навіна такая:
Хто праходзіць, вокам кіне,
Стане, прачытае.

І яна з зьдзіўленьнем стала
Разьвязаць загадку.
Два разы перачытала
Да канца с пачатку:

*ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ*
*СЁНЬНЯ*

*ЛІТАРАТУРНАЕ ВЫСТУПЛЕНЬНЕ*

*БУДУЦЬ ЧЫТАЦЬ ПОЭМЫ*
*НА РОЗНЫЯ ТЭМЫ*

*ПОЭТЫ*
*КУПАЛА, ЧАРОТ, ГАРТНЫ.*

*УВАХОД БЯСПЛАТНЫ*
*НЕ ПАЗЬНІЦЦА ПРОСІМ*

*ЗБОР У 7*

*ПАЧАТАК У 8*

Ой, пайду абавязкова,
Быць я там павінна,
Каб пачуць жывое слова
Пра сваю краіну.

О, пайду, пайду...
І шчасьцем
Вочы засьвяцілі.

— Сьцежак многа,
Дзьверы насьцеж.
Выбірай, Марыля?..

Прышла ў ЧК, і рэгістратар
Выпрастаўся ў плечах:
Вас у № 25
Выклікае сьледчы.

Абарвалася... Схіліла
Думкі ліхалецьцю.
І журыць, ня кроў у жылах,
А халодны вецер...
. . . .   . . . . . . . . . . . .

— Выклікаў таварыш сьледчы
— Пачакайце, ён заняты...
І зьнячэўкай бровы зьмяты,
Вочы быццам сьвечы —

Зноў сьлязьмі гатовы таяць.
Сьлёзы-ж не памогуць?..
— Што са мною? Я-ж ня тая.
А ў грудзёх трывога...

15

— Хай яны пропадам згінуць, ня дбай,
Мала чаго нагавораць.
Але сьцеражыся, бывае бяда
Зьнянацку акруціць аборай,
Дачка-ж у выгнаньні загіне... І нас
Ня ўбачыць на вечныя векі.

— Дзівак ты, матуля, то добра якраз,
Там зробяць яе чалавекам.
Здароваю стане, акрэпне,—ў руках
Профэсія пэўная будзе.
Дый з памяці выкарчаць выкляты шлях,
Новыя мысьлі абудзяць.

— Гора з бядою вузламі зьвіліся,
Над намі, сыночак, навіслі.
Глядзі, сьцеражыся, паслухай, змаўчы,—
Хай сабе хоць і Залтушкін,
Спаткаешся з імі, як тыя сычы,
А ліха ўсяму—саматужка.

Матчына сэрца уздыблены гнеў
Першае з больлю адчула.
— Прашу, ня кратай іх, хоць дзеля мяне,
Дажыць бы бяз гоману, гулу.
— Кінь, ня турбуйся, падумай сама—
Людзі бяз хлеба, як цені,
А сальнік Залтушкін—яму дарма,
Ня ветрамі шыты кішэні.
Глянеш на бацьку—ня вып'е і жыць
Ня можа, яму ня цікава.
— То праўда, сынок, але точаць нажы,
З багатым ня выйграеш справы,
— Нічога, закон ёсьць. Савецкі ўрад
За гэткія справы бароніць!

Бацька вярнуўся. Прысеў за варстат.
Калоцяцца рукі і скроні.

Спачатку маўчаў, зазіраючы ў столь...
— Чытаеш?
— Залікі рыхтую.
— Рыхтуеш?
Рыхтуй!
Хто шкодзіць?
Ніхто!
А ты чаго ўсюды блазнуеш?
Гоніць?..
Хай гоніць!
Ня ўмеў бы, ня гнаў.
Табе што?
Утрата?
Патрава?

— Чаго прыстаеш, авадзень, сатана,
Стлеў-бы даўно, каб ня Павал!

Ці-ж Паўлу прыемна выслухваць грызьню?
За шапку і вышаў за дзьверы.
Пакорна схіліў верасьнёваму дню
Чало сваіх думак і веры.
Балюча, і крыўдна, і шкода бацькоў,
Жыцьця завірухі скруцілі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У пераплётную ціха пайшоў
Жаданьне спаткацца з Марыляй.

1

Людзкая злосьць! (Няма ёй меж і форм)
Яна гатова варам помсты лютай
Разьбіць сьцяну грудзей і вырвацца ў прастор.
Злачыннай дзейнасьцю, суровасьцю нячутнай.

Людзкая злосьць! Як моцна карані
(Сівая спадчына!) віюць вянкі традыцый.
Рукамі слоў варожых закрані—
І злосьць прарве вузлы, як хмары бліскавіца.
Няўдача—будзіць крыўду,
Крыўда—будзіць злосьць.
А далей—помстай кроў штурмуе страшна...

У горле Клемуся засела помсты косьць,
І выкінуць яе гатоў крывавы кашаль.
Ці крыўда тут, ці злосьць? Дарма,—
Даводзіў Клемусь часта пры сустрэчы
Сваім таварышам, і слухала гурма...
— А гонар ёй, як сук, пара падсекчы.
Дый Павал, сукін сын, усюды нос уткне.
Каторы раз... Як камень на дарозе.
Ой, рук маіх, відаць, ён ня міне...
І кулакамі выказаў пагрозу.

А ўсё так проста:
Клемусь атрымаў
Замест Марылі толькі сьмех раскатам...
І злы ён не адзін, уся яго гурма
Ягонай злосьцю лютаю працята.
А тут, як масла, хціўна падлілі
Ў агонь зласьлівасьці пагудкі,
І хутка плёткамі расьлі:
— Амністыя акцябрская хутка!
— Залтушкіна на волю, ей-жа-ей!
— Казалі, Англія міргнула толькі вокам,—
Перапужаліся і турмы ад людзей
Нашчэнт ачысьцяць...
— Вылезе ім бокам!
— Спужаліся, а як-жа...
— Трэснулі па швам!
— Нацешыліся...
— Так яно часамі...
— Гэй, гэй, братва,
Праз дзень, або праз два,
Залтушкін будзе з намі!
— Дык радасьць гэтую
Хадзем, шпана, зальлем мы.
Гурму адпетую
Міргнуўшы клікнуў Клемусь.
— Лафа цяпер!
Гуляй,
Мільтон ня страшны нам!
Заляжам зноў
У бровары пад кранам.
. . . . . . . . . . . . . . . .

— Ты чуў?..
— Амністыя?,
І выла навіна
Забруджаная плёткамі мяшчанаў.

Іх гурма.
Пакой, як скрыня.
Дым вісіць дугою.
Тут гандлюе гаспадыня
Чыстаю ханжою.
Востра-едкім перагарам
Злосьць ламала ў сэрцы краты.
— Бачыў хто такую шмару?..
Скаргу Клемусь сплюнуў матам.
І ў атрутным гэтым чадзе
Злосьць, як пена, бушавала.

Што-ж, ад п'янага разладзьдзя
Вельмі блізка да скандала.

2

Ходзіць Павал бясприрывычна
Каля крам на тротуары.
Надакучліва скавычуць
Ветрам восеньскія хмары.

Ходзіць Павал, думкі роем,
Зьніч вачэй тугой заліты.
— Дзе-ж Марыля? Што такое?
І жужжыць трывога скрыта.

І жужжыць глухою сілай,
Толькі думкі-лятуценьні,
Нібы птушак плаўнакрылых,
Шчасьце сонечнае стрэне.

І настрой званчэйшы нават,
Як убачыш думкай сьмелай,
Што адлужаны, канавы
Захаваны ў коўдрах белых.

І ня чуць, як вецер плача,
І галосячы разносіць
Па краіне, ня іначай,
Пажаўцелым лістам восень.

Ходзіць Павал... Выглядае,
Мо' пакажацца Марыля.
На зямлю ўжо змрок ступае,
Хмары грудзі прыдавілі.

Ходзіць Паўла. Ў змроку шэрым
Аб сабе ў наступным марыць.
Сэрца моўчкі шчасьцю верыць
Зьзяе ўсьмешкаю на твары.

— Дзе-ж Марыля? Што такое?
Ходзіць Павал задуменны...
А ў грудзёх гудзіць прыбоем
Кроў бушуючаю пенай.

— Кажуць вышла на гадзіну.
А ўжо й трэцяя мінае.

Што такое? Дзе прычына?
Толькі вецер завывае,

Тэлеграфным дротам плача,
Як за горадам прысады.
— Як-жа так? Няўжо іначай?
Так, бясспрэчна, толькі здрада.

Што-ж, няхай няўдзячна гэтак
За сваё дабро трываю.
Так і ўсё, відаць кабеты,
Сьлед гарэзны пакідаюць.

Першы раз, балюча нават,
Твар скаробіўшы ў маршчыны,
Распазнаць імкнуўся Павал
Псыхолёгію жанчыны.

І настрой чарней ад ночы.
Як зьмяняюцца настроі!
Але ўсё-ж яшчэ заскочыў
У пераплётную стралою.

— Не, няма. Ня прыдзе сёньня.
Бач, канчаем працу скора.
Вечар ветраны палоніць
Цьмою восенскаю горад.

Што-ж рабіць? Ісьці дадому—
З бацькам едкая сустрэча.
І ў завулак, як бяздомак,
Завярнуў, сагнуўшы плечы.

Цераз вокны з сутарэньня
Мітусіцца сьвет газьніцы.
Бачыць Павал, быццам цені,
Насупроць гурма снагліцца.

Крок далей і добра чуе
Голас Клемуся п'янога.
Хай іх чорт, перасьцярога
Ад бяды парой ратуе.

Каб раней вярнуўся крышку,
А то ўгледзелі, аравай:
— Жар'яго! Хрысьці! Бр рацішкі!
І ўзьвівалася расправа.

Самасуд устаў на ногі,
І спрабуй ня будзь пакорным!
Злосьці крык нажом трывогі
Рэжа хмары ў змроку чорным.

Шчасьце Паўла,—ўдарыў звонам
Неўзабаве голас п'яны,
— Маць тваю, бягуць мільтоны!..
І... за кашлякі наганы.

Карыстаючыся крыкам,
Клемусь хітра вокам зьмерыў
З-за вугла падбег і „фінкай"
Раніў
Міліцыянэра.

. . . . . . . . . . . . . .

3

— Не, таварыш сьледчы,
Я-ж у тым нявінна,
Што Аўзор шпіёнам,
Ворагам ён быў.
Нават і ня ведала.
Прымаміў скарынкай
У хвіліну роспачы,
Голаду,
Журбы.

Ён імкнуўся словам,
Ён імкнуўся сілай,
Ён імкнуўся ў згворы
Жонкаю зрабіць.
Быў ён мне ня любым,
Быў ён мне ня мілым,
Быў ён мне...
Ці варта толькі гаварыць?

— ... ?
— Я не атрымоўвала а-ні-якіх грошай.
— ... ?
— Кажаце, развозіла нелегальна пошту?
Так, пакет я везла,
Толькі-ж несьвядома,
Як і дні былыя, каратала скрозь,
— ... ?
— Праўда, так, я помню,—
Ён прасіў нікому

Не паказваць ліст той,
Гэты самы, вось—

І вачыма глянула на пакет ружовы,
Што ў сургуч заплямены на стале ляжаў.
Заіграў на шчоках золакам падковай
Колерам малінавым сонечны пажар.

— ... ?
— Сходы? Я ня ведаю.
Я ўжо вам казала,
Можа адбываліся,
А ці-ж мне там быць?
Шчыра так і проста гутарка вязала
Доўгую вязанку фактаў барацьбы.
І спакойна сьледчы зноў спытаў Марылю
— Мо' з Дарубашвілі
Вам спатканьне даць?
Бо, напэўна, болей
Нам жыцьцё ніколі
Не дазволіць
Яго
Ведаць, спатыкаць.
— Што-ж, калі вам трэба, каб пры ім, у вочы
Расказала тое, што цяпер кажу—
Калі ласка клічце.
Я-ж сама ня хочу,
Без яго вузлы падзей спакойна разьвяжу.
— ... ?
Вы ў мяне пытаеце, што каму спрыяю?
Адкажу вам проста

Не хачу спрыяць.
Я хачу змагацца, працаваць, я знаю,
Хай сягоньня сіла кволая мая,
Трэба мне акрэпнуць, падвучыцца трэба,
(Я, між іншым, думаю на рабфак пайсьці)
І тагды, таварыш, чым змагу, як-небудзь—
Я здабуду сілу барацьбы ў жыцьці.
— А скажэце, ясна сутнасьць вам, прычына,
Як, за што мы б'ёмся, што мы хочам мець?
— Як-жа, каб працоўным уладаць краінай,
Гнаць буржуяў, белых,
Што-ж не разумець?

— Правільна! рабочы з селянінам разам
Злучанаю сілай праламалі лёд.
Загудзелі хвалі, з берагоў адразу
Вышлі валам злосьці
Ў баявы паход.

Грозная паводка. Толькі крыгі шчорацць,
Гінуць, як ад сонца сьнегавы сумёт.
Гэта рэволюцыя...
Крыгай плача вораг,
А штурмуе хваля—
Пролетарскі пот.

Пот разьліўся хваляй, а мазоль вяслуе.
Будучыню кліча вольны пролетар.
Ён будуе будучае!
Ён—змагар—працуе,
Ну, а хто працуе
Той і гаспадар

І расказваў сьледчы, як раней жылося,
Працавалі сотні—панаваў адзін.
— Вось чаму заўзята багацеі з злосьцю
Зноў вярнуць імкнуцца жах былых часін.

Слухала Марыля, ўважліва лавіла
Кожны гук, захоплена... Чуе, як прыбой
У грудзёх бунтоўна ўзбуджанаю сілай
Б'е крыніцай прагнасьці вырвацца у бой...
І гатова доўга, доўга—без спачыну
Слухаць словы моцныя і губу кусаць,
І зласьліва думаць—расьцьвіла дзяўчына,
Толькі пустацьветная гэтая краса...
Так, на гэтым скончым.
Справу ліквідуем.

Вольныя цяпер вы. І ў імя жыцьця
За работу, шчыра!
— Як жыцьцё муштруе!
— Патрабуе выбраць свой жыцьцёвы сьцяг.
У бакох хавацца ў часе бойкі нашай,—
Нож рэвалюцыі ня церпіць хітрых схоў.
Ці з багацеямі супроць братоў паўстаўшых,
Альбо з працоўнымі супроць багатыроў!
Пауза...
Маўклівасьць.
Нявымоўнай сілай
Зашчымела сэрца... Радасьць тут ці жах?
Радасьць, хоць сьлязою твар і арасіла.
Але радасьць, радасьць цепліцца ў вачах.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дзіцё маленькае прасьцерла вачаняткі
І ў першы раз убачыла сьвятло.
Затым пазнаць магло
З усьмешкай постаць маткі,
А там—вітаць яе сугуччам першых слоў.

Вось так і я—у першы раз пазнала
Зямлю і сьвет і родных мне братоў.
О, рэволюцыя, як маці спавівала,
О, ў рэволюцыю радзілася я зноў..
Мой шлях адзін, і сьцяг адзін, таварыш,—
Сваё жыцьцё злучу з жыцьцём другіх.
І на Марыліным бадзёра сьветлым твары
Плывуць шчасьлівыя кругі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Цяпер я вольная?
Ня трэба больш прыходзіць
Сюды ў ЧК?
— Закончаны разбор...
—Бывайце, дзякую.
— Бывайце...
І, як злодзей,
Схаваўшы ў хустку твар,
Пабегла ў калідор,
А там на вуліцу і—
Гэй —
Хутчэй,
Хутчэй,
Хутчэй!

Хустка ветрам з плеч спаўзла.
Што крок—бліжэй!
Што крок—бліжэй!
Запал вачэй
Грызе імгла,
О, вочы агнявей!

Агонь гарыць,
спрабуй—падуй,—
Ветру на радасьць,
табе на бяду!
Хутчэй,
Марыля,
Крыльля—
Ўзьвей.
Хутчэй,
Хутчэй,
Хутчэй!

Як дзяўчынка, сэрца скача,
Як ручайкі, кроў бурліць.
Не пачуеш голас плачу
Чорнай восенскай зямлі.

Кожны год за летам восень
Хмарай шлях пралажа свой.
Так вядзецца, так вялося
Па прывычцы векавой.

А няўжо запал, імкненьні
Ў моцы восень утрымаць?
Восень стане на калені,
Як імкненьні зашасьцяць...

Вечар хутка сплюшчыць вочы,
Ноч прыляжа на зямлю.
А ў грудзёх запал дзявочы—
Не спазьніцца сёньня ў клюб.

І бяжыць, бяжыць дзяўчына
Клікнуць Паўла іскрай слоў,—
Бегчы ўдвох на вечарыну
Беларускіх песьняроў.

4.

Горад.
Пры горадзе—прыгарад.
Вуліца і
З канца
Будынак, як быццам прыгарак,
Кватэра шаўца.

Прыбегла Марыля.
— Дзе-ж ён Павал?
Маці—пракляцьцем,
— Пабілі,
Расправа...
Марылька ў бядзе мы...
— Якая расправа?
— Ў міліцыі Клемусь
І Павал...

Бліснулі вочываўчыцы—і
Марыля йдзе ў штаб міліцыі.

5

Годы сучасныя, бурныя годы!
Гартованай сілай, агнём расьцьвілі.
На экране эпох
Бягуць эпізоды
Бязьлітасных схватак народаў зямлі.

І хочацца там быць,
Праскочыць праз дамбы.

Навалаю бур мы
Раскідвалі-б турмы.

І воляю ім бы
Пярэсталі німбы.

О, памяць, як стогн, рый
Скарбы гісторый!

Змаганьне, змаганьне! Крылатае слова!
(Вусны стагодзьдзяў працёрлі да дзір).
Змаганьне жыве! О, скошвай галовы,
І моцным да мэты праз косьці дайдзі.

Змаганьне—жыцьцё. І каб жыць—то змагацца
Стагодзьдзямі ўслаўлены сьмелы закон.
З сабой, з чалавекам, з прыродаю, з працай—
Змагацца для славы наступных дзён.

Мала радзіцца—будзь цьвёрдым, што камень,
Любою істотай умей заўладаць.
Тысячы дышуць тваімі грудзямі,
Сэрца тваё—грамада.

Радасьць са злосьцю, бадзёрасаць з надломам,
Хто пераможа? За ўдарам—удар...
Ня кожны ўдар навальнічага грому
Высасвае кроў чалавечых ахвяр.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

... У штабе міліцыі ўбачыла Паўла.
Міліцыянэры наўкол.
Старанна рука вартавая пісала
Сутнасьць падзей—пратакол.

— Кажаце, вам пагражалі пабоем
За тое, што сальнік Залтушкін у турме?
— Старым не давалі ў жыцьці супакою,
Ня толькі мне.

— Таварыш,—яна да стала падбягае
Узбуджаным голасам, крыўдай сваёй,—
Жыву ў іх... Бачыце, справа такая,
Клемусь хацеў пажаніцца са мной,
А я адвярнулася. Што мне з бандытам
Адною дарогай?... Таму вось яны
Яго прылавілі... І глянула скрытна
На Паўла,
А Павал падцягнуў штаны...

6

Дарогай да дому... А ноч—як смала.
Пасьвіствае вецер, шуршыцца імгла.

Маўкліва спачатку. Кожны ў журбе,
У кожнага ў сэрцы дасада скрабе.

А ноч—як смала.
Вецер.
Імгла.
Разгаварыліся. Злосьць прайшла.

7

І ноч прайшла.
І прайшла
Імгла,
А была
Імгла,
Як брызгі шкла.
Марыля прачнулася. Ціха ў пакоіі,
Ціха і душна.
А ўсё-ткі лягчэй
І грудзі ўздыхаюць,
І кроў ужо тчэ
Румянцы вясёлых настрояў.

Цесна ў пакоі. Душна і брудна.
А лёгка на сэрцы,
Вось быццам
Аб пройдзеным згубленым
Споведзі нуднай
Шчасьліва ўдалося пазбыцца...

З-пад коўдры, нясьмела,
Вачыма пяшчоты,
Зірнула на соннага Паўла.
І сэрца застукала

Роўна так, чотка...
— Няўжо сапраўды пакахала?

Хвіліна мінае. Ня чуецца водгук
Жаданьняў ажыўлена-палкіх.
Душна і крыўдна. Устала з бярлогі.
Сустрэлася поглядам з Паўлам.

З імклівай ухмылкай,
З дзявочаю рызыкай,
(Кроў маладая муштруе...)
Стала ля Паўла так блізка-блізка.
Схілілася нізка.
Цалуе,
Дух затаіўшы, аддана,
І ўмомант—
Выбухам грудзі рвуцца:
Марыля адбегла і хутка й саромна
Сьпяшаецца апрануцца...
Душна ў пакоі.
А сэрца на волі—
Ў завеях дзявочых мар.

Устала. Зьбірае ў ляжанцы вугольле,
Распальвае самавар.

Вышла на двор.
Зусім яшчэ рана.
Замараз.
Нікога няма.
З неба далёка-далёка загнаны
Ветрам барашкі хмар...

Досень прачнулася раніцай яснаю,
Золатакволымі
Лісьцямі шастае.

Лісьцямі шастае, раніца насьцеж—
Знойдзеным шляхам здалею прайсьці!
Буду мець шчасьце,
Шчасьце мець буду.
Буду мець шчасьце
Ў нашым жыцьці.

Золаку раніцы ўклон мой у пояс.
Як сонца, з табою
Жыцьцё маладое!

Жыцьцю маладому ня дай запрапасьці,
Прыгрэй, прытулі, каб магло расьцьвісьці.
Буду мець шчасьце,
Шчасьце мець буду.
Буду мець шчасьце,
Ў нашым жыцьці.

Золак бадзёрыць, жыцьцё адмыкае
Ключамі праменьняў
На небакраі.

О, каб на крыўду мне больш не напасьці,
А ў сіле, гартавана, з песьняй ісьці.
Буду мець шчасьце,
Шчасьце мець буду.
Буду мець шчасьце
Ў нашым жыцьці.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... За шклянкай гарбаты Марыля і Павал
Крыляцца ў лятунках чаруючых так.
Удумліва шчыра
Пісалі заяву—
Просьбу прыняць на рабфак.
Разам, удвох, прытуліўшыся блізка,
Вяжуць вязанку нязвычных слоў.
Вочы, як золак,
Радасна бліскаюць,
Будзячы палкую кроў.

Заява падпісана. Сэрцайка ў схватках.
Лятункі жаданьня ў трывозе шасьцяць.
Як многа ў заяве
(Нязграбнай, ня гладкай)
Юнацкага права жыцьця.

З-за прыпека глянула маці старая,
Міргнула старому:—Зірні,
Бачыш, на шыю руку ён паклаў ёй.
Хай сабе...
        Цсс...
            Не крані...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Ажыўленым гулам свае абавязкі
Горад пачаў, як штодзенна.
— Буду прасіць, не адмоў, калі ласка,
Заяву аддай у праўленьне,

Іначай гатова ў майстэрню спазьніцца.
— Раз абяцаю—квіта!
Погляд Марылі зарніцай іскрыцца,
І Паўла зарніцай авіты.

8

Рэжам, клеім і сшываем
І пад прэсам выпраўляем.
Так з старой падранай—мігам
Зробім новенькую кнігу.

Рукі спрытна сёньня ходзяць,
І настрой, як сонца, бродзіць.

Песьняй гучнай, плаўнакрылай
Асьвяжаем свае сілы.

Кожны дзень адна работа:
Рэжам, клеім пераплёты.

Грамадою—разам, раз—
Мы заканчваем заказ.

9

Знак. Перапынак. Поўдзень.
Паўгадзіны. Адпачні.
І, як быццам, так праходзяць
Па чарзе за днямі дні.

Але дзень інакшы сёньня,
Не падобны на другі,—

Ён тугою не палоніць,
Ён ня ведае тугі.

І Марыля так ахвоча
Пра сябе, упяршыню,
Сказ вядзе сябром, а вочы
Поўны палкага агню.

— ... Першы дзень, як грудзі лёгка дышуць!
Як мары ў казках, змрок тугі
Цяпер праменьні закалышуць
Павевам сну сузорнае дугі.

Пагодны дзень! І ў гэты першы, слаўны,
У іншых колерах перад вачыма сьвет.
І здань грахоў былых разьбегам дзён стаптаны,
І ўжо, як ветрамі, замецены іх сьлед.

Няма таго, няма, што так цярпела ўчора,
Учарайшы дзень зусім я ня жыла,
Я нарадзілася, калі стапнела гора.
Дарогай вогнішча ў жыцьцё сваё ўвайшла!

І вось за працаю і рукі, як другія,
І аркушы папер шасьцяць інакш зусім.
І літары брошур—завуць (яны жывыя)
На штурм жыцьця запалам маладым.

Няхай ня полымем мне быць, я гэта знаю.
Але іскрой, браткі, я мушу быць!
І сёньня
Разам з вамі выступаю,

Як роўны з роўнымі
Ў навалу барацьбы.

. . . . . . . . . . . . .   . . . . . .

... Раней, бывала, кожны сказ Марылі
На вуснах быў акроплены сьлязой.
— „Я нарадзілася“—як словы паланілі
Жыцьцём здабытым жорсткаю цаной.

Але пад векамі таілася маршчына,
Узлазіў сум баязьліва на скронь.
Яна работніца, але яна й дзяўчына.
А розным колерам б‘е з полымя агонь.

Перарадзіцца можна, толькі не забыцца
Ў жыцьці праз свой жыцьцёвы шлях.
Каханьне першае ружовай бліскавіцай
Пад час зазьзяе крыўдаю ў вачах.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

10

Гулу ў сіле
          Дружна жыць,
Толькі крыльлі
          Яго ўзьвіць.

Хваляй пеннай
          паплыве
Па праменнай
          Сіняве.

Голас кіне
На зямлю,
Што ў краіне—
Вольны люд...

Прападае
Сум-журба.
Праца—тая-ж
Барацьба.

Дык за працу,
За варстат!
Гул вітацца
З кожным рад.

За варстаты—грамадой,
Ні хвіліны на прастой!

Злучым сілы разам, раз—
І раней здадзім заказ!

11

Якая дзіўная эпоха!
Якая дзіўная пара...
Замоўк баёў надрыўны грохат,
Спыніў касіць сьвінцовы град.

Грудзі ўсходам уздыхнулі,
Думкі ўзьвіты, як страі.
Глянеш—горад на хадулях,
Плачуць вуліцы руін.

Абязброены машыны,
Разьядаюцца іржой.
    Знай, савецкая краіна
    Вышла ў новы бой!

Што завод—атрады-сотні.
— Пераможцы на суботнік!

Як і сэрца, так няспынна,
Мусяць біцца, жыць машыны.

Здраднік—хто пачне цяпер выць;
— Мяса мала?—Ёсьць кансэрвы!..

... Дні ішлі...
Ішлі упарта.
Расьцягнуўся дым канатам
З труб фабрычных.
    І праз рамы
Чутна песьня—рух дынамо.

Як на ўсходзе золак ранкам,
Заіскрылася вагранка.

Проста ўгрунь ляцелі дні,
Сілай, рухам шасьцярні.

Рос за фабрыкай завод—
Дзень
За днём,
За годам
Год.

. . . . . . . . . . . . . .

Шпіёны, найміты, бандыты
Шлях наш мінамі ўсьцілалі.
Шмат было іх недабітых,
Дык цяпер перастралялі.

І пайшлі сыны ваякаў,
І пайшла заводаў моладзь
Гартавацца на рабфаках,
Гартавацца ў профтэхшколах.

12

Выраўняўся горад. Гул:
— „Цесна мне, я не магу.
Я жыцьцём сваім разьбежным
Пашыраю свае межы.
Камяніцамі расту я,
А жыве ў іх—хто працуе!
Цесна мне, хачу прастору:
Я—савецкі, новы горад“.

Раптам крык, нажом сэнсацый,
Адарваў народ ад працы:
— *Ворагі клясавы зноў*
*Пролетарскую п'е кроў.*
— Пяць капеек...
(Колькі шуму!..)
— Вось газэтка!
— Сьвежы нумар!
— Нябывалы ўчынак гэткі!
— Пяць капеек!
— Вось газэткі!

І газэтчык, проста потны,
Праляцеў ля пераплётнай.
Крык узьняў, што сіл хапае:
— Зноў буржуі наступаюць!

На хвіліну змоўкла праца,
Інтрыгуецца цікавасьць:
— Што-ж магло такое стацца?
— Пэўна зноў пашла расправа?

І агонь вачэй Марылі
Зьліўся з іншымі ў касьцёр...
Ліст газэты, быццам крыльлі,
Пераплётчык распрасьцёр:

КЛЯСАВЫ ВОРАГ ПАДНЯЎ ГАЛАВУ.
ПАДКУПЛЕНАЯ АГЕНТУРА.
НОВАЯ ВЫЛАЗКА.
СКАСІЦЬ, ЯК ТРАВУ.

ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ПРАКУРАТУРЫ.

...Хэўра хуліганаў зьбіла члена КСМ Паўла Грубакрана. Пры абаронных нашых мерах—ранілі міліцыянэра. Выявілася на допыце ўскораным, што сальнікам Залтушкіным надгавораны. Злачынцы: Клемусь Чуб („Вырві вока“) і браты Калштаных—арыштаваны. У клюбе Цэнтрабуд 1-га будзе суд. Галоўныя сьведкі на судзе—міліцыянэр Будзей і Марыля Надзьвіліна...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Грузны праехаў абоз
Хмар навальнічых сталіцай.
На брыль камяніц завушніцы
Нанізваў, як пацеркі сьлёз.
Сонца ўзламала замкі,
Хмары разьбіла, як скалы.
Па вуліцах параскідала
Праменныя ручнікі.

А з комінаў фабрык нязьмерным кругам
Дымам
Дыша
Данецкі вугаль.

І—права жыцьця і—права ісьці
Ў жыцьцё наступнага маеш?—
Хай будзеш і скрыўджан часамі ў жыцьці,
Будучыню пазнаеш!

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

А праца па ранейшаму ў навале,
Хто з песьняй-гоманам, а хто бурчом пад нос.
Ужо зьмяркалася. Так ціха, як вуальлю,
Імглісты змрок туман з сабой прынёс.
— А Павал дзе? Казаў у дзьве гадзіны
Будзе вынік. Што-ж яго няма?
А... вось і ён, як лёгкі на ўспамінак!
А я злавалася. Заўсёды так, дарма.
Што добрага,
Хутчэй кажы,
Прынята?

Маўчыш? Адмовілі рабфак?
(Нахмурыў бровы, як перад цяжкай стратай)
— Чаму?
Прычына?
Як?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ня было камандыроўкі, а заяў багата.
Мэханічны падыход. Вось і ня прынята.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

13

Хлапчукі газэт астачу
Збыць мяркуюць, няіначай.
Вораг варыць пенай злосьць.
— Вось газэтка! Пяць капеек!
Сьвежы нумар... Бунт зладзеяў!
Ёсьць газэткі!
Ёсьць!

1

Ад ВАРШТАТАЎ, ад машын
Дэлегаты краю.
Сыгнал. Спакойна. Пачынаем.
(Пауза)
— Та
    ва
      ры
       шы!
Пад сонцам
Два варожых сьветы:
Агняцьветны
Край Саветаў,
            І другі,—
               Дзе разьнята
               Зямля на краіны,
               І, як краіна,—
            На штаты,
            Па штату
            Краіна
            Там
               Мець павінна

Бронемашыны
І казэматы.
„Сыты галоднаму
Не спагадае“—
Векавая
Пагаворка.
Церпяць рабочыя
І ў Шанхаі,
І ў Бэрліне,
І ў Нью-Ёрку.

За завесаю констытуцый
Скрыгань і шквал барацьбы.
„Паны між сабою б‘юцца,
А трасуцца
У мужыкоў чубы“.
Сокалу крыльлі абрэзаць,
Сокал ня будзе лётаць.
Ня стрымаюць пролетарскіх узьлётаў
Ні мітральезай,
Ні кулямётам.
Ад зор і да зор—суткі,
Дваццаць чатыры гадзіны.
Дзяржавы на Захадзе,
Як простытуткі,
Прабіваюцца на рынак.

Рабочыя бяз працы,
Чуеш,
У муках народзіцца радасьць.
Галодны паход будуе

Рэволюцыі
Людзкую
Барыкаду.
Якая розьніца?
Адна-ж бяда-пакута
У ткачоў і Беластоку,
І Ліёну,
І Калькуты.
Якая розьніца?
(Хоць шлях змаганьня свой там),
Ці токар з Токіо,
Ці з Вены,
Ці з Дэтройту.

Адным агнём гараць,
Агнём зазыўным
Вочы.
Ніякай розьніцы. І там,
І там
Рабочыя!

На фронт, таварышы,
На фронт, энтузыясты!
Такія дні
Стракаюцца
Ня часта!
У барацьбе, за працаю
Што дзень сабе прыблізім,
Заваёваны
Ў баёх
Соцыялізм.

Прамова скончана.
Раскатам
Выбух воплескаў, як шквал.
І ў залі
Дружна, так узьнята,
Сьпявалі
Інтэрнацыянал.

Вялікі сход. Рабочых шмат.
Пытаньне важнае бяз краю.
Пра міжнароднае становішча даклад,
Конфэрэнцыя агульна-гарадзкая.

Рабочых шмат. Вялікі сход.
Няма, здаецца, вольных шчылін.

Жыцьця нястрымна-быстры ход
Сваім крылом крануў Марылю.
Мы прыглядаемся,--як многа перамен!
Суровай сталасьцю налітыя маршчыны.
І сьцелецца ў вачох, як веснавы прамень
Агонь імклівасьці народжанай уздымны.

І кожны рух—удумлівы і просты.
І кожны крок—упэўнены, жывы.

А сьлед мінулага
Віе ў пярсьцёнкі россып
Валасоў разрадкаю сівых.

Шлях заваёваны. Не шкадаваць сябе,
А творчым акрынічыцца прыбоем,
І будаваць жыцьцё, і будаваць такое,
Як радасьць перамогі ў барацьбе.

3

Быў дзень—як вар, як важкі ўдар забою.
Быў дзень—апалены распаленай рудою.
Быў дзень—як волат бурай гартаваны.
Быў дзень—як думка творчасьці прызнанай
Быў дзень—народжаны ў агні.
Былі
Такія
Дні!

І кожны дзень краіна маладая,
Уздыхнуўшы раніцай ірдзянаю глыбока,
Скарб здабыты пільна аглядае
Гаспадарскім
Шматмільённым вокам.

Не аднаму зьвярнуць гатова шыю
Карчамі хто—дарогі ганіць.
Як чэрві хто—грызе берагавыя
Заставы ўмацаваньні.

А горда павыростывалі гмахі,
Напоеныя водарам праменным.
І жыцьцё, як на варштаты-плахі,
Склалі дні, ўмурованыя ў сьцены.

Тугой не засьціляюцца агляды.
Географія свой зьмест зьмяняе ўпарта:
Дарогі новыя, жытнёвыя прысады
Замест дрыгвы—зялёных плям на картах.

Сабраны ў вузел, злучаны, зьяднаны
Разгубленая сіла і напорнасьць.
Мы зноў крануліся паходам гартаваным
З прастораў
    Заваёўваць шыр-прасторы!

...Былі сталецьцямі ў карытах-сутарэньнях
Майстэрні дробныя раскіданы ў завулках:
Ці то кравец, ці штэпар—час збавеньня
Чакаў спаткаць сьмяротнасьцю сутулай.

Ці то шавец, шнуруючы паволі,
Пад енк дзяцей замардаваных страшна,
Трываў сябе з сваёй тандэтнай доляй,
Душу ўкладаючы ў юхтовыя камашы.

Вясна разьлівам выгнала з падвалаў,
Усходам росквіту трухло сяліб скрышыла.
І пераплётная (з прыватным капіталам)
На развалінах
Сваю знашла магілу.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Фабрыка кніг. Пераплётны цэх.
Брашуравальня. І тут за працай
Марыля Надзьвіліна з кваліфікацы-
Яй першага раду ў руцэ.

Як ветраным вечарам лес шуршыць,
Шылам сшываюць брашур аркушы.

Цокае чотка, разьмерна, роўна
Самасшывалка. І бязумоўна,

Раз пераплётная—значыць стапнее
Пах петлеванага клею.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Новая дарога. Вырастаюць стромай
На дарозе новай новыя настроі.

На рабфак ня выпала, але глянуў золак
Ветлаю вясьнянкаю, вогненым разьлівам
Ціха дні праходзілі на праменных колах,
Вечары зачэсвалі зараніцы-грывы.

З сутарэньня—кузьні зайздрасьці і скрагі,
Як з палону, вышла, вышла на прасьцягі.

Плынь звонкагалосую давяць два ўзьбярэжжы,
Векавыя ворагі—іх ня злучыш мостам.
Так жыцьцё расколата: як вужакі—межы—
Дзьве дарогі поруч—заняпад і поступ.

Узрасла Марыля, сэрца ў хваляваньнях
За дарогу поступу
Заўтрашняга раньня.

4

Распалены дзень разьліваў
Кроплі агню з небасхілу.
Зямля з прагавітасьцю льва
Сьнежаньскай сьцюжай студзіла.

Сьнег пад нагамі хрушчыць.
Колецца змрок застыўшы.
Як палкая кроў, гарыць
Зазыўнае зорнае ўзвышша.

Паветра—як сталь. Вартавой
Сумятлівасьцю дыхае горад.
Нябачанаю рукой
На вокнах расьпісаны ўзоры.

Разьбіўшы сутонную муць,
На крыльлях сьцюдзённага ветру,
Коўзаюцца і плывуць
Гарачыя гукі оркестру.

Сівы запалонен прасьцяг;
На лёдавых зрэзаных сьцежках
Зьвіняць маладосьцю жыцьця
Жвавыя канькабежцы...

На вуглях распаленых сьцюжы,
Праз цені зьняволеных ліп,
З катаньня—вясёлых і дужых—
Іх двое да дому ішлі.

Іх двое—Марыля і Павал.
Іх двое, як лунь, сівых.
А вецер абуджваў праявы
Ў карусэлях сьнегавых.

Рупліва, на перагонкі,
Усьлед за ступой ступа.

Марыля адстала -і звонкі
Сьмех акунаецца ў пар...

На скрыжаваньні вуліц
Разьвіталіся, і
Абодвы ўхмыляліся, чулі,
Штось затрымоўвае іх.

— Яшчэ і ня позна, да дому
Звычайна прыходзім пазьней.
Мо' зойдзеш пагрэцца, на момант?
Мо' зойдзеш да мяне?

І за рукаў пацягнула.
— Вып'ем гарбаты...
А сьнег,
Ветрам узьняты,
Ў завулках
Завірушваў свой начлег.

5

Пакой, як пакой, чатырохкантовы.
Заманьліва-ўтульная ціш.
— Сілкуйся, а ўжо і гарбата гатова.
Страхніся, чаго маўчыш?

Павал глядзіць на партрэт і на зломе
Брывей павіс успамінаў шнур.
— Ня ведаеш хто? Магу пазнаёміць—
Люксэмбург Роза, жанчына віхур.

— Жанчына віхур, гэта праўда, ахвяра
Уздыбленых дзён Спартака...

Гісторыя проста, жыла-была пара,
Іх доля ў палоне, ў чужых руках.

Жыла-была пара,—а голадна, туга.
Працуюць, працуюць, а толку няма.
Кроў на прадвесьні, нібы валацуга,
Блудзіла па жылах,—спрабуй, стрымай!

Шукаючы працы, дабрыў ён у горад,
Стаў на работу—вартаўніком.
Асвойтаўся крыху—і скора, скора
Складваў чырвонцы—рубель за рублём.
І вось, гэтак сама над ложкам павесіў
У рамку апраўлены Розы портрэт.
Затым на другі ці на трэці месяц
Выклікаў жонку праз сельсавет.

З дзіцем і клумкаў вялікаю ношай,
Дарогай ледзь сіл не растраціла ўсіх.
Заходзіць у хату, глядзіць—над ложкам
Жаночая картка вісіць.
Як на бяду—у кватэры нікога.
Няўтульнасьць халодная сьцен.
— Здрадзіў, зманіў, не ўбаяўся бога,
Знайшоў гарадзкую... Енк.
І надрывала ў роспачы грудзі,
Стулілася на дзіцё:
— Саколік, мой любы, мы тут-ка ня будзем,

Загублена наша жыцьцё!..
Раскрыліся дзьверы, глядзіць ён—вые
Ягоная жонка,галосіць малы.
—Што з вамі, што? А мае дарагія...
— Ах, каб табе смалы!
Шась за портрэт, паламала, падзёрла:
— Кралю знайшоў сабе, га?
Знайшоў, каб табе пад грудзямі сьпёрла,
Сукін ты сын, гад!..
Дзе там было разабрацца адразу,
Толькі спусьціўшы гадзіну,
Гарбаты сагрэў і доўга расказваў
Што гэта—о—го!—жанчына.
З Леніным разам яна працавала.
— А зараз, працуе яна?
— Дурань, яе нямчура ўкатавала.
— Значыць нябожчыцца?
Гнеў мінаў...

Марыля ў далонях скроні сьціскала,
Тугой забінтованы твар.
Мінулае перад вачыма ўстала
І зацягвае, як дрыгва.

— Жанчына—забітая горам, бядою,
Цёмная, што зямля.
Скуль-жа ёй ведаць? І я-ж такою
Да скону застацца магла.

Тут сьмешнага мала,тут сьлёзнага болей,
Крыўдна, што ні кажы.

А ў сэрцы дзяўчыніным чуласьці колькі!
А жыць, так хочацца жыць!

Эх, кінем развагі, прайшло, прамінула...
Гарбаты гарачай наліць?
— Ты кажаш, дзявочае сэрца чулае?
Як гэта ўчуць і калі?
        Ухвальнай ухмылкай дапытваў адказу.
        Паклаў ёй на голаву ветла далонь.
        Гарэзныя думкі ў вачох, як блазны,
        Распальвалі палкі агонь.

        Спаяліся рукі.
        Моцна і сьмела
        І весела ўзьвіліся крыльлі ласк.
        І... як па ліха, якраз
                Лямпачка перагарэла.

6

Ярасна ўпяршыню,
За працай сагнуўшыся ў плечах,
Не заўважыла, як дню
Ў вочы цярушыцца вечар.

Наўкола гара аркушоў,
Іх тысячы ў сьвет выпускаюць.
Назаўтрае тысячы зноў
Новых лістоў вырастае.

З брашуроўкай ня важны толк.
Аўтары ходзяць, як здані,

І кожны на кожны стол
З надзеяй трывожнаю гляне.

Патыліцу паскрабе,
Шугае ў кантору мігам:
Работы нястрымны разьбег,
Яго-ж марынуецца кніга.
Пакуль надрукуюць, затым
Пакуль і сфальцуюць і сшыюць—
Дум поэтычных уздым
У выдавецтве зломіць шыю!

Марыля чацьверты дзень
Ужо ля качалкі, што дротам
Кнігі сшывае. Ідзе
Хутка і нудна работа

І ёй за машынай цяпер,
Здаецца, жывое ўсё нікне.
— Ці трэба крыху пацярпець,
А пацярпеўшы прывыкнеш?

Гарэзны званок праляціць
Па цэхавых шэрых пакоях—
Скончана праца. Заціх
Шум брашуроўкі. Затое

Гул пачынае кружыць
Вясёлы і сумятлівы...
А глянеш, гарой тыражы
У крыўдзе ляжаць сіратліва.

7

Цьмяны вечар і цьмяны сьвет
Сытных вітрын магазынаў.
Неба застыўшае вецер рве,
Каб сьнегам засыпаць вітрыны.

Гул замарожаны раскалоў
Вылазкай сіплай газэтчык.
Клопатам гораду, як і было,
Вуліцы гнулі плечы.

Я раз на шматлюдным рагу
(У вачох мітусіцца іней).
Згубілася і адшукаць не магу
Марыля, мая героіня.

Дарэчы—сягоньня чацьвер.
Гурток політычны а пятай,
Напэўна Марыля цяпер
Сьпяшалася на занняткі.

А я завярнуў уніз,
Ссутуліўся, як звычайна.
Іду. Ў сутарэньнях агні
З маімі падумкамі спаяны.

8

Дарэмна у нашых здагадках
Таяла прозалаць слоў.
Учора ў гуртку на занятках
Марылі зусім ня было.

А сёньня чагось за варштатам
Каромысла стомленых век
Склейваюцца, што скурлаты;
Клоніцца сну чалавек.
Спачатку сябе намагала,
Затым і зусім ня відно,—
Што сёньня Марыля ня спала
Пралётам цалюткую ноч.

Павал хварэе, а дома
За хворым каму даглядзець?
Учора ён страціў прытомнасьць,
Не пазнаваў людзей.

У клопатах і турботах
Прашла агнязорая ноч.
Пайсьці, адпачыць,—за работай
Цяпер пажаданьне адно.

Прышоў старшыня фабкому
І голасна ўсім абвясьціў:
— Таварышы,
Сёньня да дому
Ня прыдзецца нам пайсьці.
На зьмену начную застацца—
Да раніцы скончыць тыраж.
Гуртом паднатужыцца,
Ўзяцца
І ў тэрмін выканаць працу—
Гонар грамадзкі наш.

Марыля праслухала,—рада
Застацца, а ў думках яе:
Ён хворы, адзін, без дагляду,
І сіл у самой не стае.

Працуе ўсяго сорак восем,
Да дому-ж зьбіраюцца шмат,
Бо ў іншых бяз догляду дзеці галосяць,
Ў Марылі—нікога няма.

Пакінуць ня мае права.
Сябры застаюцца, і ёй
Выбар суровы—ці Павал,
Ці з рабочаю грамадой.

А векі, як змрок, асядаюць,
Стома ліецца з вачэй.
Хто знойдзецца, хто параіць?
Няўстойлівасьць крыўду тчэ.

Сыгнала-звон, цокатам медзі,
Цэхавы шум расьсек.
Марыля глядзіць—суседзі
Ўсё-ж застаюцца ўсе.

Ня спала адну, і другая
Шуміць хай, як вадаспад.
Часамі і горай бывае,
Што значыць дзьве ночы ня спаць!?

9

За горадам верацяніцай
Баракі сталічнай бальніцы.

І ноччу і ў холадзе дня
Жахлівая цішыня.

Кароткай прыймовай парой
Захлынаецца ціша спакой—

У тлуме людзкіх клапот
Каля вартаўчых варот.

Праменьні зьлятуцца гурбой
На свой чаргавы вадапой,—

І сьлёзы трывогі, надзей
Глытаюць з глыбокіх вачэй.

— Няўжо ён ужо ачуняў?
Голас знаёмы спытаў,
А вочы, як бліскавіцы.
...Павал ляжаў у бальніцы.

10

Сьпяшаецца ўстрывожана
На сход прысьці ў пару.
Пазьніцца не паложана
Шэфком-сакратару.

Дзівосная, патрачаны
Амаль і сілы ўсе.
— Калі на 6 прызначана,
Пачнуць звычайна ў 7.

. . . . . . . . . . . . .

— Нашу шэфскую нараду
Мы пачнем бяз лішніх слоў.

Набліжаюцца каляды,
Трэба вылучыць брыгаду
Для пасылкі у сяло.

Алавок трымаючы ў прыгоршчы,
Гаварыў стары наборшчык.

— Як вядома, сход фабрычны
Шэфства ўзяў над вёскай Пні.
Там мясцовасьць—прыгранічча.
А зрабілі што практычна?
Як ня сорам—а-ні-ні.

— У мяне—Марыля просіць слова,—
Пра-па-но-ва:

Трэба вылучыць мацнейшых
Трох таварышаў, ня менш.
Прапаную: Кругарэшны,
Забруліцкая і Тлейшын,
І паслаць іх не на дзень.

— Так,—дадаў клішар,—пры гэтым
Даць з сабой бібліотэку.

— Мы ў ячэйцы талкавалі
Больш чым трох паслаць цяпер.
Так: Надзьвіліна, Прычалін,
Кругарэшны, Тлейшын, далей
Ігнатковіч-піонэр.

— У мяне нагрузкі досыць,
Хай другі...—Марыля просіць.

— Знаеш, братка, што скажу—
Лепш рыхтуй сабе кажух,
І дарма ня варта біцца...
Зьмены ёсьць?
— Няма!
— Згадзіцца!

...Ехаць нават і цікава,
Гэта праўда, толькі... Павал.
Іскры думак мільганулі
І пагасьлі
У дымным гуле.

11

Зарніца каменшчык з пляча-
Драбіла сінь на нeбакраі.
І змрок, як срэбная парча,
На грудзі вуліц асядае

Пераклікаюцца па вечарам
Гудкі фабрычныя ў прасторах.
Так шчыра з Павалам бальнічная сястра
Разгаварылася ў бальнічным калідоры.

Парой людзкі, як боль, працяжны стогн
Абудзіць зноў бальніцы юдаль.
...— Бяду—далей расказваў ён,—
Зьмяняла сьмерці жудасьць.

Магіла матчына нявысахшай была,
Зламала бацьку п‘яная агонія.

Сястра... ня ведаю. Мо' справіцца змагла,—
Выслана ў папраўчую колёнію.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Расказваў спакойна.
А ветраны шчос
За вокнамі вые-байдосуе.
Галубіць Марылю
Румянцамі шчок
Весёлая сьнежная россып.

Выедзе рана,
Ледзь зоймецца дзень,
У раён на грамадзкую працу.
Таму, хоць і позна,
Да Паўла ідзе
Праведаць і разьвітацца.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Напоены цішынёй
Белы бальнічны пакой.

Сястра, спачуваючы Паўлу,
Па-сяброўску апавядала:
— Стынь успамінаў крану,
Труціцца сэрца журбой.
Трывала зьнявагу,ману,
Закінутая, сіратой.

І вось, выпадкова аднойчы,
Са мной пазнаёміўся лётчык.

Я песьціла радасьць сустрэчы,
Пяшчотамі думкі снавала.
Помню, быў чэрвенскі вечар,
Доля нас моцна зьвязала.
І поступам звонкагалосым
Жыцьцё зьніштажала прапоны.

Змоўкла. Ухмылкай саромнай
На Паўла глянула скоса.
І хто-ж утрымаецца, хто
Ня ўславіць арліныя ўзьлёты?
Дастала конвэрт з паліто,
Мужа паказвае фото.
Кожнае слова—гонар
Народжаны ў бурах-пажарах.

Быў на вайне заслужоны,
І зараз—адказны таварыш.
Як сонца, мой любы пілот,
Ордэн у променях бліскаў.
Дырэктарам на завод
Пісаць і адпісваць запіскі
Паслалі з губкому, а ён
Выкручваўся мёртвай пятлёю,
І ўсё-ж загадалі!—
Закон!
Аддаўся заводу душою...
Вось гляньце на картку яго,
Дзівіцеся, ордэн, як зорка.
...У трох мы жывем—Рыгор,
Я і сыночак Рыгорка.

Зноў глянула, якваўчыца,
Праз чорную ціну брывей.
А вецер за вокнамі рве
Атрутную юдаль бальніцы.
. . . . . . . . . . . . . .

Зданьню здаецца парой,
Стаіць ля бальнічных варот,
Як ветрам нагнаны сумёт,
Настарожлівасьцю вартавой
Хатка (былая капліца)
Вартаўніка бальніцы.

Марыля зайшла. У жарыльні
Тлее малінавы прысак.
Просіць старожку Марыля
Да Паўла занесьці запіску.

Старожка
Бурчлівым скрогатам:
— Тут не радзільня,
Што гэта...

Марыля старожку прасіла,
Словам пакорным прасіла,
Як родную маці прасіла,
Упартасьці рвала завесы.

Марыля прасіла, старожку
Марыля скарыла старожку,
Запаланіла старожку,
Старожка запіску панесла.

## 12

Рань у зорах ляскае,
Зарэе ў зорах рань.
Сьнежаньская, ясная,
Зазыўная зара.

Небаспад абвязаны
Бурштынавай каймой.
Зоры, быццам блазны,
Ўцякаюць чахардой.

Даўгою вераніцаю
Шнуруецца абшар:
Угрунь цягнік імчыцца,
Усхіпвае дымар.

Дым цыгар, як лёканы,
Ў вагоне б'ецца звон.
А вецер б'ецца ў вокны,
Ён просіцца ў вагон.

Марыля, як прыпаяна,
Паглядвае ў вакно.
Ў вёсцы—як была яна
Ледзь помніцца,—даўно.

— Цяпер зусім інакшаю,
Другой, зусім другой,
Вёска саламяшная,
Спаткаюся з табой!

Колькі сіл, напорнасьці
Заве ў грудзёх маіх—
Гарэць, тварыць, да зор расьці
Адвеку агнявых.

Поступам гартованым
Іду ў жыцьцё далей.
Шлях мой заваёваны:
Давай, цягнік, хутчэй!..

Жыцьцё зьмяняецца, зьмяняюцца ідэі.
Расьце сасна, а поруч тлее корч.
Радзіўся чалавек—гаспадаром ідзе ён
Любіць і стэп, і лес, і камень гор.
Пануе дзень, сутоньне пакарылі.
На зломе скал, на зломе стромкіх круч,
У штурме хваль—Надзьвіліна Марыля
Радзін сваіх уславіла зару.
На рыштаваньнях песьнямі зарэе.
Здабыта ў будучыню вернае старно.
Жыцьцё зьмяняецца, зьмяняюцца ідэі.
Пануе дзень, калі змаглася ноч.

1927—1931.

